# ЯКУБ
# КОЛАС

## ТОМ
## I

## ВЫПУСК ПЕРШЫ

БЕЛАРУСКАЕ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

ЯКУБ КОЛАС
(ТАРАС ГУШЧА)

# ЗБОР ТВОРАЎ

З ПОРТРЭТАМ АЎТАРА
І КРЫТЫЧНА-БІОГРАФІЧНЫМ
НАРЫСАМ І. ЧАРЖЫНСКАГА

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

ЯКУБ КОЛАС
(ТАРАС ГУШЧА)

# ЗБОР ТВОРАЎ

ТОМ ПЕРШЫ

*ВЫПУСК ПЕРШЫ*

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК 1928

## I *

Калі ад м. Стоўбцаў падацца ўверх па р. Нёману, то, прыблізна праз 9 вёрст, натрапіш на фамільнае гняздо Якуба Коласа, сяло Мікалаўшчыну, раскінутае на правым беразе гэтае слыннае беларускае ракі. У пору дзяцінства поэта гэта сяло акружана было з трох старон вялізнымі абшарамі Радзівілаўскіх лясоў і толькі з захаду ўпіралася ў няшырокую, але даўгую Нёманскую даліну, па другі бок якой цягнецца нявысокае ўзвышша, завязанае вузлом у г. зв. „Дзямянаў гуз", увекавечаны ў Коласаўскай творчасьці. Мікалаўскі рэльеф надзвычайна маляўнічы: бясконцы лес, які сям-там прасьвечваецца жоўта-белымі ўзгоркамі, сьветла-зялёнымі плямамі ніў, серабрыстым мільгаценьнем Нёманскае лукі пад наглядам „Дзямянавага гуза".

Сяло Мікалаўшчына вялікае: да 350 двароў і каля 1.500 душ насяленьня. Выгляд сяла вельмі праўдзіва апісан поэтам у яго вядомым вершы „Вёска" і ў повесьці „У глыбі Палесься" (сяло Мікуцічы). Рольніцтва—асноўны занятак мікалаўцаў. Аднак, з прычыны малазямельля (найзаможнейшы мікалавец меў 5 дзесяцін, а вялізарная

---

* Для гэтага біографічнага нарысу, паміж іншым, я карыстаўся матэрыяламі з рукапіснай працы І. Міцкевіча „Культурныя гнёзды на Беларусі", за што і выражаю яму шчырую падзяку. *Ул. Дз.*

большасьць каля 2 дзес.), неўраджайнае глебы (жоўтабелы пясок і крушні каменьняў) і страшэннай цераспалосіцы (зямля кожнае гаспадаркі раскідана ў 15—18 кавалках)—агульны экономічны стан мікалаўцаў быў цяжкі: рэдкі гаспадар мог сяк-так, жывучы на бульбе, пракармiцца сваім хлебам. Асноўная-ж маса насяленьня павінна была шукаць сабе жыцьцёвых сродкаў з іншых крыніц. Такімі крыніцамі, перш за ўсё, зьяўляліся: распрацоўка панскіх ляд на палову ўраджаю; рубка і вывазка зімою таварнага лесу, а летам—сплаў яго па Нёману да Коўны і далей у Прусы (за ўвесь сплаўны сэзон мікалавец зарабляў 30—40 руб. на сваіх харчох, але, ня гледзячы на гэту танізну, рэдкі з іх не займаўся плытніцтвам, пачынаючы ўжо з 14 год); выхад лішніх рабочых рук station за-ўсёды з вёскі: пачынаючы з 80-ых, а асабліва 90-ых гадоў Мікалаўшчына стала масавым пастаўшчыком вясковае інтэлігенцыі (настаўніцтва, драбнейшага чыноўніцтва), а часта і рабочых у вялікшыя прамысловыя цэнтры. Ня было ў Мікалаўшчыне бадай такое сям'і, якая-б такім шляхам ня выслала свайго чалавека ў „людзі“.

Быць можа, у рэзультаце гэтае экономічнае канечнасьці адрывацца ад родных палеткаў у характары мікалаўцаў злажыўся пэўны мясцовы патрыотызм, моцнае закаханьне да свае вёскі, да Нёмана, да сваіх людзей. Так, мікалаўская дзяўчына лічыла для сябе вялікім няшчасьцем ісьці замуж у чужую вёску. Да свае роднае мовы мікалаўцы таксама адносіліся з пашанаю, замілаваньнем, а нават ганарыліся ёю. Яны ніколі ня лічылі яе „мужычаю“, брыдкаю мовай, з якой сорамна выступаць на людзях. Наадварот, з чужым чалавекам стараліся гаварыць толькі на сваёй, мікалаўскай, мове; яна мела багата фонэтычных і лексычных асаблівасьцяй як у параўнаньні з мовай суседніх вёсак, так і ў параўнаньні з мовай шляхты, якую мікалаўцы пагардліва называлі „шэршнямі“.

У даўнейшыя часы мікалаўцы былі вуніятамі-каталікамі. У сяле быў вуніяцкі касьцёл, а пры касьцёле школа, дзе навучалі дзяцей чытаць на польскай, рускай, а нават на лацінскай мовах. Дзякуючы гэтаму, сярод старых мікалаўцаў была значна пашырана пісьменнасьць і знаёмства з кнігай. Найчасьцей, праўда, такой кнігай зьяўлялася кантычка ці іншая набожная літаратура, але траплялі часамі ў рукі мікалаўцаў і сьвецкая кніжка, і тады на вячорках найлепшы ў сяле чытач чытаў яе пры напружанай увазе і захапленьні прысутных. Хадзілі па руках мікалаўцаў часамі і рукапісныя творы на беларускай мове. Усё гэта падрыхтоўвала ўдзячны грунт для асьветы. І калі ў 70-ых г. г. была адчынена ў сяле дзяржаўная расійская пачатковая школа, то яе спаткалі мікалаўцы прыхільна, перапоўніўшы яе сваімі дзецьмі, спачатку хлопчыкамі, а пасьля, з 80—90 г.г., і дзяўчаткамі. Гэта школа стала асьветным асяродкам ня толькі для дзяцей, але і для дарослых. Калі ў сьвяточныя вечары настаўнік наладжваў чытаньне („Дуброўскага“ і „Капітанскую Дочку“—Пушкіна, „Тараса Бульбу“—Гоголя і інш.), то сьцены школы не маглі зьмясьціць слухачоў. Праз школу мікалаўцы пазнаёміліся і з газэтай. Наогул трэба сказаць, што Мікалаўшчына здаўна карысталася славай культурнай вёскі; сюды найперш пападала і нелегальная літаратура, дзякуючы якой мікалаўцы атрымлівалі і пэўнае політычнае выхаваньне і грамадзкую сьвядомасьць.

У часы ліквідацыі вуніі на Беларусі касьцёл у сяле быў зачынен, а мікалаўцы казацкімі нагайкамі былі перахрышчаны ў праваслаўе. На гэтай глебе ў Мікалаўшчыне вырас з часам рэлігійны індэфэрэнтызм у сялянскай масе і сьвядомы атэізм у вучнёўскай, настаўніцкай і наогул больш інтэлігентнай моладзі, сярод якой к канцу XIX ст. лічылася проста модай і добрым тонам кпіць з абрадаў і прыслужнікаў рэлігійнага культу. Матэрыялам для сцэнкі антырэлігійнай дзейнасьці комсамольцаў, апісанай Коласам у апавяданьні „На прасторах жыцьця“, узят

падобны факт, які здарыўся ў канцы XIX ст. якраз у Мікалаўшчыне, дзе моладзь разбурыла старэнькую капліцу з вялікім крыжам.

---

Дзед Я. Коласа, Казімір Міцкевіч, пакінуў чатыром сваім сыном, Пятру, Яўхіму, Міхалу і Антону, гаспадарку несамавітую, тыпова серадняцкую ў Мікалаўскіх умовах. Кіраўніцтва гаспадаркай перайшло да старэйшага сына, Пятра; жывы інвэнтар гаспадаркі складаўся з аднаго коніка, дзьвёх кароў і некалькі штук дробнае жывёлы. Гэта гаспадарка, як і большасьць мікалаўскіх гаспадарак, не давала выстарчальных жыцьцёвых сродкаў, і братом, асабліва Міхалу, прыходзілася здабываць іх на лесараспрацоўках і плытніцтве. Але і гэта ня было выхадам, бо на такой мізэрнай гаспадарцы, нават пры пабочных заработках, чатыром братом было цесна. Прышлося разгрузіць гаспадарку ад лішняй рабочай сілы. Засталіся на ёй старэйшыя браты, а Міхал з Антонам прымушаны былі расстацца з Мікалаўшчынай. Міхал знайшоў сабе пасаду лясьніка ў лясох князя Радзівіла. Пры ім быў і малодшы брат Антон. Пасада лясьніка, ня гледзячы на яе няпэўнасьць і бязупынную залежнасьць ад ласкі і настрою пана лясьнічага, усё-ткі давала братом лепшы матэрыяльны дабрабыт у параўнаньні з плытніцкім хлебам.

Дзядзькі Я. Коласа нічым асаблівым не выдзяляліся з агульнай масы мікалаўцаў. Праўда, Пётр лічыўся даволі пісьменнай асобай у сяле, быў граматны на дзьвёх мовах—рускай і польскай. У сваю бытнасьць у маскалёх быў нават пісарам. Любіў чытаць кнігі, дзякуючы чаму меў невялікую літаратурную начытанасьць. У грамадзкім жыцьці Мікалаўшчыны, аднак, ён ніякае, больш-менш значнае, ролі не адыгрываў. Яшчэ больш асьвечаным быў дзядзька Антон, які добра скончыў Мікалаўскую

пачатковую школу. „Ён ведаў многа розных расказаў, казак і ўмеў цікава іх расказваць. Таксама ведаў ён і многа песень, але, галоўным чынам, з розных песеньнікаў. Любіў дзяцей, умеў з імі ладзіць і добра знаў дзіцячую псыхолёгію. Ён-жа прышчапіў мне любасьць да навукі і вельмі зацікавіў байкамі Крылова",—так характарызуе Антона сам поэт *. Сваім параўнаўчым дабрабытам сям'я Міхала была ў значнай меры абавязана іменна Антону, разумнаму і шчыраму гаспадару, здатнаму на ўсе рукі працаўніку, скромнаму і цьвярозаму ў жыцьці. Антон, у істоце, і вёў усю гаспадарку, ад якой сям'я мела бадай увесь свой набытак, бо служылі лясьнікі, галоўным чынам, за зямлю, што ўваходзіла ў лясьнікову пасаду.

Бацька поэта, Міхал Казіміравіч, быў меней пісьменны за сваіх братоў, але ўсё-ткі „ўмеў расьпісацца, чытаць папольску і паруску. Разьбіраў нават і рукапіс" *. Затое-ж ён вызначаўся паміж мікалаўцаў як сваёй постацьцю, так і размашыстасьцю сваёй натуры. Высокага росту, стройны, з кучаравай галавой, разумна-выразьлівым, энэргічным тварам Міхал адразу зварачаў на сябе ўвагу кожнага, хто з ім спатыкаўся. Калі дадаць да гэтага пэўную далікатнасьць і шляхетнасьць яго манер (рэзультат, паміж іншым, плытніцкіх падарожжаў па сьвеце),здольнасьць трапна, дасьціпна і вобразна выказваць сваю думку, вясёлы і кампанейскі характар,—то стане зусім зразумелым тая пашана і нават зайздрасьць, якую выклікаў да сябе бацька поэта з боку суседзяў і сваякоў. З Мікалаўшчынай Міхал у сваю бытнасьць лясьніком ніякіх экономічных сувязяй ня меў, бываў там толькі або як госьць у сваякоў, або па службовых справах. У лясьніцтве цаніўся як умелы і працавіты лясьнік.

Зьвярнемся цяпер да радні Я. Коласа па лініі яго маткі—Ганны Юр'еўны Лёсік. Лёсікі—жыхары таксама

---

* Аўтобіографія.

Мікалаўшчыны. Маючы мала сваёй зямлі, арандавалі яны яшчэ некалькі палеткаў у лясьніцтве, што пры іх шчырай працы давала магчымасьць ім жыць даволі заможна ў параўнаньні з іншымі мікалаўцамі. Сям'я была вялікая: бацькі, 7 сыноў і 3 дачкі. Дзед Я. Коласа, Юры Лёсік, быў самым паважаным чалавекам у сяле (доўгі час нязьменна выбіраўся старастам) не за сваю заможнасьць, а за яго інтэлектуальную адаронасьць. „Ня гледзячы на тое, што ён быў ня надта пісьменны, лічыўся самым разумным сярод сялян, умеў бойка, талкова, упэўнена і красамоўна, ад усяго сэрца гаварыць; меў высокую сумленнасьць; разумны і працавіты гаспадар, майстар на ўсе рукі: ён быў лепшы рыбак у сяле, ён выдатны садоўнік, ён вядомы пчаляр, ён-жа і сталяр. Ня было таксама больш вясёлага, мілага, прыемнага кампанейца за банкетным сталом, як Юры Лёсік, дзе ён заўсёды вядзе рэй. Жарты, гомэрычны рогат, вясёлы шум, каскад вострых, трапных славечак так і сыпаліся ад яго. А далей разудалыя, ад усяе шчырасьці, скокі, з асаблівым подсьвістам, прыпеўкамі. І ўсё гэта—у граніцах вялікага далікацтва, бяз грубага слова, бяз грубага выбрыку"*. Вобраз гэты дзеда Я. Колас яркімі фарбамі зарысаваў у „Новай Зямлі" (разьдзел „Дзедаў човен"). Даволі цікавай і колёрытнай фігурай у родзе Лёсікаў зьяўляўся малодшы брат Юр'я, Антон, блізкі портрэт якога перадаў Я. К. у п'есе „Антось Лата". Маці поэта, Ганна Юр'еўна,—ціхая, добрая, разумная (хоць і няграматная) і сардэчная жанчына, клапатлівая і ласкавая матка, умелая і працавітая гаспадыня, тактоўная і далікатная суседка. З яе іменна сьпісвае Я. Колас кожны раз портрэт, калі яму патрэбен высока-дадатны вобраз беларускае простае вясковае жанчыны вялікіх моральных і чалавечых якасьцяй.

---

* Адзначаная праца І. Міцкевіча.

## II

Канстантын Міхалавіч Міцкевіч, вядомы ў літаратуры беларускай пад псэўдонімамі Якуб Колас (у вершаванай поэзіі) і Тарас Гушча (у мастацкай прозе), нарадзіўся ў 1882 г. 22 кастрычніка ст. ст. у засьценку Акінчыцах, недалёка ад Мікалаўшчыны, дзе яго бацька Міхал меў першую пасаду лясьніка.

„Мае дзіцячыя годы прайшлі ў адзіноце“—гэтай фразай пачынае поэт сваю аўтобіографію. І сапраўды. Сухошчына, або Ласток, дзе прайшлі самыя раньнія дзіцячыя годы Я. Коласа, стаяў убаку ад гасьцінца і вёсак, сярод лесу, які адгароджваў лясьнікову пасаду ад наўкольнага сьвету. Гэтая акалічнасьць ставіла будучага поэта ў асаблівую блізкасьць да прыроды, аддавала яго чулую і ўражлівую псыхіку пад моцны ўплыў яе. „Любіў я вясною на ўсходзе сонца зашыцца куды-небудзь у куток і слухаць жаўранкаў. Мне тады здавалася, што жаўранкі ў другіх мясьцінах ня так сьпяваюць, як нашы“ *,—у такім вось кірунку пачалі складацца і фармавацца першыя парасткі яго сьветаадчуваньня; кажу сьветаадчуваньня, бо стравы для сьветапазнаньня тут бадай што ня было. Людзкая грамада, яе працоўны быт, былі недаступны назіраньню ў гэтай глухой лясной абстаноўцы. Праўда, здаралася, што лясьнікова пасада бачыла часамі ў сябе госьцем якога-небудзь сваяка з Мікалаўшчыны, які расказваў пра жыцьцё вёскі, але гэта было так далёкім і незразумелым хлапчаню. Больш даступнымі яго сьвядомасьці былі гутаркі бацькоў з лясьнікамі, што даволі часта наведваліся на лясьнікову сялібу. Гаварылася тут многа аб лясьніцкім быце, аб службовых абавязках, аб адносінах паноў да лясьнікоў, „і ў мяне з самага раньняга дзяцінства закідалася варожае пачуцьцё да паноў, а з часам яно яшчэ больш узмацнілася“—успамінае аб

* Аўтобіографія.

сабе поэт *. К гэтаму часу адносяцца і першыя пачаткі граматы. „Вучыцца чытаць прабаваў сам. Карыстаўся такім спосабам: некаторыя літары чамусь рабілі на мяне большае ўражаньне, і я пытаў асобу досыць паважную ў гэтай справе, як называецца такая літара, і стараўся запомніць назву яе. Так выўчыў я ўсе літары, але чытаньне давалася на першых часох трудна“*.

Але вось лясьніка Міхала перакідаюць з Сухошчыны ў Альбуць. Адарванасьць ад людзкое грамады скончылася. Лясьнікова пасада ў Альбуцы стаяла пры гасьцінцы, па якім бязупынку ішоў і ехаў народ з розных мясьцін. Часта гэты народ спыняўся ў лясьніковай сялібе. І тады маламу Костусю было чаго наглядзецца і наслухацца. Цікавыя гутаркі гэтых незнаёмых людзей аб розных навінах і падзеях, часта іх да глыбіні хваляваўшых, простыя, часамі наіўныя, але заўсёды трапныя характарыстыкі людзей розных станаў і прафэсій, ад пана да карчмара ўключна, фантастычныя, але выкладаныя з поўнай верай у іх рэальнасьць, прыгоды і здарэньні прагавіта паглыналіся дзіцячай псыхікай будучага поэта, станавіліся багатай жыўнасьцю для яго духоўнага росту, пашыралі запас яго ведаў аб людзях і жыцьці, давалі багаты матэрыял дляназіраньня.

З другога боку, і прырода ў Альбуцы была надзвычай багата, прыцягвала поэта ня менш як у Сухошчыне, трымала і далей яго ў непасрэднай блізкасьці да сябе. Але гэта блізкасьць да прыроды выліваецца ўжо ў практычныя формы, што дыктуюцца гаспадарчымі патрэбамі і ўмовамі, паводле якіх не павінна быць у сям'і дармаеда. „Лоўля рыбы, зьбіраньне ягад і грыбоў, работы на полі і на лузе, каля дому“*—вось формы гэтай блізкасьці да прыроды Я. Коласа ў Альбуцы. Але гэты працоўны быт толькі спрыяе як духоўнаму, так і фізычнаму яго росту, даючы „багаты зьмест жыцьця“*. Тут Я. Колас

* Аўтобіографія.

пашырае і далей разьвівае пачаткі сваёй граматнасьці ўжо пад кіраўніцтвам „дарэктара“, вясковага хлопчыка, скончыўшага толькі пачатковую школу, якога наняў Міхал за 3 рублі на зіму для Костуся і яго двох старэйшых братоў. Характар гэтае навукі апісан у „Новай зямлі“ („Начаткі“ і „Дарэктар“). Тут Я. Колас зрабіў і першы крок па шляху літаратурнай дзейнасьці, калі яму было 12 год. Аб гэтым здарэньні поэт апавядае наступнае: „Помню, прачытаў свой верш „Вясна“ свайму бацьку; бацька праслухаў мяне ўважна, потым запытаў, ці праўда, што гэта напісаў я, і даў мне рубель гасьцінца“*. Схільнасьць і здольнасьць да навукі, асабліва да чытаньня кніг, усё больш і больш выяўлялася ў малога Костуся. Пасьля „дарэктара“ ён паступае ў Мікалаўскую пачатковую школу. Тут з прагавітасьцю накідаецца на чытаньне рускіх клясыкаў, што былі ў бібліотэцы настаўніка. Популярнейшыя творы Пушкіна, Гоголя, Тургенева былі прачытаны поэтам у гэту пору. Асабліва захапляецца ён басьнямі Крылова, якога ён потым амаль-што ўсяго знаў напамяць. Калі Я. Коласу мінула 15 год, ён паступіў у Несьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, якая была даволі тыповай для гэтага роду навучальных установ б. Расіі, зразумела, з некаторымі асаблівасьцямі, што дыктаваліся мясцовымі беларускімі ўмовамі.

Выхаваньне вялося ў ёй у духу праваслаўнай рэлігійнасьці і расійскага патрыотызму. Першая праводзілася праз строгія пасты, доўгія ранішнія і вячэрнія малітвы, праз нязвычайны доўгія царкоўныя службы, праз абавязковае чытаньне царкоўнае літаратуры. У сэмінарскай навучальнай програме „закон божы“ займаў першае і галоўнае месца (каля 1/3 усяго навучальнага пляну). Для прышчапленьня расійскага вялікадзяржаўнага патрыотызму служылі бадай усе іншыя прадметы і ўся цалкам выхаваўчая сыстэма сэмінарыі; расійская мова адыгры-

* Аўтобіографія.

вала ў гэтым сэнсе першую ролю. Лекцыі яе мелі сваім асноўным заданьнем перш за ўсё выклікаць у вучня агіду да беларускае роднае мовы, наогул да ўсяго мясцовага, беларускага, і захапленьне да рускае мовы, культуры, нацыі і г. д. Для гэтай мэты пэдагогічным пэрсоналем была выпрацавана цэлая сыстэма, праўда, не заўсёды лёгічная, прыёмаў дэнацыяналізацыі беларускага студэнцтва. Складаліся, напрыклад, цэлыя слоўнікі беларускіх слоў, непадобных да рускіх, і вучні вывучалі гэтыя словы ў альфабэтным парадку напамяць. За ўжытае ў пісьмовых працах беларускае слова вучань атрымліваў найніжэйшы бал.

Пры сэмінарыі была вучнёўская бібліотэка, у якой падбор кніжак быў вельмі тэндэнцыйны. Руская літаратура была прадстаўлена, галоўным чынам, Карамзіным, Сумарокавым, Канцямірам і г. п. Замежная—Вальтэр-Скотам, Купэрам, Жуль-Вэрнам і інш. Былі, праўда, творы і такіх клясыкаў, як Пушкін, Гогаль, Тургенеў, Крылоў і інш. Але гэта літаратура не асабліва рэкомэндавалася сэмінарыстым, а твораў Л. Толстога ў сэмінарыі не паказвалі і ў вочы. Таксама ня мелі сэмінарыстыя магчымасьці знаёміцца і з крытычнай літаратурай; а газэты проста не дапушчаліся ў сьцены сэмінарыі.

Зразумела, што пры такіх навучальных умовах вучні сэмінарыі атрымлівалі ў сэнсе асьветы мала. Ня многа мог зачарпнуць там асьветы і Якуб Колас. Аднак-жа, яго прыродная мастацкая здаронасьць ня была і тут заглушана. У вольны ад заняткаў час ён практыкуецца над складаньнем вершаў, пераважна басеннага жанру (уплыў Крылова), і скора заваёўвае сярод сваіх таварышаў рэпутацыю поэта. Піша тут ня толькі паруску, але і пабеларуску. Апошняе, паміж іншым, тлумачыцца і ўплывам беларускае літаратуры, з некаторымі творамі якое ў рукапісах поэт быў ужо знаёмы ў пачатковай школе. Асаблівае ўражаньне зрабілі на яго вершы Я. Лучыны; іх поэт вывучаў напамяць і дэклямаваў. Адначасна з

першымі сваімі літаратурнымі крокамі, Я. Колас усё больш і больш аддаецца чытаньню рускіх клясыкаў; асабліва захапляецца вершаванай поэзіяй. Сэмінарская бібліотэка ўжо яго не здавальняе. Але тут на выручку прыходзіць настаўнік рускае літаратуры, Кудрынскі, які дае доступ Я. Коласу ў сваю бібліотэку. Аб гэтай асобе поэт успамінае наступнае: „Вялікі ўплыў меў на мяне настаўнік Кудрынскі. Адзін мой верш, „Вясна“, папаў на вочы Кудрынскаму, ён мне сказаў: „Вот ваше настоящее призвание“. Гэта заахвоціла мяне, я стаў пісаць больш *. З гэтага часу на грунце літаратурных інтарэсаў завязваецца блізкасьць паміж настаўнікам і вучнем. Кудрынскі становіцца ня толькі афіцыяльным настаўнікам, але першым слухачом і крытыкам коласаўскіх вершаў. Кватэра Кудрынскага, частым госьцем якой бывае Я. Колас, зьяўляецца як-бы літаратурнай школай для апошняга. І ня кепскай школай. Літаратурна-асьвечаны, сам літаратар, супрацоўнік некалькі літаратурных часопісаў, Кудрынскі быў заўсёды ў курсе літаратурнага жыцьця, мод, густаў. Лібэрал, як пэдагог і грамадзянін, ён быў нейк як-бы з боку ад сэмінарскай настаўніцкай грамады, даволі чужым ня толькі для апошняе, але для ўсяе сэмінарскае выхаваўчае сыстэмы. Заўважаныя ў маладога поэта мастацкія здольнасьці стараўся падтрымаць шчырым і аўторытэтным словам, практычнай парадай. Дык ня дзіва, што Я. Колас быў пад яго ўплывам за ўвесь свой побыт у сэмінарыі. Як конкрэтна адгукнуўся гэты ўплыў Кудрынскага на маладога поэта, нельга пакуль выявіць, бо, на жаль, твораў Я. Коласа гэтага сэмінарскага пэрыяду не захавалася. Сшытак з творамі гэтага пэрыяду прапаў у 1902 г. ў дарозе ў часе буры, а рэшта юнацкіх твораў загубілася ў часе эвакуацыі поэта з Беларусі ў 1915 г.

У 1902 г. Я. Колас апусьціў сьцены сэмінарыі ня толькі з пэўнай пэдагогічнай асьветай, але і літарацкай.

---

* Аўтобіографія

## III

Разгледжаны вышэй пэрыод дзяцінства і юнацтва Я. Коласа, г. зн. пара прабываньня ў сям'і сваёго бацькі, пара фізычнага і духоўнага росту, пара натуральнага выхаваньня на лоне прыроды ў працоўнай абстаноўцы, пара вырастаньня з самых гушч працоўнага быту, пара першых і далейшых крокаў духоўнае асьветы, пара формаваньня дзіцячае, а затым юнацкае псыхолёгіі паслужылі найглыбейшай крыніцай для ўсёй творчасьці Я. Коласа, а ў асаблівасьці для яго поэмы „Новая Зямля". Уражаньні, глыбока запаўшыя ў дзіцячую псыхіку будучага вялікага поэта аб асобных членах сваёй сям'і, пачынаючы ад бацькі Міхала і маткі Ганны, родных братоў і дзядзькоў сваіх, аж да далёкіх сваякоў, што наведваліся ў дом лясьніка Міхала, захаваліся нясьцёртымі ў дзіцячай інтэрпрэтацыі, каб з часам у поэме „Новая Зямля" выліцца ў галерэю мастацкіх вобразаў тыпаў (не пазбаўленых праз гэта пэўнай ідэалізацыі і прыаздобленьня). Працоўная і бытавая абстаноўка, у якой рос і гадаваўся поэт, знайшла сваё мастацкае адтварэньне ў „Новай Зямлі" бадай ва ўсіх яе дэталях і асаблівасьцях. У рэзультаце, героі „Новае Зямлі"—гэта больш-менш дакладныя портрэты членаў сям'і поэта, паказаныя на фоне больш-менш дакладнай сямейнай хронікі. Зразумела, у гэтых портрэтах засталося ня мала рыс, не заўсёды об'ектыўна-ўласьцівых гэты героям, як тыпам, рыс, якія ў значнай меры зьяўляюцца продуктам яшчэ дзіцячае апэрцэпцыі; у рэзультаце гэтага поэма і агорнута ароматам нейкае неспажытае сілы, жыцьцёвасьці і ранічнай бодрасьці, якімі прасякнуты псыхолёгічныя, бытавыя і пэйзажныя малюнкі яе.

Але гэты першы коласаўскі біографічны цыкль паслужыў крыніцай ня толькі для поэмы „Новая Зямля". Цэлы рад апавяданьняў—„Васіль Чурыла", „Чорт", „Калядны вечар", „Кірмаш", „Малады дубок" і інш., а таксама

і лірычных вершаў напісан на біографічным матэрыяле гэтага цыклю. У пералічаных апавяданьнях мы бачым мастацкую рэпродукцыю таго-ж кола людзей і быту, што паслужылі праобразамі для герояў „Новае Зямлі“. Так, напрыклад, Васіль Чурыла ў апавяданьні тэй-жа назвы, Максім Заруба ў апавяданьні „Малады Дубок“, Міхась у апавяданьні „Чорт“—гэта толькі варыянты ўсё таго-ж Міхала з „Новае Зямлі“, а малюнак „На калядны вечар“, глыбока-журботныя баляды „На адзіноце“, „Маці“, бурна-жыцьцёвы верш „На рэчцы“—нішто іншае, як эпізоды Коласавае сямейнае хронікі. Наагул, раньнія ўражаньні аб прыродзе, людзях, быце ня толькі палажаны ў аснову поэмы „Новая Зямля“, але і паслужылі матэрыялам для цэлага раду ці то самастойных драбнейшых твораў, ці ўкроплены ў вялікшыя творы ў якасьці паасобных сцэн, малюнкаў, эпізодаў.

З гэтага біографічнага цыклю чэрпае Я. Колас, галоўным чынам, матэрыял для сваіх выдатных малюнкаў прыроды. Бо сапраўды: пад гоман магутных дубоў, крыжаставерхіх елак, векавечных хвоек і круглалістых асін, што акружалі лясьнікову пасаду ў Акінчыцах, нарадзіўся поэт. І першы крык дзіцяці зьліўся з посьвістам-завываньнем васеньняга ветру і загубіўся ў аднастайна-панурым шуме беларускага бору. А праз маленькае ваконца глядзела на дзіця шэрае сьлязьлівае васеньняе неба ды аголеныя галіны вярбы пры кожным парыве ветру поўзалі па шыбах, як-бы прыносячы першае прывітаньне нованараджонаму. І з гэтага моманту зачараванае кола беларускае прыроды ні на крок не выпушчала ад сябе ў працягу ўсяго дзяцінства, а часткай і юнацкіх год нашага поэта.

На зьмену восені прыходзіла беларуская зіма, зьвісала „сьнежнай сеткай“ над белымі далямі, у „пуховыя хутры апранала ліпы і клёны“, скоўвала лёдам рэчкі і лясныя азярыны, а адначасна з гэтым прыносіла будучаму поэту новыя радасьці, на ўражлівай душы яго вы-

шывала новыя, дзіўна-прыгожыя ўзоры, песьціла зрок яго сьнежнай іскрыстасьцю, чароўнай цішынёй зімовага лесу ўдалікатняла слух яго. Душа дзіцяці як-бы ў нейкім вешчым прадчуваньні тых бязьмерна-важных творчых заданьняў, што стануць у будучыне перад Я. Коласам і загадаюць яму выявіць хараство беларускае прыроды,—усімі фібрамі льнула да гэтае прыроды, зьліваючыся з ёю ў адным сугалосьсі. І прырода давала адказ на гэтае да яе парываньне: пералівы вады ў рэчцы пачыналі гучэць цуднай нячуванай мэлёдыяй, пад акомпанімэнт гэтае мэлёдыі лес складаў дзіўную казку-фантазію, а звонкія марозныя далі ўторылі ім.

Новыя фарбы, новыя гукі, новыя вобразы прыносіла вясна, беларуская вясна, апранутая ў яркую зелень лясоў і гаёў, апяразаная зялёнымі лугамі, што „абрусам пышным і шырокім“ расьцілаюцца абапал Нёмана, увенчаная ўзгоркамі, маляўніча раскіданымі на фоне блакітных вясьняных даляў.

Але найбольшае рабілі ўражаньне, найглыбей западалі ў душу поэта летнія малюнкі. Ясна-сіні полаг неба зьвісае над „квяцістымі лугавінамі“, што „зьзяюць на сонцы ў пералівах пяшчотных тонаў“; Нёман бурліць, адліваючыся срэбрам у праменьнях сонца; „брылянцістыя росы“ зіхацяць і бурштынам пералівающца ў летнюю раніцу; хоры птушак пяюць гімн хараству прыроды...

Вось дзе крыніцы і вытокі прырода-апісальнай лірыкі Я. Коласа. Зарадзілася яго мастацкая муза, як і сам поэт, на лоне беларускае прыроды. Нашы лясы і нівы, лугі і ўзгоркі былі яе калыскай. Гадавалася яна пад шум беларускага бору і „песьні звонкія палёў“, абмывалася ў „брылянцістых росах“ Наднёманскіх сенажацяй, у сьветлых хвалях Нёмна, карміласся мядовым запахам грэчак і чаромхі, гартавалася ў „вогненных бліскавіцах“ летняе навальніцы, пад грукат дрыгучы громаў-пяруноў; а часамі ліру сваю строіла пад тоны

„песьні салаўінай“, пад ціхі шопат ветру „дурасьлівага“, калі ён „траве зялёнай чэша грывы“, пад гукі „вячэрняга маленьня“ прыроды. Беларуская прырода шырокай многаводнай ракой улілася ў творчасьць Я. Коласа. І таму яго поэзія нам гэтак блізка і зразумела, таму ад яе вее на нас смалістым запахам сасновых бароў, ап'яняючым ароматам аксамітных сенажацяй, залатым блескам сьпелых ніў і цудным мільгаценьнем валошкі ў збожжы.

Але, зразумела, у гэты свой першы біографічны цыкль пранікл\ивая і прагавітая да пазнаньня натура будучага поэта не абмяжоўвалася бытам сваёй сям'і і хараством наўкольнае прыроды, як ядынымі крыніцамі сьветапазнаньня; лясьніковая пасада, а затым сьцены сэмінарыі, не маглі ўтрымаць яго ў сваіх граніцах. Надыходзілі моманты, калі цеснымі рабіліся лясныя палянкі, калі нудным здаваўся гул бору, і надакучала птушынае шчабятаньне. Дый само жыцьцё прымушала выходзіць часамі па-за межы гэтых палянак... і тады адкрываліся перад зрокам маладога мастака новыя малюнкі... малюнкі беларускае вёскі.

А ў якой-жа дысгармоніі з наўкольнай прыродай былі гэтыя вясковыя малюнкі! „Пакрывіліся хаты, абвісьлі стрэхі на гумнах, сінія купіны моху тоўстаю кароюляглі па гнілых саломеных стрэхах. Зьбіўся ў кучу будынак. Распаўзьліся па полі, як чэрві ў нягоду, бедныя мужычыя хаты. Навалены ў кучу бярвеньні, стружкі, салома. Дзе-ні-дзе гляне нудная вярбіна, блісьне бярэзіна, выскачыць клён..“ *. Цяжкае ўражаньне робяць вясковыя хаты знадворку. Але яшчэ горшы выгляд маюць у сярэдзіне: „У хаце чорна, няпрыбрана; парасяты пад сталом; павуцінаю заткана столь і кут пад абразом.“.. Але вось выбягаў хлапчына з нуднай і пану-

---

* „Родныя Зьявы“, стар. 5 і 6.

** „Песьні Жальбы“, стар. 53.

рай, убогай і бруднай вёскі на бліжэйшы ўзгорак, і перад ім, як-бы з зямлі, вырастаў абраз, дзе „поруч з убогімі людзкімі будынкамі ўпёрліся ў неба панскія палацы, зелянеюць сады, ломяць гальлё яблыкі і грушы; шырока і сьмела раскідаюцца дворныя палеткі, каласуюцца багатыя панскія нівы, пасуцца сытыя коні, валы-рагалі, тысячы авец рассыпаюцца па полі...“ * І вось другая жыцьцёвая дысгармонія. Тут ужо былі намеціліся вытокі соцыяльных мотываў, якімі так багата поэзія Я. Коласа. Да быту беларускае вёскі, хоць здалёк і павярхоўна, але прабуе таксама прыглядацца поэт у свой першы біографічны цыкль, пачынае пазнаваць, праўда, у вельмі і вельмі нязначнай меры, сялянскую грамаду. Аднак, толькі далейшае жыцьцё прывяло поэта да блізкага і грунтоўнага пазнаньня беларускае вёскі, але гэтай вёскай было ня толькі яго фамільнае гряздо, Мікалаўшчына, а, галоўным чынам, паляшуцкая вёска ў Піншчыне.

## IV

Першыя годы настаўніцтва прайшлі на Палесьсі— у Люсіне і Пінкавічах. Гэта былі годы, калі жыцьцё прымушала поэта перш за ўсё пераацаніць тыя цэнасьці, якія пад выглядам асьветы былі прышчэплены яму сэмінарыяй. Няўвязка сэмінарскае „навукі“ з жыцьцём на кожным кроку падсьцерагала маладога настаўніка, які гэтую-ж навуку павінен быў праводзіць і праводзіў праз школу ў сялянскую масу. У сэмінарыі вучылі, „дзяўблі на кожным кроку, як апякуецца царскі ўрад, царскае начальства і сам цар аб народзе, як гэты народ любіць свайго бацьку-цара, як ён заўсёды знаходзіць у яго і ласку і міласьць“. ** Жыцьцё гаварыла на нязьлічоных прыкладах зусім адваротнае. Нязвычайна

* „Родныя Зьявы“, стар. 5 і 6.
** „У глыбі Палесься“, стар. 60.

згушчаная і ўдушлівая атмосфэра экономічнага і соцыяльнага ціску, што панаваў у б. Расійскай імпэрыі напярэдадні рэволюцыі 1905 г., на кожным кроку абвяргала сэмінарскую навуку аб усенародным „благоденствии“ пад айцоўскай „десницей“ божага памазаніка і намесьніка на зямлі. Але політычная несьвядомасьць, больш таго, політычная адурманенасьць, была настолькі вялікая, што поэт ня мог з гэтае супярэчнасьці паміж „навукай“ і жыцьцём зрабіць пэўных вывадаў, сваімі сіламі ня мог з яе выбрацца. Слова соцыялісты для яго азначала таго прапашчага чалавека, які асьмельваецца нядобра думаць аб цару. Але на выручку прышла нелегальная політычная літаратура. Тут з Я. Коласам здарылася нешта аналёгічнае з тым, што здарылася з героем яго повесьці, Лабановічам, калі ён прачытаў упяршыню нелегальную політычную брошуру. „Першае, што адчуў Лабановіч, прачытаўшы кніжачку, быў страх пустаты, як-бы пад яго нагамі захістаўся грунт і перад ім расчынілася нейкае бяздоньне... Гэтая маленькая кніжачка зрабіла цэлую рэволюцыю ў мысьлях Лабановіча...“* Перад поэтам узьнікае новы сьвет. Наладжваюцца сувязі з перадавымі ў політычных адносінах таварышамі-настаўнікамі. Політычная свядомасьць расьце. „У 1905 г. я хоць і ня мог яшчэ добра орыентавацца ў партыях, але быў ужо заўзятым ворагам самадзяржаўя і ў гэтым кірунку вёў работу**. Гэта політычная работа прывяла Я. Коласа на Настаўніцкі Зьезд (1906 г.), актыўнейшыя ўдзельнікі якога, у тым ліку і наш поэт, былі зволены з настаўніцкіх пасад і адданы пад суд. Покуль Віленская судовая палата вяла сьледзтва (1906—1908), поэт, на палажэньні поўлегальнай асобы, прымушан быў шукаць сабе працы і сродкаў для пражыцьця. Зіму 1906 і 1907 г. ён жыве ў брата ў Смалярні, пра-

---

* „У глыбі Палесься“, стар. 110 і 111.

** Аўтобіографія.

цуючы ў нелегальнай школе. Вечарамі піша і складае „Другое чытаньне для дзяцей беларусаў“.

К гэтаму часу адносяцца і далейшыя парасткі яго нацыянальнае сьвядомасьці. Праўда, як ужо вышэй адзначалася, Я. Колас пісаў пабеларуску яшчэ будучы ў сэмінарыі, але гэта яго творчасьць была чыста стыхійнай, пазбаўленай нацыянальнага самаўсьведамленьня. „Беларусь“, „беларускі“, як тэрміны, былі мне вядомы яшчэ ў пачатковай школе, але за гэтымі тэрмінамі ня было ў мяне рэальнага зьместу, толькі-ж яны мяне заўсёды кранаді. Асабліваe ўражаньне яшчэ ў дзяцінстве зрабіў ня мяне адзін рысунак, які спаткаў я ў нейкім рускім журнале; рысунак называўся „Белоруссия“. На гэтым рысунку была паказана карчма, на парозе яе карчмар, а каля парога—п'яны беларускі селянін. Селянін танцуе, а ўнізе подпіс: „Бяз музыкі, бяз дуды ходзяць ногі ня туды“. Рысунак вельмі колёрытна перадаваў беларускі пэйзаж і сцэну*. Рэволюцыя 1905 г. высунула беларускае друкаванае слова напаверх, легалізавала яго, і яно стала фактарам узбуджэньня ня толькі рэволюцыйнага, але і нацыянальнага. Дакацілася гэта нацыянальная хваля і да Я Коласа. Калі ў 1906 г. вышаў № 1 „Нашай Долі“, то на яе старонках апошні выступіў ужо як супрацоўнік гэтай беларускай часопісі (верш „Наш родны край“) і з гэтага моманту беспаваротна ўліўся ў рэчышча беларускага нацыянальнага руху. Выхад першых беларускіх часопісяй, „Нашай Долі“ і „Нашай Нівы“, знаёмства з Уласавым, з дзеячамі беларускіх часопісяй палажылі рэзкую мяжу ў маім жыцьці, і я цалкам аддаўся беларускай справе і беларускай літаратуры“*.

Увесну 1907 году Я. Колас паехаў у Вільню на працу ў рэдакцыю газ. „Наша Ніва“. Кіраўнік газэты, Уласаў, выкарыстоўвае поўнасьцю энэргію маладога

* Аўтобіографія.

энтузіяста-настаўніка і поэта ва ўсіх галінах рэдакцыйнае працы, ад сакратара газэты, літаратурнага рэдактара, да экспэдытара яе ўключна. Але, на жаль, матэрыяльнае ўбоства газэты ставіць поэта, які ня меў ніякіх назапашаных сродкаў, у вялікую нэндзу. Пэнсіі Я. Коласу рэдакцыя не плаціла, абмяжоўваючыся тым, што апошні атрымліваў на кошт рэдакцыі ў таннай сталоўцы абед і да 10 к. у дзень на ўсе іншыя выдаткі. Асобнага памяшканьня для жыцьця поэт таксама ня меў. Рэдакцыя была для яго адначасова і кватэрай. Пасьцельлю служылі кіпы газэт і паперы. Але і пры такіх умовах ня меў поэт спакою. Паліцыя хутка пранюхала аб прабываньні яго ў Вільні і выгнала адтуль. Многа каштавала клопатаў поэту, пакуль ён атрымаў дазвол на пражываньне ў Вільні, гэтым тагачасным асяродку беларускага нацыянальнага руху. Увосень 1907 г. Я. Колас зноў пераехаў у рэдакцыю „Н. Н.“ і працаваў да пачатку 1908 г. Але матэрыяльнае становішча поэта што далей, то ўсё больш пагаршалася. На мізэрныя рэдакцыйныя сродкі жыць станавілася немагчыма. У гэты якраз час адзін магілеўскі памешчык, Гардзялкоўскі, кіруючыся ня зусім пакуль-што для мяне яснымі мотывамі, зьвярнуўся да Ўласава, як да рэдактара газэты, што стаяла ў цэнтры беларускай нацыянальнай работы, з просьбаю прыслаць беларускага настаўніка ў прыватную школу гэтага пана. І туды едзе Я. Колас і вядзе навучаньне пабеларуску, пераважна па газ. „Нашай Ніве“. Сяляне спаткалі гэту першую ў XX ст. беларускую школу прыхільна, і праца ў ёй пакінула ў поэта прыемныя ўспаміны.

Увосень 1908 г. Віленская Судовая Палата разглядала справу Я. Коласа. Абвінавачаньне было выстаўлена яму ня толькі за ўдзел у Настаўніцкім Зьезьдзе, але і, галоўным чынам, за напісаньне рэволюцыйнае проклямацыі. Гэты апошні ўчынак і паслужыў асновай усяго судавога процэсу, у рэзультаце якога поэт атрымаў тры

гады вастрогу. Цікава адзначыць, што гэта проклямацыя была напісана не Я. Коласам, але апошні меў ужо настолькі значны рэволюцыйны гарт, што, хоць і ведаў яе сапраўднага аўтара, палічыў за лепшае самому адбыць кару, а ня выдаць яго. Вастрог адбываў поэт у Менску. „Калі мне прачыталі, што і мне далі тры гады крэпасьці, я зірнуў на сваіх таварышоў, якія прышлі на суд, і засьмяяўся. Ніякага ўражаньня гэтыя тры гады на мяне не зрабілі...“ *—так успамінае поэт аб гэтым процэсе. Але, бязумоўна, гэта былі толькі першыя хвіліны, хвіліны, быць можа, неўсьведамленьня таго, што значыць—тры гады крэпасьці. Ужо першая ноч у Менскім вастрозе перамяніла гэты бястурботны настрой. „І вось цяпер, лежачы тут, я ўявіў сабе гэтыя тры гады і пачуў, што гэта за час: тры гады сядзець пад замком у гэтых брудных сьценах, тры гады чуць на сабе кляймо арыштанта. І сэрца апала, і мне стала цяжка і няпрыемна. Тры гады быць адарваным ад жыцьця, ад людзей, ад усяго таго, з чым зрадзіўся, што было дорага і люба*. Але і гэты распачлівы настрой быў, зразумела, толькі часовым. Прывычка ў значнай меры згладзіла трагізм вастрогу, і апаўшае ў гэту першую ноч сэрца поэта з часам акрыяла і нават запульсавала, як пабачым ніжэй, з вялікай творчай сілай.

Я. Колас папаў у вастрог якраз у пару ліквідацыі тых адносных вольнасьцяй, што існавалі там яшчэ як спадчына рэволюцыйнае пары. 1908 год, год шалёнай палітычнай рэакцыі, не абмінуў і вастрожных парадкаў. Паволі, але няўхільна, сьціскаўся прэс турэмнага рэжыму, друзгочучы пад сабой непакорных вязьняў. Замыканьне камэр, бязупынныя вобыскі, пазбаўленьне вязьняў самых патрэбных прадметаў, кніг, пісьмовых прылад, станавілася звычайнай зьявай. За найменшыя праявы і спробы

---

* „Цені Прошлага“, Вестник Народного Комиссариата Просвещения, ССРБ, 1922 г., № 5—6.

протэсту—суровая кара. Не абмінулі, зразумела, гэтыя „прыемнасьці“ вастрожнага жыцьця і Я. Коласа. Для ілюстрацыі падамо наступны эпізод. Адміністрацыя вастрогу патрабавала, каб вязьні ўставалі ў часе праверак. Я. Колас, у ліку некаторых іншых палітыкаў, адмаўляецца выконваць гэты цэрамоніял. Адміністрацыя звараччаецца да прокурора, а апошні дае загад: калі вязьні ня будуць уставаць пасадзіць іх у карцэр. І, дзякуючы таму, што пры чарговай праверцы поэт усё-ткі быў у ліку тых, што ня выканалі гэтага прокурорскага загаду, яго пасадзілі ў карцар на 7 дзён. У надзвычай жудасных, хаця часамі і непазбаўленых прыроднага поэту гумару, абразох апісан Коласам гэты карцар і яго прабываньне ў ім ва ўспамінах „Цені Прошлага“. ...„Карцар быў глыбока ў мурох. Гэта была сырая шчыліна, паўтара аршыны ўшыркі і аршын 7 ўдоўжкі. У гэту шчыліну і пасадзілі нас трох... Упіхнуўшы нас у гэту сьмярдзючую і сырую з асклізлымі сьценамі шчыліну, старшы назірач замкнуў сярэднія дзьверы, і мы апыніліся ў страшэннай цемнаце. Гэта цемната стала яшчэ больш страшная, калі замкнуліся яшчэ дзьверы знадворку... Першае маё пачуцьцё было—страх. Я баяўся, што нэрвы мае ня вытрымаюць і ў галаве маёй што-небудзь пераблытаецца... Мы паляглі на гразную і мокрую каменную падлогу. Лёгшы на сьпіны, мы якраз залажылі імі шчыльненька ўсю шырыню свайго памяшканьня. Было страшэнна ціха і глуха. Ні адзін зык з двара не далятаў сюды. Толькі чулі мы, як бухалі „парашы“, з якіх арыштанты вылівалі свой бруд у клёзэт, што быў па суседзтву з намі. І тады цэлыя хвалі смуроду ўрываліся ў наш карцар і неміласэрна крыўдзілі нашы насы... На чацьверты дзень нашага сядзеньня нас вывелі на двор пагуляць. Асьвятленьне дня калола нам вочы, галава кружылася, у вачох усё мітусілася і дрыгацела, як жывое, і ўсё здавалася афарбованым у нейкі шараваты зялёны колер. Нашы твары былі цяпер нязвычайна бруд-

ныя, шэрыя, як зямля. Вочы здаваліся зусім выцьвіўшымі і бескалёрнымі. Усё цела прасяклася смуродам нашай шчыліны. Самі сабе былі мы праціўны...“*

Але найбольш прыкрай і цяжкай для поэта была абсолютная адарванасьць ад жывой беларускай нацыянальнай справы, ад працы над адраджэньнем і разьвіцьцём маладой беларускай культуры, адарванасьць ад беларускага друку, ад дзеячоў на ніве беларускае літаратуры. Праўда, поэт у вастрозе многа працуе над папаўненьнем сваёй асьветы, многа чытае і нязвычайна многа піша. Прыблізна 70 % яго лірычных вершаў датованы 1908, 9, 10 і 11 г. г, г. зн. напісаны ў вастрозе. Некаторыя свае вершы поэту часамі ўдавалася пераслаць у „Нашу Ніву“, але ён нічога ня ведаў аб іх далейшым лёсе: ці друкуюцца яны, ці прыхільна спатыкаюцца чытачамі, наагул, ці даходзяць яны да рэдакцыі. Адным словам, пасылаў поэта свае творы ў поўную невядомасьць. І якой нязьмернай радасьцю быў для поэта той дзень, калі ён раптам, зусім неспадзявана, атрымаў экзэмпляр „Песьняў Жальбы“, нелегальнымі сродкамі перасланы яму з Вільні. Гэты зборнік быў зложан бяз ведама і ўдзелу аўтара рэдакцыяй і яе коштам выдан. Факт гэты падвоіў творчую энэргію поэта, і ён прыступае тут, у вастрозе, да ажыцьцяўленьня свайго вялікага мастацкага замыслу. Прага зямлі, як асноўны імпульс сялянскае псыхікі, даўно ўжо прыцягвала да сябе ўвагу Я. Коласа, як удзячны матэрыял для мастацкага апрацаваньня. З асаблівай неадступнасьцю непакоіла гэта тэма поэта ў вастрозе. І вось цяпер ён прыступае да яе ўсутыч. У працягу няцэлага 1911 г. ў вастрозе былі напісаны наступныя разьдзелы „Новае Зямлі“: І, II, III, IV, V, VI, VII, XXVII, XXVIII, XXIX. І хоць задумана была поэма ў вузейшых рамках, поэт у процэсе працы над ёй, пад напо-

* „Цені Прошлага“, Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ, 1922 год, № 5—6.

рам вялізнага матэрыялу, прымушан быў пашыраць іх, покуль поэма ня вылілася ў твор грандыёзнага псыхолёгічнага, бытавога і пэйзажнага ахвату.

Вастрожны пэрыод, хоць для літаратурнай дзейнасьці Я. Коласа і быў даволі плённым, аднак здароўе поэта моцна падарваў. 15 верасьня 1911 г. вышаў поэт з вастрогу з ёмкім сшыткам твораў, але з моцна расстроенай нэрвовай сыстэмай, з паніжанай жыцьцёвай энэргіяй, з прыступамі мэлянхоліі і бяспрычыннае чорнае тугі. Праўда, прыроднафізычная моц поэта пераадалела гэту памятку вастрогу, але сьляды яе ня зусім сьцёрліся.

1911 і пачатак 1912 г. Я. Колас быў без пасады, жыў у Лунінцы ў свайго таварыша Філіповіча, займаўся з платнымі вучнямі. У гэты-ж час пачаў пісаць „Сымона Музыку". Вясну 1912 г. правёў у Беларучы ў свайго таварыша Івана Міцкевіча („дарэктар" у „Новай Зямлі"). Тут была напісана другая частка „Сымона Музыкі". К гэтаму часу дастаў поэт, нарэшце, пасьведчаньне аб „благонадежности", і яго назначылі на пасаду настаўніка ў Купяцічы (12 вёрст ад Пінску), а адтуль у хуткім часе пісьменьнік пераверуся ў Пінск, у 3-яе прыхадзкое вучылішча. Увесну 1913 г. Я. Колас жаніўся тут з настаўніцай чыгуначнай школы, Марыяй Каменскай, а ў 1914 г. яго мобілізавалі ў армію; скора, аднак, поэт атрымаў адсрочку і ў 1915 г. з сям'ёй эвакуаваўся ў Расію. У гэтым-жа годзе ўвосень яго забралі зноў у армію, у 55 запасны батальён у Маскве. Першую палову 1916 г. поэт вучыцца ў ваенным Аляксандраўскім вучылішчы, а па сканчэньні яго назначаецца ў г. Перм, у запасны полк. У ліпені 1917 г. быў адпраўлен на румынскі фронт начальнікам эшалёну дэзэртыраў. Тут поэт захварэў жаўтухаю і тубэркулёзам і атрымаў водпуск у гор. Абаянь, Курскай губ., дзе жыла яго сям'я; а ў 1918 г. па дэкрэту савецкага ўраду быў зусім дэмобілізован, як настаўнік.

У Куршчыне Я. Колас працаваў як настаўнік і школьны інструктар. Адначасна вёў значную савецкую грамадзкую працу. У с. Ліпаўцы адчыніў хату-чытальню, арганізаваў бібліотэку. Працаваў тут у шчыльным контакце як з органамі савецкае ўлады, так і комуністычнае партыі. Цікава адзначыць, што цэлую зіму 1918--19 г. Я. Колас, сам беспартыйны, працуе як сакратар комуністычнае ячэйкі ў с. Ліпавец. Аб грамадзка-політычнай фізіономіі поэта ў гэты час сьведчыць і той факт, што, калі камісар зямельнага аддзелу ў г. Абаяні, т. Пашнёў, зьвярнуўся ў аддзел асьветы з просьбай назначыць у Ліпавец (адкуль быў родам Пашнёў) настаўніка ў духу сучаснасьці, то Абаянскі аддзел асьветы назначыў імення Я. Коласа. Вось чаму, калі накацілася хваля дзянікіншчыны на Куршчыну, поэту прышлося ўцякаць. Пасьля адпору Дзянікіну Колас зноў вярнуўся на старое месца. Яго службовыя абавязкі, як школьнага інструктара, прымушалі пехатом вандраваць ад школы да школы. Гэта дало яму магчымасьць блізка пазнаёміцца з прыродай, жыцьцём і бытам Куршчыны.

Годы вайны і прабываньня ў Расіі былі параўнальна мала плённымі ў творчасьці Я. Коласа. Пісалася мала, урыўкамі. І толькі пачынаючы з 1917 г. заўважваецца некаторае ажыўленьне ў яго літаратурнай працы. Так, у гэтым годзе былі напісаны III і IV часткі „Сымона Музыкі“, некалькі алегорычных апавяданьняў (чатыры, зьмешчаны ў „Казках Жыцьця“) і лірычных вершаў. У 1918 г. была напісана пятая і апошняя часьць „Сымона Музыкі“. У 1919 г. адзін разьдзел (XVIII) „Новае Зямлі“ і некалькі лірычных ве[illegible]аў. У 1920 г. таксама адзін разьдзел гэтае поэмы (XX).

Росквіт творчасьці Я. Коласа пачынаецца, аднак, з 1921 г., калі поэт пры падтрыманьні ўраду БССР пераехаў на працу з Куршчыны ў Менск. „Беларуская культурная справа, з якою я азнаёміўся па прыезьдзе ў Менск, і яе пэрспэктывы пры савецкім урадзе на мяне

зрабілі найлепшае ўражаньне“, піша поэт у сваёй „Аўтобіографіі“. Я прышоў да такога перакананьня, што ні пры якім іншым урадзе ў цэлым сьвеце нацыянальная культура і справа адраджэньня прыгнечаных нацый не пастаўлены і ня могуць быць пастаўлены ў такія спрыяючыя ім умовы, як пры савецкай уладзе. У Менску я стала аддаўся сваёй літаратурнай рабоце і ўвесь час меў і маю магчымасьць вясьці яе і бачыць плёны гэтае свае работы ў форме тых кніг, якія надрукованы ў Менску ў апошні пэрыод мае 20-гадовае літаратурнае работы“. І сапраўды, Якуб Колас з гэтага моманту становіцца адным з найбольш актыўных, бадай самым пладавітым працаўнікам на ніве беларускай літаратуры. Уся наша пасьлякастрычніцкая літаратурная сучаснасьць у значнай меры адчувае ў сваёй мастацкай продукцыі гегемонію Я. Коласа, які на працягу 1922-27 г. г. выпусьціў на беларускі літаратурны рынак столькі твораў і такой мастацкай значнасьці, як бадай ніводзін іншы літаратурны дзеяч. Вось галоўныя з іх: „Новая Зямля“, 1923 г. *, „Водгульле“—зборнік лірычных вершаў, 1922 г.; „Казкі Жыцьця“—зборнік алегорычна-сымболічных апавяданьняў, 1921 г.; поэма „Сымон Музыка“, 1925 г. **; повесьць „У палескай глушы“, 1923 г. ***; другая яе часьць „У глыбі Палесься“, 1927 г. **** Апрача гэтага, апавяданьні Я. Коласа за гэты пэрыод вышлі наступнымі зборнікамі: „У ціхай вадзе“, „Крок за крокам“, „На рубяжы“—1925 г.; „На прасторах жыцьця“—1926 г.

---

* У 1921 г. напісаны яе наступныя разьдзелы: IIX, X, VIII, XXI, XXII, XXIII, XXIV; у 1922 г. наступныя: XI, XII, XIII, XV, XVII, XX, XXV, XXVI, XIV; у 1923 г.—XXX.

** Гэта была ўжо трэцяя рэдакцыя поэмы. У першай рэдакцыі „Сымон Музыка“ вышаў у 1918 г. ў выданьні „Вольная Беларусь“. У 1924 г. поэт нанава пераапрацаваў поэму, аднак, гэтая другая рэдакцыя яе загінула.

*** Напісана ў 1921—22 г.

**** Напісана ў 1926—27 г.

Вялікая колькасьць яго твораў, напісаных у гэту пору, расьсеяны па розных часопісях і газэтах і ў зборнікі дагэтуль не ўвайшлі (драма „Забастоўшчыкі“, вершаваныя казкі і інш.)

У 1926 г. Беларусь сьвяткавала 20-ці летні юбілей літаратурнай дзейнасьці Я. Коласа. Урад БССР надзяліў яго высокай годнасьцю народнага поэта. У сучасны момант пісьменьнік працуе над радам вялікіх літаратурных твораў і, можна сказаць, знаходзіцца цяпер у стане найвышэйшага творчага размаху.

## V

Другі біографічны цыкль даў вялізны жыцьцёвы матэрыял для творчасьці Я. Коласа. І як на матэрыяле першага біографічнага цыклю вырас такі літаратурны монумэнт, як поэма „Новая Зямля“, так на матэрыяле гэтага другога цыклю вырасла повесьць „У палескай глушы“ і „У глыбі Палесься“—монумэнт яго мастацкае прозы. Пара настаўніцкае працы дала нязьмерна многа матэрыялу, перш за ўсё ў сэнсе пашырэньня рамак назіраньня, а падругое, у сэнсе большай об'ектыўнасьці ў успрыйманьні, а затым у мастацкай рэпродукцыі гэтага жыцьцёвага матэрыялу. Калі раней об'ектам назіраньня была пераважна свая сям'я, а арэнай—лясьніковая пасада і хата сваіх бацькоў,—то тут, у гэты другі свой біографічны цыкль, Я. Колас атрымаў магчымасьць пазнаць перш за ўсё беларускую вёску. (Заўважым, што вёску поэт дагэтуль мала ведаў—яна была па-за рамкамі яго першага біографічнага цыклю, і ў „Новай Зямлі“ адсутна). І пазнаць гэту вёску не праз прызму дзіцячае апэрцэпцыі, а стала, сьвядома, об'ектыўна (гэтым і тлумачыцца некаторая розьніца ў мастацкай зарысоўцы пэрсонажаў і бытавых малюнкаў у „Новай Зямлі“ і ўназванай вышэй повесьці: у другім выпадку яны маюць больш рэалістычны і тыповы характар). Беларуская вёска,

псыхолёгія і быт працоўнага сялянства фактычна зьяўляюцца галоўнай крыніцай для мастацкае прозы Я. Коласа, а часткай і для яго лірыкі.

Але пашырэньне рамак назіраньня не абмяжоўвалася гэтым об'ектам (вёскай). Я. Колас, як настаўнік, пападае ў сфэру вясковае інтэлігенцыі (настаўніцтва) і псэўдо-інтэлігенцыі (вясковае чыноўніцтва, духавенства). У той час, калі гэта апошняя катэгорыя зьяўлялася для поэта толькі об'ектам назіраньня, настаўніцкая інтэлігенцыя мела значны ўплыў на фармаваньне яго сьвядомасьці, не скажу палітычнай сьвядомасьці, бо да рэволюцыі 1905 г. асноўная маса вясковага настаўніцтва палітычна была несьвядома. Выгадаваная ў сэмінарскім рэжыме, яна і ў сваёй настаўніцкай працы абыходзілася парай-другой афіцыянальна-патрыотычных поглядаў на дзяржаву і яе палітычны лад, захоўваючы значны індыфэрэнтызм у гэтых адносінах. І толькі рэволюцыя 1905 году скаланула гэта палітычнае балота, уцягнуўшы значную частку настаўніцтва ў палітычную працу. Да гэтага-ж часу ўмысловая энэргія настаўніцтва, асабліва маладога, была накіравана ў другі бок, да проблемы бога і рэлігіі. „Можа ў гэтым выяўляўся іх протэст супроць сэмінарска-папоўскага выхаваньня і славянскіх тэкстаў Філарэта, але хто ня чытаў Бокля, Дарвіна і Дрэпэра, той проста лічыўся невукам, чалавекам, які нічога ня ведае і з якім няма аб чым гутарыць“ *. Бязбожніцтва ў асяродзішчы настаўніцтва зьвіло сабе трывалае гняздо. І першыя позыцыі грамадзкай сьвядомасьці заваёўвае поэт іменна ў гэтым абсягу.

Але пісьменьнік на гэтым ня спыняецца. Ён шукае свайго месца ў гэтай інтэлігенцкай сфэры, ён пачынае ў гэту пору шукаць самога сябе, як члена пэўнага грамадзтва. Проблемы філёзофскага, грамадзкага, палітычнага, профэсіянальнага характару неадступна напіраюць на поэта, патрабуючы неадкладнага сабе разьвязаньня.

---

* „У глыбі Палесься“, стар. 63.

А к таму-ж і біолёгічная прырода патрабуе сваёй даніны ад фізычна ўжо дасьпелага ў гэты час поэта, ставячы перад ім проблему каханьня ня толькі як об'ект для філёзофічных разважаньняў на гэту тэму, але і як конкрэтны жыцьцёвы факт. Усё гэта, пераж́ытае і пераж́ытае глыбока, перадуманае і перадуманае балюча, з усёй натужлівасьцю маладога пытлівага розуму і палкага сэрца (уключна да проблемы жыцьця і сьмерці, самагубства і г. д.) дало нязвычайна тонкі і багаты псыхолёгічны матэрыял для повесьці, галоўны герой якой, Лабановіч, у значнай меры зьяўляецца коласаўскім аўтопортрэтам у гэты пэрыод яго жыцьця.

Далей настаўніцкая праца дала магчымасьць Я. Коласу пазнаць дзіцячую псыхолёгію. Мне думаецца, што тая тонкасьць і праніклівасьць, якой надароны дзіцячыя портрэты ў яго творах, і выплываюць з гэтага яго біографічнага цыклю. Аднача́сна з гэтым, для Я. Коласа, як для непараўнанага пэйзажыстага, багатая прырода Піншчыны дала таксама многа прыродаапісальнага матэрыялу, на аснове якого створаны раскошныя малюнкі прыроды ў повесьці. Значнейшы эпізод з галіны політычнай дзейнасьці пісьменьніка, а іменна „Настаўніцкі Зьезд“, даў матэрыял для драмы „Забастоўшчыкі“, у якой мы бачым і аўтопортрэт Я. Коласа, як удзельніка гэтага зьезду.

Значны адбітак палажылі на творчасьць Я. Коласа годы 1906—1908, калі поэт прымушан быў туляцца бяз працы па розных кутках Беларусі, пад наглядам паліцыі. Гэты пэрыод даў магчымасьць аўтару шырэй і глыбей пранікнуць у карэньні як соцыяльнага, так і нацыянальнага ўціску, прыглядзецца да людзей самых рознастайных профэсій. Гэты пэрыод узбагаціў поэта знаёмасьцю з рознымі беларускімі краінамі, з рознымі дыялектамі.

Гэты пэрыод быў пэрыодам найбольшага ўплыву на поэта беларускага нацыянальнага адраджэнцкага руху, асабліва ў яго літаратурным абсягу. Спынімся некалькі на характары гэтага нашаніўскага літаратурнага руху.

К рэволюцыі 1905 г. грамадзка-політычная і культурная актыўнасьць беларускага сялянства, і пераважна яго серадняцкіх і бядняцкіх пластоў, настолькі вырасла, што гэта сялянства з свайго асяродзішча пачало выдзяляць, з аднаго боку, цэлы рад політычных змаганьнікаў-рэволюцыянэраў, а з другога боку—культурных дзеячоў, у тым ліку беларускіх поэтаў. Як вядома, на ўсім працягу XIX ст. беларуская літаратура разьвівалася прадстаўнікамі бадай выключна беларускага шляхецтва, з асяродзішча якога вышлі і найвыдатнейшыя беларускія поэты XIX ст. В. Дунін-Марцінкевіч і Ф. Багушэвіч. У пачатку XX ст., дакладней, з моманту рэволюцыі 1905 году, старно разьвіцьця беларускае літаратуры пераходзіць галоўным чынам у мазалістыя рукі беларускіх поэтаў-мужыкоў г. зв. нашаніўцаў. Апошнія, як непасрэдныя выхадцы з беларускага сялянства, натуральна, у сваіх творах адбіваюць пераважна грамадзкую ідэолёгію гэтага стану, яго імкненьне да ўласнае зямлі, яго нездаваленьне з панаваўшага царскага рэжыму, з залежнасьці эканомічнай ад пана-абшарніка і г. д. Адгэтуль бярэ свой пачатак і некаторая нацыянальная абмяжованасьць, уласьцівая поэзіі нашаніўцаў. Яны пранікнуты вялікім каханьнем да бацькаўшчыны. Яны лічаць гэтае нацыянальнае пачуцьцё сьвятым абавязкам кожнага, назваўшага сябе беларусам. Ім здаецца, што эканомічны і культурны заняпад Беларусі, паміж іншым, тлумачыцца і рэнегацтвам беларускае інтэлігенцыі. І вось нашаніўцы яшчэ больш, да гіпэрболічнага, падкрэсьліваюць у поэзіі сваё нацыянальнае пачуцьцё, каб такім спосабам зрабіць уплыў на тыя пласты беларускае інтэлігенцыі, якія сябе яшчэ нацыянальна не ўсьвядомілі. Актуальны лёзунг нашаніўцаў—выявіць у мастацкім слове ўсю глыбіню соцыяльных супярэчнасьцяй, што перашкаджаюць эканомічнаму і культурнаму разьвіцьцю беларускіх працоўных—пераважна сялянскіх—мас. Але гэтыя перашкоды ня вычэрпваліся фактарамі політычнага і соцыяльнага парадку. Гэтыя масы

церпяць адначасна і нацыянальны ўціск. Адгэтуль другі лёзунг нашаніўцаў—змаганьне за беларускую мову, за беларускую нацыянальную культуру. Але беларуская мова, элемэнты беларускай нацыянальнай культуры захаваліся амаль выключна ў сялянстве,—адгэтуль і стаўка нашаніўцаў у справе нацыянальнага адраджэньня Беларусі галоўным чынам на сялянства.

Агульны эмоцыянальны тон нашаніўскай поэзіі—калі ня лічыць паасобных эпізодычных выпадкаў—бодры, пранікнуты верай у ажыцьцяўленьне адраджэнцкіх ідэалаў. Нашаніўская поэзія зьяўлялася, бясспрэчна, фактарам оптымістычнага парадку, фактарам, які будзіў, заклікаў, бадрыў, дадаваў веры ў лепшую будучыню і энэргіі да змаганьня за яе, які яркай бліскавіцай бязупынку празаў цёмныя хмары політычнае рэакцыі, цяжкога эконамічнага прыгнечаньня, нацыянальнага ўціску, што панавалі ў гэты час на Беларусі. Ноты бязьвер'я, роспачы, пэсымізму—толькі мімалётныя зьявы, паяўляюцца толькі часамі і маюць выгляд контрасту, каб яшчэ ярчэй запраменіліся колеры жыцьця, надзеі, змаганьня. Беларускае працоўнае сялянства, як соцыяльная і нацыянальная група, у гэту пару з магутнай напорлівасьцю і верай у свае сілы выступала на сусьветную арэну змаганьня з рэшткамі фэўдальнага ладу. І зразумела, што яго авангард, поэты-мужыкі, мусілі адбіваць у сваіх творах настроі ня ўпадачныя, не пэсымістычныя, а дыямэтральна-процілеглыя.

Тэматыка нашаніўскае поэзіі, концэнтруючыся навокал фігуры мужыка-селяніна, разьвіваецца пераважна ў двох кірунках. З аднаго боку, яна (тэматыка) выліваецца ў форму рэволюцыйна-патэтычнае лірыкі, у форму вершаў-поклічаў, у форму вершаў-галошаньняў над соцыяльнай і нацыянальнай нядоляй працоўнага сялянства і г. д. З другога боку, перад намі малюнкі быту і псыхолёгіі беларускага сялянства на фоне рольніцкай працы і беларускае прыроды.

У мастацкіх адносінах беларуская літаратура ў нашаніўскі пэрыод робіць значныя дасягненьні. Праўда, яна пераважна выліваецца ў форму песеннай лірыкі, верш пануе ў ёй над прозай. У асноўным пануе тут мастацкарэалістычны кірунак. Але-ж нашаніўскі пэрыод—гэта пэрыод паяўленьня нэоромантычных тэндэнцый у эўрапэйскіх літаратурах, і ня толькі паяўленьня, але і перавагі. Натуральна, што і нашаніўская поэзія не магла ўхіліцца ад гэтых тэндэнцый, і тут-то іменна атрымалася тое, часамі дзівоснае, але заўсёды сьвежае і ў поўнай меры мастацкае перапляценьне суб'ектыўнага з об'ектыўным, рэчаіснасьці з фантазіяй, романтыкі з клясыцызмам.

І вось гэтая нашаніўская атмосфэра захапляе ў свой палон поэта іменна ў 1906—08 г. г. Яе ідэалы становяцца яго ідэаламі, яе літаратурныя густы—яго густамі. Праўда, асабістае становішча поэта ў гэтыя годы, зацкаванага і загнанага агентамі старога рэжыму, кінутага ў вялікую матэрыяльную нэндзу, палажыла некаторы суб'ектыўны адбітак на яго творчасьць гэтага пэрыоду. Тыя ноткі тугі і пэсымізму, якія маюць месца ў яго лірыцы, выплываюць іменна адгэтуль, а затым з вастрожнага пэрыоду. Вастрожная абстаноўка, праўда, дала поэту пэўны матэрыял, але ня надта багаты. Эскізы „Цені Прошлага“ і цыкль вершаў „З Астрогу“—вось бадай і ўсё, што дагэтуль далі тры гады прабываньня ў турме ня ў сэнсе напісаньня твораў, а ў сэнсе матэрыялу для апошніх (магчыма, што ў сваіх далейшых творах Якуб Колас шырэй скарыстае вастрожны матэрыял, які пры яго вялікай спасьцерагальнасьці павінен быў сабрацца). Аднак, як вышэй ужо адзначана, Коласам у вастрозе напісана было вельмі многа. На якім-жа матэрыяле тварыў тут поэт? На матэрыяле свайго давастрожнага жыцьця, на матэрыяле першага біографічнага цыклю. Родныя малюнкі глыбока запалі ў дзіцячую і юнацкую душу поэта. Адарваны ад гэтых малюнкаў, гвалтам раз-

лучаны з імі, поэт з-за крат, як краска да сонца, цягнецца да гэтых родных вобразаў, адчуваючы, што тут глыбокая крыніца яго натхненьня. „Гой, ты, лес, хваёвы бор, бор густы, высокі! Неба сіняга прастор, стэп яго шырокі! К вам хачу я, каб забыць ўсе мае нягоды, і свой голас разам зьліць з песьнямі прыроды“ *. Але дарэмны парываньні поэта. Высокія сьцены царскіх вастрогаў, моцныя краты і пільная стража навокал. Ня можа нага яго ўступіць на сьцежкі гэтага бору, ня можа ён папесьціць вачэй сваіх відокам Наднямоньня, ня можа супачыць на родных курганох. Здаецца, што поэт пазбаўлен крыніц сваёй творчасьці, што няма цяпер жыўнасьці яго поэтычнай фантазіі і натхненьню. Але-ж не! „Узгорачкі роднага поля, рэчкі, курганы, лясы“, хоць поэт і адарваны ад іх, не пакідаюць яго, а на скрыдлах успамінаў пранікаюць за турэмныя краты і ўстаюць перад ім у нязвычайна рэльефных постацях. „Толькі я лягу і вочы закрыю, бачу я вас прад сабой: ціха праходзіце вы, як жывыя, зьзяючы мілай красой“ **. Бясспрэчна, што дзесяць разьдзелаў „Новае Зямлі“ зьявіліся пад наплывам гэтых родных вобразаў, якія пранікалі да поэта праз краты. Вось чаму ў іх уложана поэтам гэтулькі сардэчнасьці, гэтулькі замілаваньня, бо-ж яны сьведкі яго „вольных“ дзён, яго „вясны“, якая здавалася поэту ўтрачанай назаўсёды.

Годы імпэрыялістычнае вайны, а затым і грамадзянскае, былі, як вышэй гаварылася, мала плённымі ў творчасьці Я. Коласа. Аднак, гэта пара дала багаты матэрыял поэту для яго далейшай творчасьці. На матэрыяле з эпохі імпэрыялістычнае вайны і рэволюцыі 1917 г. піша поэт грандыёзную па замыслу поэму „На шляхох волі“, якая не абмяжоўваецца беларускімі этнографічнымі межамі, а разгортваецца на вялізных абшарах б. Расій-

* „Песьні Жальбы“, стар. 99.

** Ibidem, стар. 119.

скай імпэрыі. Пэрыод прабываньня ў Куршчыне даў матэрыял для апавяданьнаў зборніку „На рубяжы“, „Там на захадзе“ і некаторых інш.

## VI

Лірыка становіць сабой першы і найранейшы этап у творчасьці Я. Коласа. Пераважна пад знакам лірычных жанраў працаваў ён у беларускай літаратуры з 1906 па 1910 г. уключна. І вынікам гэтай працы зьявіўся зборнік лірычных вершаў „Песьні Жальбы“ (1910 г.), большая частка зборніку „Водгульле“ (1922 г.), а таксама львіная доля вершаў гэтага першага тому твораў Коласа. У гэты першы нашаніўскі пэрыод склаўся на поэта погляд як на лірыка ў сваёй істоце пераважна, і гэты погляд з некаторымі варыянтамі дайшоў да нашых дзён. Зразумела, што такі погляд патрабуе праверкі, бо, як вядома, мастацкая сіла Якуба Коласа ва ўсёй сваёй шырыні праявілася іменна ў эпосе, бо яго найвялікшыя творы „Новая Зямля“, „У палескай глушы“, „У глыбі Палесься“, нават і лірычная поэма „Сымон Музыка“, хоць і багаты лірычнымі элемэнтамі, павінны быць аднесены да эпічнай творчасьці. Яшчэ больш гэта датычыць мастацкай яго прозы ў форме новэль і апавяданьняў. І гэты пераважна эпічны характар поэзія Я. Коласа прыняла не раптоўна. Ужо ў годы першага этапу яго творчасьці, этапу панаваньня лірыкі, гэта эпічная стыхія давала аб сабе знаць, значна ўплываючы на самы характар коласаўскае лірыкі. Апошняя ўжо ля самых сваіх вытокаў падзялілася на два струмені: на лірыку пераважна суб‘ектную, г. ё. лірыку мысьлі, пачуцьцяў і імкненьняў поэта непасрэдна, ці ў ролі беларуса-селяніна, і лірыку пераважна об‘ектную, прырода-і бытаапісальную. У той час, як першы струмень меў характар чыста лірычны, другі набліжаўся больш або менш да эпосу, прадракаючы поэту славу на гэтым іменна шляху. Гэтыя два творчыя струмені ўжо ў тыя годы насілі на сабе адзнакі пэўнага адрозьненьня,

адрозьненьня пераважна эмоцыянальнага. Гэта заўважылі ўжо першыя нашаніўскія крытыкі, гаворачы ў 1910 г. аб Коласе, як аб поэце, які „будзіў у нас веру ў будучыну“ (суб'ектная лірыка) або сумна пяяў аб тым, як жывем цяпер“ (об'ектная лірыка)*. Ужо ў гэтай кароценькай фразе крытык даў формулу эмоцыянальнага характару коласаўскае лірыкі: у суб'ектнай лірыцы ён будзіць у нас веру ў будучыну (оптымістычны настрой), у об'ектнай—сумна пяе аб тым, як жывем цяпер. Сумна пяе. Але ці значыць гэта, што ў сваёй прырода-і бытапіснай лірыцы Я. Колас вытварае пэсымістычны настрой? Спынімся на беглым аналізе яе ў гэтых іменна адносінах.

Як прадстаўляецца коласаўская лірыка (пераважна нашаніўская) у сьвятле сучаснай беларускай літаратурнай крытыкі і навукі? Звычайна, як поэзія жалю, нуды, сьлёз, мэлянхоліі, пэсымізму. Ёсьць нават спробы бачыць у коласаўскай нашаніўскай лірыцы пэсымізм і прытым ня толькі, як настрой, але і як закончаны філёзофскі сьветагляд. Пэсымістычнае сьветаадчуваньне і нават сьветаразуменьне, паводле думкі гэтых дасьледчыкаў, наклала свой адбітак на ўсе віды коласаўскай лірыкі ў нашаніўскую пару. Так, напрыклад, яго пэйзажная лірыка гэтага часу нібы выключна была запоўнена сумна-элегійнымі, аднастайна шэрымі журботнымі малюнкамі прыроды; глухая ціш ночы, панурая маркотная восень, калі замірае ўсякі рух у жывой прыродзе,—быццам-та ўлюбёныя вобразы ў коласаўскай пэйзажнай лірыцы. Гэтым мэлянхолійным малюнкам прыроды нібы адпавядаюць бытавыя малюнкі. І тут пераважвае пэсымістычнае ўспрыняцьце жыцьця; поэт ня верыць у перамогу сьветлых пачаткаў над цёмнымі, ня верыць у лепшую сьветлую будучыну Беларусі. Але найчарнейшымі фарбамі гэты пэсымізм нібы-та разьліты ў лірыцы асабіста-інтымных перажываньняў. Тут коласаўская лірыка разглядаецца

* Наша „Ніва“, 1910 г., № 40.

як выражэньне гамлетызму (у старым, традыцыйным разуменьні гэтага тэрміну), як выражэньне закончанай філёзофскай сыстэмы пэсымізму.

Ці адпавядае, аднак, гэта рэчаіснасьці? Разгледзім каротка з гэтага пункту погляду спачатку об'ектную, а затым суб'ектную коласаўскую лірыку. Пры вывучэньні апошняе такая дыфэрэнцыяцыя канечна патрэбна, бо ў коласаўскай лірыцы, як ужо вышэй адзначана, ярка выражаны розныя мастацкія стыхіі з рознымі, у некаторай ступені, эмоцыянальнымі зарадамі. Распачнем з прырода-апісальнай лірыкі. Вершы гэтага жанру датованы пераважна 1906—1913 г. г. У якіх фарбах даны ў іх малюнкі прыроды?

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.
    Чуць-чуць дрогне, праліецца
    Чырвань на усходзе—
    Гэта неба усьміхнецца
    Людзям і прыродзе.
Сьмех адказны, сьмех шчасьлівы
Ходзіць на пагорках.
Час сьвітаньня—час жычлівы...
Гаснуць, нікнуць зоркі...

У такіх-жа пышных танох разгортваюцца сем далейшых строф вершу „Усход Сонца“, * замыкаючыся наступнай канцоўкай:

Як прыемна пахне збожжа!
А вакол—спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хараша, прыстойна!

Ці не выступае яўна ў радкох гэтага вершу, напісанага ў 1908 г., аўтар разьдзелу „Летнім часам“ з „Но-

* Гэты і ўсе ніжэй цытованыя вершы зьмешчаны ў І т. Збору Твораў Я. Коласа.

вае Зямлі“, і многалікіх малюнкаў прыроды ў „Сымоне Музыку“? Але можа гэта характэрна толькі для мэтэоролёгічных тэм? Можа бляскі бачыць поэт толькі на небе? Зьвернемся да зямлі. Вось верш „Ручэй“ Пералічым толькі некаторыя з яго вобразаў і эпітэтаў: „І шуміць і грыміць срэбразвонны ручэй“; „і глядзяцца кусты пышным верхам сваім“; „і вяночкі яму выплятаюць кветы“, „а ён, жэўжык-пястун, гучным сьмехам дрыжыць“ і наступная канцоўка вершу:

Люба слухаць той сьпеў,
Так ён лашчыць твой слух,
І пад песьні яго
Адпачыне твой дух.

А вось у вершы „Высокі бераг“ малюнак Нёману, неаднокраць апетага Коласам у яго поэмах:

Струменіць Нёман срэбраводны
У тваіх прыўдалых берагох,
А ў лозах ветрык вые згодны
І ходзіць шум па чаратох.

Але можа гэта выключэньне толькі адносна об'ектаў прыроды, незакранутых чалавечай культурай? Вось перад намі малюнак нібы ў вершы „На полі“, датованым 1910 г.

Шэпчуць згодна каласінкі,
    Гойдаюцца нівы.
Ходзіць гоман срэдзь з бажынкі
    Мілы і шчасьлівы.
Як старанна зааравы,
    Поле, твае скаты!
Межы кветкамі убраны
    Пышна і багата.
Над жытамі песьні льлюцца,
    Толькі сонца ўстане.
Люба глянуць, азірнуцца,
    Стаўшы на кургане!

У такіх-жа колерах напісан верш „На лузе“, датованы таксама 1910 г. Вось яго заключны акорд:

Сьпевам-гоманам і звонам
Поўніцца ўвесь луг.
І дрыжыць над ім, зялёным,
Жыватворчы дух.

Але можа гэта толькі адзіночныя вершы ў коласаўскай лірыцы? Можа ў яго ўсё-ткі пераважаюць малюнкі тыпу—„Я ня знаю, чым мне дораг від палёў благенькіх, нудны воклік ў родных горах, вербаў рад крывенькіх?“ Бо-ж іменна гэтым апошнім вершам пастаянна ілюструецца коласаўская прыродаапісальная лірыка (праф. Ігнатоўскі, акад. Карскі і інш.). Ні ў якім выпадку! У тонах вышэйпаданых вершаў напісана большасьць коласаўскае прыродаапісальнае лірыкі і прытым іменна ў нашаніўскі пэрыод. І гэтыя тоны, тоны сьветлыя, тоны бляскаў, стыхійна выступалі ў творчасьці Коласа ў нашаніўскі пэрыод ня толькі ў яго лірычных жанрах, але і ў тых дзесяці разьдзелах „Новае Зямлі“, якія былі напісаны ў 1911 г. А які характар маюць гэтыя дзесяць разьдзелаў, лёгка пераканацца, прачытаўшы першы разьдзел поэмы „Лясьнікова пасада“, у якім даны раскошныя пэйзажныя палотны.

З паасобных тэм прыродаапісальнай лірыкі найбольш улюбёнай для Я. Коласа зьяўляецца бура, навальніца, гром, маланка і г. д. Поэт асабліва захапляецца дынамікай у прыродзе, змаганьнем у ёй стыхійных сіл і бачыць вялікае хараство ў гэтых грозных зьявах прыроды. Гэта тэма апрацоўваецца ім на ўсім працягу творчасьці, пачынаючы з раньняй нашаніўскай лірыкі і канчаючы найдасканальным мастацкім уцяленьнем гэтае тэмы ў „Новай Зямлі“ ў разьдзеле „Летнім часам“. Найглыбей узварушае поэта гром—гэты сымболь магутных сіл прыроды.

Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш сьмех паміж гор.
Міл майму сэрцу гоман далёкі,
Водгук вясёлы і шум.
Гром ты магутны, гром адзінокі!
Колькі ўскатурхаў ты дум!

(„Першы гром", 1910 г.).

Але міл поэту ня толькі першы гром, зьвястун прабуджэньня ад зімовага сну прыроды. Гукі грому наагул найлепшая музыка для поэта, бо гэта музыка прыроды ў найвышэйшым напяцьці яе магутных сіл зьяўляецца жыватворчым ачышчэньнем яе.

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны—
Далёкіх хмар магутны гром.

Калі працягла заракоча,
Гугухне голас у гары.
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.

А хмара грозна націскае.
Маланка неба баразьніць.
А ночка сьпіць, а ноч ня знае,
Што зараз бура зашуміць.

(„Ноч прад навальніцай", 1910 г.).

Такім-жа пачуцьцём і настроем прасякнуты і вершы: „Будзе навальніца" (1912 г.), „Верабіная ноч" (1913 г.), „Веснавыя хмаркі" і інш. І нават вобраз мяцеліцы не прыгнятае поэта, а выклікае ў ім прыліў энэргіі:

Эх гуляюць віхры ў полі,
Ветравыя дзеці!
Як зайздрошчу я іх долі
Вольна песьні пеці.

(„Мяцеліца", 1910 г.)

Як бачым, Я. Колас—пясьняр буры, навальніцы, грому, бліскавіц. *Ні ў кога* з беларускіх поэтаў гэтыя грозныя зьявы прыроды не знайшлі такога мастацкага выяўленьня, як іменна ў Якуба Коласа. Не дарма-ж ён да сваіх найранейшых дзіцячых успамінаў адносіць уражаньне аб навальніцы (Аўтобіографія). Тэма, аднак, гэта ў трактоўцы Я. Коласа вырастае ў вялікі сымболічны вобраз у проекцыі да грамадзкага жыцьця, і тады яна ўспрыймаецца ў падвойным пляне.

З паасобных пор году ў лірыцы Я. Коласа найбольш вершаў прысьвечана вясьне. Вобраз вясны распрацоўваецца звычайна поэтам таксама ў пышных, у яркіх, багатых тонах і трактуецца найчасьцей таксама сымболічна. Коласаўская вясна—гэта сымболь перамогі сьвятла над цемрай, жыцьця над сьмерцю, дабрадзейных сіл над злачыннымі. Да гэтага вобразу, як і да грому, поэт звараачаецца на працягу ўсёй сваёй творчасьці, але найчасьцей у сваёй нашаніўскай лірыцы. Так, у 1907 г., у год рэакцыі, поэт пяяў голасам поўным веры і ўпэўненасьці, што—

Вясна прыдзе, сьнег пагіне,
Вышай сонца хадзіць стане,
Промень ясны ўсюды кіне,
Рунь падыме на паляне.
З гор пальлюцца перавалы,
Раскуюцца рэчкі з шумам,
Выйдзе з хаты стар і малы
Гаманліва-дружным тлумам.

(„Вясна“).

У 1909 г. вясна для поэта таксама сымболь перамогі аб'яднаных сіл працоўнае грамады над цемрай і холадам няволі. Здрузготаны аковы лёду пад дружным напорам вясьняных ручайкоў, „бо яднаньне—сіла ў сьвеце! Хто-ж дужэй ад грамады?“ („Песьні вясны“). А колькі веры ў колектыўную сілу грамады ўлажыў поэт у гэтым вершы ў песьню ручайкоў!

Мы імчым, мы гонім воды,
Затапілі мы брады.
Дружнасьць—першы крок свабоды,
Згода--сіла грамады.

А калі распасьціpае над зямлёй свае халодныя крыльлі лютая зіма, гэты нашаніўскі сымболь палітычнае няволі і гвалту, поэт ня траціць веры ў прыход новае вясны:

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыйдзеш зноў,
Ты вернешся!

(„Вясна“, 1910 г.)

Поэт ня толькі верыць у гэты зварот жаданае вясны: ён паказвае ёй на тую працу, якой ад яе чакае зямля:

Ідзі, згані
Сьнягі з палёў
І выведзі
Ваду з акоў!
Акрый лугі,
Адзень лясы,
На жыта кінь
Крышталь расы!

(„Да вясны“, 1911 г.)

А калі прыход вясны ўсё-ткі не такі скоры, як гэта патрэбна было-б, калі занадта доўга скуты путамі лёду жыватворчыя сілы зямлі (бач, чалавечага грамадзтва), поэт у натхненных вобразах кліча вясну:

Ты прыдзі, вясна жаданая,
Прыдзі!
Гукам жыцьця, песьняй працы
Загудзі!
На ўзгор'і, на нізіначкі
Зірні,
Сон трывожны, сон цяжкі наш
Разгані!

(„Заклінаньне вясны“, 1912 г.).

Вобраз вясны, як сымболь надзеі, не пакідае поэта нават у сумную, пануруую восень, калі жыцьцёвы пульс прыроды, здаецца, вось-вось замрэ, перастане біцца, калі „хвалююцца дрэвы, а красачкі ў скрусе зямлі адбіваюць паклон“, тады—

— Ня бойцеся!—з неба гукаюць ім гусі:
Ня вечны зімовы палон!

(„У восень“, 1914 г.).

Малюнак восені ў лірыцы Коласа часта суправаджаецца напамінаньнем аб вясьне, што згладжвае цяжар, журбу восені:

Эх, пануры лес!
Ня журыся, брат:
Для твае вясны
Сьцежка бітая—
Жыцьцё новае
К табе вернецца.
Зашуміш ты зноў
Гучна лісьцямі.

(„Перад восеньню“, 1910 г.).

І нават адзінокі пажоўклы лісток на дрэве ўвосень родзіць у поэта не адну толькі мэлянхолію і смутак, але і бодрую сьвядомасьць:

Эх, аджыў ты свой век,
Жоўты ліст-бедачок,
А на весну цябе
Скіне новы лісток.

(„Апошні лісток“, 1910 г.).

І так праз усю лірыку Я. Коласа праходзіць яркі вобраз вясны, вясны-пераможніцы над цемрай-зімой. Тэмы грому і вясны пануюць над усёй яго прыродаапісальнай

лірыкай, у якой, паўтараю, пераважаюць сьветлыя, яркія, прамяністыя колеры. Зразумела, нельга адмаўляць у існаваньні вершаў гэтага жанру са змрочнымі фарбамі, але яны ўступаюць першым як колькасна, так і якасна, і не яны зьяўляюцца характэрнымі для поэзіі Я. Коласа. Ня спыняўся я на іх яшчэ і таму, што іменна вершы гэтай другой катэгорыі так часта выпяльваліся як укладчыкамі розных хрыстаматый-чытанак, так і дасьледчыкамі беларускай літаратуры, што яны проста ўжо сталі трафарэтамі, але, як мы маглі пераканацца, трафарэтамі далёка не характэрнымі для творчасьці Я. Коласа.

Зьвернемся цяпер да другое часьці яго об'ектнае лірыкі нашаніўскага пэрыоду, да лірыкі бытаапісальнай. Зьмешчана яна пераважна ў разьдзеле „Сялянскае Жыцьцё". Тэматыка яе замыкаецца ў коле рольніцкае працы селяніна і яго хатняга быту. Голад на прадвесьні, калі „хлеба толькі да нядзелі, на два разы ўсяго круп"; сваркі і калатня на грунце гэтага ўбоства; сялянская цемра, як рэзультат таго, што адзінай школай селяніна зьяўляецца шынок; цяжар падаткаў і наагул экономічная эксплёатацыя гэтага сяляніна; доля батрака; цяжкая праца плытніка,—і да гэтага падобныя тэмы ў розных варыянтах апрацоўваюцца поэтам. Калі нашаніўскі крытык сказаў, што Я. Колас сумна пяе аб тым, як цяпер жывём, то гэта адносіцца іменна да гэтага разьдзелу коласаўскай лірыкі. Быт беларускага селяніна паказан пераважна ў змрочных тонах, што зьяўляецца контрастам у стасунку да прыродаапісальнай коласаўскай лірыкі. Але-ж гэта не суб'ектыўная пэсымістычная настраёвасьць поэта, а толькі об'ектыўная тыпізацыя тагачаснага жыцьця. Іншага паказаць і нельга было, бо гэта не адпавядала-б ні тагачаснай рэчаіснасьці, ні тым мэтам і задачам, што ставіў перад сабой беларускі нашаніўскі адраджэнцкі рух. Выяўленьне цёмных бакоў тагачаснага сялянскага жыцьця ніяк нельга лічыць пэсымізмам. Тут трэба грунтавацца на тым, якія настроі радзіла гэта

змрочная, але рэалістычная тыпізацыя сялянскага быту ў нашаніўскага чытача? Ужо ў 1908 г. І. Сьвяціцкі адносна такога вершу, як „Вёска“ пісаў: „Хіба кожны, да каго адносіўся першапачатковы заклік, ня вычытае тут, да чаго клічуць яго, якое справы патрабуюць ад яго? Гэта зразумее ня толькі беларус, але кожны, хто толькі ўмее чытаць на малюнках будзённага жыцьця шэрае масы“ *. І. Гроссман-Рошчын у сваіх тэзах аб упадніцтве ў сучаснай мастацкай літаратуры пісаў: „Падкрэсьліваньне цёмных бакоў ні ў найменшай меры не зьяўляецца паказчыкам упадніцкага настрою. Важна, каб гэта падкрэсьліваньне пабуджала волю да змаганьня, а ня нуднае адчуваньне бясплённасьці змаганьня“. Мне думаецца, што гэта тэза можа быць дапасована да нашаніўскае поэзіі наагул і да коласаўскае лірыкі паасобку. Як першая, так і апошняя бясспрэчна мёлі сваёй мэтавай устаноўкай пабуджаць да змаганьня волю шырокіх працоўных мас дарэволюцыйнае Беларусі. Але поэтынашаніўцы, у тым ліку і Я. Колас, як выдатнейшы прадстаўнік іх, разумелі дасканала, што не ідылічныя вершы могуць раскатурхаць сон, не ідылічнымі вершамі трэба прамаўляць ад імя прыгнечаных у той час экономічна і культурна сялянскіх мас. Толькі енкам і галосным лямантам мужычы поэт дарэволюцыйнае Беларусі мог зьвярнуць увагу і самых гэтых мас і ўсяго сьвету на іх соцыяльную і нацыянальную няволю.

Кінь ты жальбу нашу ў неба—
Няхай неба ўскалыхнецца!

(„Месяц“, 1907 г.).

Няхай плачам у тэй далі
Песьня разальлецца,
Каб усе на сьвеце зналі,
Як нам тут жывецца!—

---

* „Відроження білоруського письменства“, Львів, 1908 г.

так канчаецца знамяніты, поўны жалю і тугі, верш „Вісьне скарга уздоўж Нёмна—Беларусі сына“, напісаны ў 1909 г. Сваё поўнае мастацкае *credo* наконт заданьняў нашаніўскае поэзіі выразіў Я. Колас у той час (1910 г.) у вершы „Песьняру“:

Засьпявай ты мне песьню такую,
Каб мне душу паліла яна,
Каб у ёй ты нядолю людзкую
Ї ўсё вычарпаў гора да дна.
Скажы, як у няволі жывецца,
Як нам шыі здушыла ярмо,
Як душа наша томіцца, рвецца,
Як жыцьцё прападае дармо.

З прыведзенага адрыўку відаць, што поэт разумеў заданьні свае поэзіі ў тым, каб адбіваць соцыяльнае дарэволюцыйнае жыцьцё ва ўсёй яго няпрыгляднасьці, без падфарбоўваньня і згладжваньня яго цёмных бакоў; наадварот, як мага высоўваючы на паверх, на сьвет грамадзкую нядолю; але, па яго думцы, гэтым поэзія не павінна абмежавацца. Ї Я. Колас у натхненных, поўных агністага запалу, словах зварачаецца да поэта, а ў першую чаргу, зразумела, да самога сябе:

Засьпявай-жа ты песьню такую,
Каб маланкай жахала яна
Ї паліла нядолю людзкую,
Каб грымела, як гнеў пяруна.

(„Песьняру“).

Як поэт выканаў гэту пастаўленую перад сваёй музай мэту, у якой меры „маланкай жахала яна“, ці сапраўды яго песьня „паліла нядолю людзкую“ і „грымела, як гнеў пяруна“,—пераканаемся з разгляду другога струменю яго нашаніўскае лірыкі, а іменна лірыкі суб'ектнае.

Коласаўская суб'ектная лірыка разьвіваецца пераважна ў двох плянах: у пляне грамадзкіх мотываў і настрояў і ў пляне асабіста-інтымных перажываньняў. Гэтыя два струмені яго суб'ектнае лірыкі даволі рэзка адрозьніваюцца характарам сваёй эмоцыянальнасьці. Характар першага струменю вызначан самым поэтам у паданай вышэй страфе вершу „Песьняру". Так, ужо ў 1906 г. мы бачым Я. Коласа ў ролі поэта-трыбуна, поэта-заклікача, які ў вершы „Беларусам" магутным, поўным веры і натхненьня голасам гукаў: „Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі! Ўстань ты, наша старана!" Ї цікава адзначыць, што поэт ужо ў гэтым найранейшым вершы сваёй грамадзкай лірыкі не абмяжоўваецца толькі заклікам, а паказвае і конкрэтную мэту гэтага закліку:

Выйдзем разам да работы!
Дружна станем, як сьцяна!
Ї прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

(„Беларусам")

Але гэтае „разам", гэтае „дружна" не адносіцца да такога, хоць-бы нацыянальнага, колектыву, які спалучае людзей розных соцыяльных станаў і кляс. Не! Поэт словам „разам", „дружна" абымае толькі працоўныя групы, супроцьстаўляючы ім групы эксплёататараў і прыгнятальнікаў. Паміж гэтымі групамі вечнае заўзятае змаганьне. І поэт, як прадстаўнік працоўных станаў, голасам, падобным грому пяруна, гукае ў вершы „Ворагам" (1906 г.).

Багачы і панства,
Нашы „дабрадзеі",
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

. . . . . . .

Чыімі рукамі
Вы дабро зьбіралі?
На чые вы сьлёзы
Дабрабыт куплялі?

І ў далейшых строфах гэтага вершу поэт у жудасных, але яркіх вобразах пералічае розныя спосабы і віды соцыяльнага прыгнечаньня і зьдзеку над тымі, да каго ён і сябе адносіць, гаворачы „мы“. Але поэт адчувае магутную сілу гэтага працоўнага колектыву і верыць, што канчатковая перамога будзе на яго баку, і што перамога гэта ўжо недалёка. І вера гэта выліваецца ў апошніх строфах з грозным, нястрыманым імпэтам:

Багачы і панства,
І вы, ўсе брадзягі!
Ў бок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!
Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Сьлёзы праліваюць.

Але перамога ня так блізка, як гэта здавалася ў 1906 г. поэту. Наадварот, рэакцыя старога політычнага рэжыму ўсё больш і больш сьцягвае сваю сьмяротэльную пятлю на ўсіх жывых маладых парастках рэволюцыі 1905 г., у тым ліку і на беларускім нацыянальным руху. Некаторыя працаўнікі і дзеячы гэтага апошняга часамі паддаюцца бязьвер'ю, роспачы, пачынаюць апушчаць бязьдзейна рукі. Але Я. Колас не належыць да іх ліку. Наадварот, ён бодрым голасам расьсейвае гэты часовы настрой наўкольнага пэсымізму:

Што вы, хлопцы, пахмурнелі,
Ці каго вы пахавалі?
Ці няшчасьце так здалела,
Што нуда апанавала?
Плюньце, хлопцы! Засьпявайма,
Каб аж вокны задрыжалі:
Ва ўсе грудзі загукайма,
Каб і думкі паўцякалі!
. . . . . . . . . .

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля ня ўсчувала,
Каб ня сохла наша ніва,
Каб нуда нас больш ня гнала!

(„Кіньце смутак“, 1907 г.)

Вось у такіх бодрых, оптымістычных тонах напісана бадай уся грамадзкая лірыка Я. Коласа. Каб пацьвердзіць гэта, я падам зараз некалькі найбольш характэрных для гэтага коласаўскага жанру зачынаў і канцовак вершаў.

Тым-жа, 1907 г., датованы верш „На ростанках“ і „Не бядуй“. Першы з іх пачынаецца і канчаецца наступнай страфой:

Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

Другі пачынаецца наступнай страфой:

Не бядуй, што сонца нізка,
Што прыходзіць нудны дзень,
Не бядуй, што восень блізка
І лягла на землю цень.

і канчаецца так:

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат—жыцьце залатое
Будзе ў нашай старане.

1908 годам датованы наступныя вершы: „Нягода“ „Сябром“, „Толькі стогне зямля“ „Сябром—выгнаньнікам“ „Наша возьме“ і інш.

Канцоўка першага вершу:

Перакідаем, брат, лета
І сяк-так пераражывём.
Час наш будзе—вер у гэта—
З верхам працу мы зьбяром.

Канцоўка другога вершу:

Што-ж! Няхай віхры
  Надрываюцца,
Няхай ворагі
  Насьміхаюцца!
Хоць на дзераве
  Зжоўкла ўся ліства,
Вясна вернецца,—
  Адрасьце трава.

Канцоўка трэцяга вершу:

Не маўчы-ж ты, сава,
У цёмным лесе гукай,
Ведай: ночка—ня год,
Заварушыцца гай...

Канцоўка чацьвертага вершу:

Гэй, выгнаньнікі,
Сябры любыя!
Да канца, браты,
  Будзьма цьвёрдымі.

Канцоўка пятага вершу:

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё-ж такі хоць некалі,
А праўды дапытаемся.

1909 годам датованы: „Сябру“, „Мужык“, „Горькая доля“, „Цемра“ і інш.

Канцоўка першага вершу:

Раскатурхай народ,
Сьвет яму разьвяжы
І за долю яго
Працу ўсю прылажы.

Канцоўка другога вершу:

Я—мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!“

Канцоўка трэцяга вершу:

Але пачакайце,
Помніце псякосьці!
Эх, прыпомнім крыўды
Мы вам, ягамосьці!

Канцоўка чацьвертага вершу:

Эх, вы, дармаеды,
Моль вы, вош людзкая!
А хто-ж вас, праклятых,
На плячох трымае?

Рад падобных прыкладаў можна было-б працягваць і працягваць праз усе, бадай, годы коласаўскае творчасьці. Для нас, аднак, найбольш цікавымі пры аналізе яго лірыкі зьяўляюцца нашаніўскія годы. Вось чаму я не магу ўстрымацца, каб не падаць тут яшчэ хоць па аднаму

прыкладу яго грамадзкае лірыкі ў 1910 і 1912 г. г. Да першага году адносіцца верш „У цемры“ з наступнай канцоўкай:

Ды ня бойся, мой брат,
Гэтай жудкай цішы
І свайго ты агню
Ня тушы, ня тушы!
    Пройдзе ноч, згіне цьма,
    Непраглядны мрок-цень,
    Змоўкнуць совы ў дуплах,
    Як разьвідніцца дзень.

Да 1912 г. адносіцца верш—„Эх, скажы мне, небарача“ з наступнай канцоўкай:

Бо я цьвёрда веру ў тое,
Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасьце вялікім
І затопіць усё злое,
Усё няшчасьце векавое.

Як бачым, першы струмень суб'ектнае лірыкі Я. Коласа, струмень грамадзкіх мотываў і настрояў, мае пераважна оптымістычны эмоцыянальны характар. Будзіць, заклікае да змаганьня, улівае веру і энэргію змагаьнікам за справу працоўных мас, раскатурхвае гэтыя масы, запаляе іх гневам і помстай сваім адвечным ворагам, паказвае проблескі сьветлай будучыні, новага жыцьця.

Іншы характар мае другі струмень суб'ектнае лірыкі, лірыка яго асабіста-інтымных перажываньняў. Элегійнасьцю і мэлянхоліяй, засмучонасьцю, журбой і сьлёзамі—часамі аж да безнадзейнасьці, аж да роспачы—часта прасякнута коласаўская нашаніўская лірыка асабіста інтымных перажываньняў (кажу часта, а не заўсёды, бо і ў гэтым струмені лірыкі нярэдка журботны настрой зьмяняецца сьветлым, у якім пераважвае радасьць жыцьця, надзеі, асабліва ў заключных канцоўках вершаў; парывы да волі, якое пазбаўлен поэт, характэрны мотыў яго лірыкі).

Але гэтыя ноты пэсымізму былі толькі *часовымі настроямі*, якія выплывалі ня з пэўнага сьветагляду, а тлумачацца акалічнасьцямі перш за ўсё і галоўным чынам асабістага жыцьця, якое, зразумела, склалася пад уплывам тагачасных грамадзкіх умоў. 1906—1911 г. г. надзвычай цяжкія ў жыцьці поэта. Спачатку бадзяньне бяз працы і хлеба пад наглядам паліцыі, затым тры доўгія годы за кратамі вастрогу. Кажу доўгія, бо-ж гэта якраз годы вясны Коласа, годы росквіту яго фізычных і духоўных сіл. Вось чаму так бязупынку поэт скардзіцца, крывава плача, што вясна яго праходзіць так пагана. А яна-ж больш ня вернецца! А яна-ж толькі раз даецца чалавеку! Поэт аб сабе кажа: „На сьцежку жыцьця з простаю душою стаў я, поўны веры, радасьці і сілы“ („Рана засмуціліcь“. Значыць, гэты смутны настрой паходзіць не ад прыроднага характару поэта, не ад яго тэмпэрамэнту. Адкуль-жа? І поэт таксама ставіў гэта пытаньне:

Ці краіны роднай
Балоты гнілыя
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладыя?

Але, як відаць, ня толькі ў гэтым бачыў поэт прычыну свайго смутку. Бо-ж побач з „гнілымі балотамі роднай краіны“ бачыў поэт і ясныя і сьветлыя вобразы яе прыроды, і гэтыя вобразы натхнулі поэта не на адзін высока-мастацкі твор, гэтыя вобразы, наадварот, былі яго паратункам ад сьмяртэльнай тугі ў вастрозе. А можа гэтыя „гнілыя балоты“—алегорыя на жыцьцё родных поэту грамадзкіх пластоў, на жыцьцё беларускае вёскі? Але-ж мы вышэй мелі поўную магчымасьць пераканацца, што па грамадзкай лініі коласаўская лірыка пераважна оптымістычна, што ў ёй нязьменна паказваецца шлях ад цені да сьвятла, ад сьмерці да жыцьця.

Ці маё так жыцьце
Склалася няўдала?
Ці мая дарога
У туманы папала?—

Гэтай страфой поэт замыкае рад пытальнікаў самому сабе на гэту тэму. Замыкае і найбольш вычэрпвае, бо ў гэтай страфе поэт знайшоў, нарэшце, галоўную прычыну смутку сваёй лірыкі асабіста-інтымных перажываньняў.

Падагульняючы гэты кароткі агляд калосаўскае нашаніўскае лірыкі, можна констатаваць наступнае: а) яго лірыка цалкам сугучна як сваёй пары (як продукт і выразіцель яе), так і тэй ідэолёгічнай і мастацкай установцы, якая панавала ў нашаніўскім літаратурным руху і якая мной ахарактарызована ў папярэднім разьдзеле; б) яго лірыка ў цэлым організоўвала эмоцыі, волю і сьвядомасьць працоўных мас (у першую чаргу працоўнае сялянства) да змаганьня за зьмену старога ўкладу; жыцьця; в) ноты „пэсымізму“, які так шырока прыпісваецца Я. Коласу, нічога супольнага ня маюць з філёзофскай сыстэмай пэсымізму і не зьяўляюцца нават дамінуючым настроем яго лірыкі: як мы бачылі, прыродаапісальны струмень гэтае лірыкі пераважна афарбован у сьветлыя колеры; лірыка быту, хоць і выяўляла, галоўным чынам, адмоўныя бакі тагачаснага жыцьця, то, аднак, выклікала ня роспач, не апатыю ў чытацкіх масах, а была своеасаблівым протэстам супроць старога грамадзкага ладу; лірыка грамадзкіх мотываў—наскрозь пранікнута верай у лепшую сьветлую будучыну і агністымі заклікамі да змаганьня за яе; лірыка асабіста-інтымных перажываньняў, хоць часта і была прасякнута пэсымістычнымі настроямі, але гэтыя настроі ня мелі ў Коласа стабільнага і пастаяннага характару, залежалі, галоўным чынам, ад цяжкіх момантаў у яго асабістым жыцьці і ні ў якай меры не грунтаваліся на філёзофіі пэсымізму, якая зьяўляецца чужой сьветагляду нашага поэта.

Формальна-мастацкі бок коласаўскае лірыкі покульшто зьявіўся прадметам аднаго толькі, даволі грунтоўнага, артыкулу К. М. Якаўчыка „Лірыка Я. Коласа“ *. (Праўда, спробу ў гэтых адносінах ужо быў зрабіў М. Багдановіч у 1912 і 1913 г. г.) **. У рэзультаце даволі падробнага аналізу вершаў Я. Коласа, К. М. Якаўчык прышоў да наступнага вываду: „Трэба прызнаць, што вершы Я. Коласа нясуць у сябе вялікую мастацкую вартасьць. Яны просты, беспасрэдны і шчырыя па свайму тону і вельмі далёкія ад ухілу ў формалізм, як самамэту. Падругое, трэба адзначыць вялікую блізкасьць Я. Коласа да народнае поэзіі. Як поэта, Я. Колас зусім справядліва карыстаецца заслужонай славай, якая ставіць яго поплеч з другім лепшым беларускім поэтам—Янкам Купалам“. Наколькі гэта ацэнка адпавядае рэчаіснасьці, павінны будуць паказаць іншыя артыкулы, прысьвячоныя аналізу мастацкае формы коласаўскай лірыкі, якія, я ўпэўнен, паявяцца пасьля выхаду ў сьвет гэтаму тому.

## VII

Ужо ў першыя годы коласаўскай творчасьці, тады пераважна лірычнай, можна было прадракаць на падставе яго об‘ектнае лірыкі, што з часам поэт пяройдзе ў абсяг эпічных жанраў. Аб гэтым сьведчылі і надзвычай яркія яго апавяданьні, якія ад часу да часу паяўляліся на старонках „Нашае Нівы“. І калі яшчэ ў бытнасьць поэта ў вастрозе яго лірыка буяла пышна, то пасьля выхаду з астрогу, пачынаючы з 1912 г. (а нават яшчэ і ў 1911 г., калі поэт распачаў працу над „Новай Зямлёй“), эпічная стыхія ў яго творчасьці выступае ўсё з большай і большай сілай, конкрэтызуючыся, з аднаго боку, у поэмах,

---

* Літаратурная творчасьць К. М. Міцкевіча. Зборнік артыкулаў. Масква. 1927 г.

** „Наша Ніва“, 1911 г., № 4 і „Калядная пісанка“, 1913 г.

а з другога боку—у форме многалікіх апавяданьняў і новэль, а пазьнейу форме повесьці. Лірычная плынь у творчасьці Я. Коласа з 1913 г. (прыблізна) у выглядзе самастойных лірычных жанраў зьмяншаецца відавочна *. Аднак гэты лірыны струмень не высыхае ў творчасьці Я. Коласа, гэтага вельмі лірычнага эпіка. Замест лірычнага вершу, самастойнага і закончанага ў сабе, коласаўская лірыка прымае форму прэлюдый і ўставак у яго буйных эпічных жанрах („Новай Зямлі", „Сымоне Музыку", „На шляхох волі" і інш.) Усё-ткі чым далей, тым больш у поэзіі Я. Коласа ўмацоўваецца панаваньне эпосу.

Як у нашаніўскай коласаўскай лірыцы ў большай або меншай меры выявіліся асноўныя рысы характару яго поэзіі наогул, як у сэнсе яе соцыяльнай прыроды, так і ў сэнсе мастацкіх прыёмаў,—так у яго нашаніўскіх апавяданьнях намеціліся ўжо даволі выразна тыя мастацкія тэндэнцыі, якія з часам запанавалі ў коласаўскім эпосе, галоўным чынам у яго мастацкай прозе, а іменна—псыхолёгізм, бытавізм і пэйзажызм. Ужо ў сваіх нашаніўскіх апавяданьнях пісьменьнік заняты галоўным чынам зарысоўкай псыхолёгічных портрэтаў у пляне тыповага. Об'ектам псыхолёгічнай тыпізацыі у гэтых апавяданьнях зьяўляецца пераважна беларускі селянін (ва ўсіх яго праслойках, найчасьцей, аднак, серадняк і бядняк); многа ўвагі ўдзяляе тут пісьменьнік і вясковай псэўдо-інтэлігенцыі (вясковаму чыноўніцтву і духавенству і інш.) Селяніна поэт не ідэалізуе, як гэта рабілі пісьменьнікі-народнікі, што паходзілі з шляхты, а паказвае яго такім, якім ён ёсьць. Рознастайнасьць і об'ектыўнасьць гэтых псыхолёгічных зарысовак — характэрная ўласьцівасьць творчасьці Я. Коласа. З яго твораў пазірае на нас беларускі селянін у розных сваіх адменьніках. Вось некалькі

*) 1906—1912 г. г. датована 170 вершаў з усяго ліку 231, зьмешчаных ў гэтым томе і напісаных Я. Коласам да 1927 г. ўключна.

псыхолёгічных тэм, якія найчасьцей распрацоўвае Я. Колас у сваіх нашаніўскіх апавяданьнях, і якія даволі праўдзіва характарызуюць беларускага селяніна, асабліва ў эпоху дарэволюцыйную.

Забабоннасьць і зьвязаная з ёй трусьлівасьць рэльефна адбіваюцца ў такіх апавяданьнях, як „Чорт“, „На начлезе“, „Трывога“ і інш. Асабліва ярка гэтые рысы псыхікі адбіты ў апошнім з іх (праўда у некаторай меры набліжаючыся да гротэску) у вобразе Мікалая, які, пад уплывам расказу свайго маленькага сына аб ваўчыцы з чалавечай галавой, што быццам-бы паявілася ў ваколіцы, так быў забабонна трусьліва настроен, што, калі ў яго раптам забурчэла ў жываце, ён: „нема загукаў на ўсю хату, ды так страша і дзіка, што сыну здалося, што ўжо бацьку душаць, і ён з свайго кутка як залякоча! А бацьку, чорт ведае, што здалося!—Ай, тата!—Г-г-гу!—і такі справілі кірмаш, што хата траслася... Мікола ўсхапіўся з пасьцелі, як няпрытомны. Ён нічога ня помніў, звалок з ашостку жончыну спадніцу і накінуў яе на плечы. Бягучы да дзьвярэй, вырваў з коміна заткала і выскачыў на двор...“ Але гэтая забобонная трусьлівасьць ня ёсьць толькі індывідуальная ўласьцівасьць Міколая, героя гэтага апавяданьня. Не, Мікалай у гэтым сэнсе не адзінокі: на яго гвалт пачалі выскакваць на вуліцу сяляне, але—„убачыўшы Мікалая ў такой вопратцы з заткалам у руках, цэлая чарада сялян адкінулася назад і з крыкам—„Чорт! чорт!“—пусьцілася наўцёкі“.

Фанаберыстая ганарлівасьць, уласьцівая псыхіцы сялянства, адбіваецца ў такіх апавяданьнях Я. Коласа, як „Стараста“, „Старыя падрызьнікі“ і інш. Герой гэтага апошняга, Сьцяпан, пад наплывам такога пачуцьця, купляе за 8 руб. непатрэбныя яму нябожчыка папа старыя падрызьнікі, каб потым прадаць іх з вялікім клопатам за 3 рублі.

Хітраватасьць, не пазбаўленая дасьціпнасьці,—таксама характэрны для селяніна. Гэта ўласьцівасьць выяўлена

пісьменьнікам, напрыклад, у апавяданьні „Соцкі падвёў“, у якім Соцкі Раман пакпіў з начальства, усунуўшы таму ў лапы пад відам „Сіцылістага“—чорнасоценца, члена саюзу рускага народу.

Злапамятлівасьць селяніна паказана ў апавяданьні „Тоўстае палена“. Аб'езчык Сучынскі пакрыўдзіў селяніна Паўлюка, і вось гэты апошні ніяк ня можа дараваць аб'езчыку крыўды і на ўсякія лады абмяркоўвае помсту.

У іншых сваіх апавяданьнях Я. Колас мастацка выяўляе такія рысы псыхікі сялянства, як моцнае пачуцьцё грамадзкае моралі, прыраджоны оптымізм, здаровы гумар. Але найбольш характарнымі рысамі беларускага селяніна, паводле Я. Коласа, зьяўляецца яго ўпартасьць і настойлівасьць; гэта ўласьцівасьць яго характару з вялікай мастацкай праўдзівасьцю выяўлена ў апавяданьнях: „Дзяліцьба“, „Недаступны“, „Знайшлі“, „Дзядзькаў сьведка“ і шмат іншых. Гэту псыхолёгічную асаблівасьць беларускага селяніна Якуб Колас разьвівае асабліва глыбока ў сваім найбольш значным творы, у поэме „Новая Зямля“.

Як бачым, ужо ў „Нашаніўскі пэрыод“, г. зн. у эпоху, калі ўсё беларускае нацыянальнае мела ў некаторай меры агульную тэндэнцыю быць ідэалізованым у творчасьці пісьменьнікаў-нашаніўцаў, Якуб Колас патрапіў даць больш-менш об'ектыўную (зразумела, у рамках об'ектыўнасьці, наагул даступнай мастаком) ацэнку сялянскім характарам. Праўда, некаторыя дасьледчыкі беларускае фольклёрыстыкі лічылі галоўнымі псыхолёгічнымі рысамі беларускага народу „яго чуласьць да хараства, пяшчотнасьць душы, смутны настрой, які скрашваецца гумарам“ * і г. д., і гэтыя рысы знаходзілі ў псыхолёгічных портрэтах у творчасьці Якуба Коласа. Аднак-жа, пералічаныя імі псыхолёгічныя рысы з такім-жа

* Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. Зборнік артыкулаў. Стар. 157.

правам могуць быць аднесены да любой нацыянальнасьці, тым больш, што сама агульна-нацыянальная псыхолёгічная катэгорыя—рэч больш, чымся няпэўная. Можна гаварыць толькі аб нацыянальных асаблівасьцях таго або іншага грамадзкага пласту, напрыклад, сялянства; і Якуб Колас, як вышэй мы бачылі, дае ў сваіх творах не агульна-нацыянальныя псыхолёгічныя зарысоўкі, а зарысоўкі пэўных грамадзкіх пластоў і прытым далёка не ў такіх ідэалізаваных тонах, як гэта хочуць яму прыпісаць, а па магчымасьці рэальна і об'ектыўна. Бо ў інтарэсах тае соцыяльнае групы, прадстаўніком якое зьяўляецца Я. Колас, зусім ня было выстаўляньне такіх сэнтымэнтальна-паненскіх рыс (хараство, пяшчотнасьць, смутны настрой і г. д.). Наадварот, для гэтае групы карысна была ў той час дэманстрацыя праз мастацкае слова іншых, больш жыцьцёвых і рэальных, псыхолёгічных рыс, што і рабіў Я. Колас.

Псыхолёгізм, як асноўная тэндэнцыя ў творчасьці Я. Коласа, пранікае ўсе яго творы, пачынаючы ўжо з самых раньніх і канчаючы сучаснымі. Але гэты псыхолёгізм разьвіваецца пісьменьнікам не абстрагавана, не адцягнена. Наадварот, гэта рыса яго творчасьці заўсёды рэльефна конкрэтызуецца на багацейшым бытавым матэрыяле. Нацыянальны быт беларускага селяніна *ні ў кога* з беларускіх пісьменьнікаў не знайшоў сабе такога поўнага мастацкага выяўленьня, як у Якуба Коласа. Малюнкі сялянскае працы, сямейнага і грамадзкага ўкладу жыцьця, якія былі ўжо так характэрны для нашаніўскае коласаўскае творчасьці, з часам разрасьліся ў палотнішчы вялікага мастацкага стылю. Каштоўны яны ня толькі з боку мастацкага, але і навукова-этнографічнага. Гэту рысу поэзіі Я. Коласа падкрэсьліваюць бадай усе дасьледчыкі беларускае літаратуры; гэтым тлумачыцца, паміж іншым, і вялікая популярнасьць Я. Коласа ў сялянскіх масах, якія ў яго творах пазнаюць з прыемнасьцю ўсе зьявы і дэталі свайго быту. Але Я. Колас і тут, у

бытавым абсягу сваёй творчасьці, як і ў псыхолёгічным, зьяўляецца пісьменьнікам па магчымасьці спакойным і бесстаронным. Захапляцца нацыянальным беларускім бытам, ідэалізаваць яго—не ў мастацкай яго манеры. Наадварот, Я. Колас ужо ў нашаніўскі пэрыод стараецца падкрэсьліваць пераважна адмоўныя праявы гэтага быту, яго нікчэмныя бакі, бо гэта было таксама ў інтарэсах тае соцыяльнае групы, прадстаўніком якой ён зьяўляецца.

У той час, як быт у Я. Коласа заўсёды фон для яго псыхолёгічных малюнкаў, трэцяя характэрная ўласьцівасьць яго творчасьці—пэйзажызм—часта мае самамэтнае назначэньне. Як поэт пэйзажысты, як поэт прыродаапісальнік, Якуб Колас ня мае сабе роўных у беларускай літаратуры і ня ўступае ў гэтым жанры клясыкам рускай і польскай літаратуры. Яно і зразумела. Прадстаўнік тае соцыяльнае групы, якая найшчыльней і найнеразлучней зьвязана з прыродай,—Якуб Колас меў магчымасьць выявіць ня толькі сваю індывідуальную блізкасьць і пранікліваю адчувальнасьць у стасунку да беларускае прыроды і яе хараства, але і выявіць усю глыбіню прыродаадчуваньня і прыродаразуменьня, назапашаныя сялянствам у працягу шмат пакаленьняў.

## VIII

Як мы бачылі, псыхолёгізм, бытавізм і пэйзажызм—творчыя дамінанты ў поэзіі Якуба Коласа—у асноўных рысах ужо сформаваліся і мастацка вызначаліся ў нашаніўскі пэрыод. Але шырокую вядомасьць і вялікую популярнасьць набыў ён толькі пасьля Кастрычніцкае рэволюцыі; да гэтае славы Я. Коласа, як мастака слова, прычыніліся, галоўным чынам, яго наступныя творы: „Новая Зямля“, „Сымон Музыка“, „У палескай глушы“, „У глыбі Палесься“, „На прасторах жыцьця“. Пяройдзем да кароткага іх агляду, распачаўшы з „Новае Зямлі“.

Мала твораў у беларускай літаратуры прыцягвала да сябе гэткую надзвычайную ўвагу, гэткае зацікаўленьне і захапленьне, як названая поэма. Наша ўбогая крытыка, якая звычайна збывае навінкі беларускае літаратуры некалькімі радкамі, больш бібліографічнага, чымся крытычнага характару, у гэтым выпадку пачала адгукацца яшчэ да паяўленьня ў сьвет поэмы цалкам; а як толькі яна паказалася на літаратурным рынку, то была спаткана аж некалькімі вялікімі артыкуламі. Нябывалая зьява ў беларускай тагачаснай літаратурнай крытыцы! І цікава, што гэты твор выклікаў выключна хвалебныя ацэнкі.

Ужо ў 1911 г. сваім першым разьдзелам, „Лясьнікова пасада“ поэма зьвярнула на сябе асаблівую ўвагу Максіма Багдановіча „беззаганнасьцю“ формы, „прыгожымі зраўнаньнямі“ і „шчырым пачуцьцём“.

М. Гарэцкі ў 1920 г. ўжо знаходзіў у „Новай Зямлі“ (ці справядлівей, у тых яе нямногіх разьдзелах, што к таму часу былі надрукованы) „самыя мастацкія і нацыянальныя кавалкі ў поэзіі Я. Коласа“. Нацыянальны характар поэмы М. Гарэцкі разумее ў тым, што „ў ёй адбілася беларускае жыцьцё“, праламанае праз прызму шчырага закаханьня да бацькаўшчыны поэта. Мастацкасьць поэмы М. Гарэцкі бачыць у тым, што „краскі малюнку нязвычайна густы і сакавіты, апісаньні стаяць дужа высока (побач з апісаньнямі Пушкіна ў „Евгении Онегине“ і А. Міцкевіча), а тэхніка вершу дасканалая“.

Я. Лёсік захапляецца „Новай Зямлёй“, бо ў ёй „як у люстры, прыгожа адбіваецца сялянскае жыцьцё ўсяе многапакутнае Беларусі, а хараство, багацьце і рознастайнасьць нашае айчыны выступае перад усім культурным сьветам першы раз і прымушае кожнага сказаць, што Беларусь бясспрэчна „красавіца-нявеста“ і г. д.

Гэтымі і да іх падобнымі ацэнкамі быў папярэджан выхад у друку ўсяе паэмы (1923 г.) Хвалебны тон і характар крытычных ацэнак „Новае Зямлі“ ня зьменшыўся і пасьля яе паяўленьня ў сьвет цалкам. Так, М. Байкоў,

прысьвяціўшы поэме значны артыкул, характарызуе яе: „поэма—монумэнтальнейшы поэтычны твор у беларускай мове і ў гэтых ужо адносінах—выдатнейшая зьява ў галіне беларускае поэзіі. Ня кажучы ўжо аб разьмеры поэмы — разьмеры, роўным разьмеру твораў Пушкіна і А. Міцкевіча,—гэта поэма па шырыні абмалёўкі беларускае прыроды і беларускага быту, па колькасьці выведзеных тут беларускіх тыпаў (паны, падпанкі, лясьнікі, сяляне, кабеты, дзеці) і абмалёваных тут абставінах беларускага жыцьця (фольварак, вёска, горад), па лічбе твораў і душ—ня ведае роўнага сабе твору“ *.

Названы крытык таксама падкрэсьлівае нацыянальны характар поэмы, а ідэолёгічны стрыжань „Новае Зямлі“ бачыць у тым, што поэт імкнуўся выявіць „процілегласьць клясавых інтарэсаў паміж панамі і працоўнай клясай“.

Яшчэ бліжэй падышоў да гэтага твору, яшчэ грунтоўней яго прааналізаваў проф. Замоцін **. Паводле яго думкі, Я. Колас у „Новай Зямлі“ „ўмела сынтэзаваў найболей яркія і жывыя матэрыялы сваіх назіраньняў над бытам і культурай Беларусі“. „І ўвесь гэты сынтэз назіраньняў і матэрыялаў поэмы зроблен не капрыснаю палітраю імпрэсыяністага, адбіваючага выпадковымі мазкамі пэндзля мгненьні і нават мігі сваіх уражаньняў, але спакойным і выразным пяром мастака-этнографа, запісваючага тое, што дакумантальна сабрана і праверана асабістым досьледам“. „У поэме, можна сказаць, адчуваецца мясцамі амаль-што эпічны спакой Калявалы, апісуючай да маленькіх падрабязгаў стары народны лад,— а часамі нават і непасрэднасьць успрыйманьня жыцьця і прыроды, дасягнутая, напрыклад, „Песьняю аб Гайаваце“—Лёнгфэлё. У гэтых адносінах ажыцьцёўлены ў поэме літаратурны жанр зьяўляецца цікавую навінкаю

* „Полымя“, 1923, № 5—6.

** „Пуціны беларускае літарат уры“, „Полымя“, 1924 г., № 5—6.

і пракладае дарогу другім мастаком слова, працуючым на полі беларускай літаратуры".

Прыведзеныя вышэй ацэнкі „Новае Зямлі" даволі ярка характарызуюць гэты твор, але, бязумоўна, ня вычэрпваюць усіх яго ўласьцівасьцяй як аднесна яго ідэолёгічнага зьместу, так і мастацкае формы. Асноўная тэма поэмы разгортваецца Я. Коласам (як гэта яму наогул уласьціва) пераважна ў пляне псыхолёгічным. Галоўным об'ектам гэтае тэмы зьяўляецца беларускі селянін у эпоху дарэволюцыйную (дакладней, канец XIX ст.). Імкненьне да зямлі, уласнае зямлі, як асноўны стрыжань сялянскае псыхікі,—тэма поэмы. Бадай ці дзе, нават у сусьветнай літаратуры, распрацавана гэта тэма з большай мастацкай пераканальнасьцю. Улада зямлі над селянінам, над усімі яго помысламі і жаданьнямі, над усім укладам яго быту пранізвае сабой наскрозь поэму. Зямля, як об'ект нястрыманае прагі, як ідэал, да якога праз усё сваё жыцьцё імкнецца селянін, ня толькі пастаўлена ў загалоўку поэмы, але яе жыватворчымі сокамі, яе глебным запахам прасякнут бадай увесь матэрыял, з якога скомпанована поэма. Але поэт ня толькі паказаў гэты стрыжань сялянскае псыхікі: ён мотываваў, аб'ясьніў імкненьне да зямлі селяніна: „Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут". Уласная зямля таму так прыцягвае селяніна, што яна суліць яму экономічную незалежнасьць (праўда, незалежнасьць часта зданьнёвую). Гэтым мотываваньнем хоць і звузіў Я. Колас асноўную тэму „Новай Зямлі", затое надаў ёй больш актуальнасьці ў аспэкце грамадзкіх адносін.

Вакол гэтага тэматычнага стрыжня поэт патрапіў надзвычайна тонка і поўна сабраць і адлюстраваць найхарактарнейшыя рысы псыхолёгіі беларускага селяніна (як у пляне соцыяльным, так і ў пляне нацыянальным). Вышэй ужо адзначалася, што такой характарнейшай рысай яго зьяўляецца (паводле нашаніўскіх твораў Я. Коласа) упартасьць і настойлівасьць. Гэта ўласьці-

васьць характару беларускага селяніна асабліва ярка выяўлена на героях іменна „Новае Зямлі“, асабліва ў постаці Міхала. У ім Я. Колас з вялікай мастацкай праўдай паказаў вобраз чалавека, які суцэльна аддаецца свайму ідэалу, сваёй мэце (гэтым ідэалам, гэтай мэтай у даным выпадку зьяўляецца ўласная зямля), які ўпарта, ня гледзячы на жадныя перашкоды, крочыць па шляху змаганьня не парыўчага, ня яркага, ня хмельна-натхненнага, а змаганьня зацята-спакойнага, бязьмерна-маруднага, будзённа-шэрага, змаганьня за гэты свой ідэал, аб якім і ў сьвята і ў будні, і пры рабоце і пры адпачынку, і ў гародзе і ў пасьцелі—ён толькі і марыць, толькі і думае, толькі і моліцца на гэты свой ідэал; ён праз усё сваё жыцьцё ні на момант не расстаецца з гэтым ідэалам, ён нават у апошнія хвіліны свайго жыцьця, у хвіліны свайго скананьня апошнімі іскрамі сваёй сьвядомасьці імкнецца да гэтага ідэалу.

Але гэтая рыса сялянскае псыхікі не абстрагована ў поэме: яна рэалізуецца праз другую вельмі характэрную ўласьцівасьць гэтае псыхікі, а іменна праз працавітасьць і прытым разумную, мэтазгодную працавітасьць, якой надароны героі „Новае Зямлі“. Поэт, аднак, дае ў „Новай Зямлі“ псыхолёгічныя портрэты ня ў стане іх статыкі, ня толькі канчаткова зложанымі. Наадварот, ён паказвае доўгі ланцуг эволюцыі гэтых портрэтаў, бярэ беларускага селяніна ў самыя рознастайныя моманты яго жыцьця. У поэме дан квяцісты вянок портрэтаў дзяцей, падросткаў, юнакоў і г. д. Цікава адзначыць, што Я. Колас паказвае гэтыя рознастайныя псыхолёгічныя малюнкі ня шляхам нейкіх нязвычайных колізій і выпадкаў, а паказвае іх на фоне звычайнага жыцьця працоўнага селяніна, на фоне яго скромнай і ціхай працы, на фоне яго простых і будзённых клопатаў і радасьцяй.

Адгэтуль выплываюць і знамянітыя бытавыя малюнкі. Гэтыя малюнкі, як вышэй адзначалася, часта былі фонам

для псыхолёгічных эскізаў нашаніўскае пары, але ў „Новай Зямлі“ складаюцца ў велічную, нязвычайна шырокую і праўдзівую панораму беларускага сялянскага быту. Гэты бытавы элемэнт у поэме так памяркоўна і гармонічна сплецен з цэлым, што не адчуваецца ў якасьці знарок дадане этнографіі; наадварот, зьяўляецца неразьдзельнай мастацкай часьцю поэмы ў цэлым.

У „Новай Зямлі“ Я. Колас з найбольшым размахам выявіў і трэцюю сваю творчую домінанту, выступіўшы тут у ролі непараўнанага пэйзажыстага. Беларуская прырода фактычна ўпяршыню была паказана ва ўсім яе бляску і рознастайнасьці іменна ў гэтай поэме. У гэтых адносінах „Новая Зямля“ ня мае сабе другой аналёгіі ва ўсёй беларускай літаратуры.

Але ці вычэрпваецца гэтым мастацкі зьмест „Новае Зямлі“? Характэрнай уласьцівасьцю папраўдзе вялікіх, папраўдзе выдатных твораў мастацтва трэба лічыць іх многаграннасьць. Гэта вялікія згусткі крышталю, сьценкі якога ясьнеюць рознымі колерамі. І ў залежнасьці ад таго, з якога боку мы зірнем на гэты крышталь,—перад нам запраменіцца ён то злотайскрыстымі бляскамі, то зацянюе цёмнымі фіолетамі.

Вышэйпаданыя ацэнкі „Новае Зямлі“ ўзьніклі ў пляне рэалістычнае інтэрпрэтацыі поэмы. Але яе гэта інтэрпрэтацыя можа быць і ў пляне сымболічным. І тады мы ў рэалістычных вобразах поэмы пабачым сымболь беларускага нацыянальнага адраджэньня, сымболь высока-мастацкі ў сваёй рэалістычнай прастаце. Уласная зямля, да якой імкнуўся Міхал, набывае значэньне сымболю ўласнае айчыны. Асабліва гэта адчуваецца ў апошнім акордзе поэмы, калі пры сьмерці Міхал дае свайму брату Антону наступны наказ:

Бог ня судзіў мне бачыць волі
І кідаць зерні ў свае ролі...
Зямля... зямля... туды, туды, брат,
Будуй яе... ты дай ёй выгляд...
На новы лад, каб жыць нанова...

Змаганьне Міхала за ўласную зямлю сымболізуе змаганьне беларускага працоўнага народу, таго народу, які на працягу сталецьцяў ня меў сваёй айчыны, які быў чужым у гэтай айчыне, таго народу, які, як і Міхал, марыў і імкнуўся да гэтае айчыны, уласнае зямлі, „Новае Зямлі“, як сымболічна называе поэт сваю поэму. І як Я. Купала ў „Раскіданым гнязьдзе“ даў сымболь Беларусі—руйнаванае і разбуранае і матэрыяльна і духоўна, і нацыянальна і соцыяльна, так Я. Колас у „Новай Зямлі“ даў у цалкам рэалістычных рысах сымболь шуканьня гэтае айчыны, сымболь імкненьня народу да адраджэньня і адбудаваньня гэтае свае „раскіданае“ айчыны. Гэтая сымболіка поэмы асабліва выпукляецца на фоне тых лірычных прэлюдый, якімі пачынае звычайна поэт яе разьдзелы. У гэтай лірыцы так многа каханьня да бацькаўшчыны, да родных палеткаў, такі энтузіязм нацыянальнага пачуцьця, што поэма ўспрымаецца як твор, наскрозь прасякнуты ідэяй беларускага нацыянальнага адраджэньня, дзякуючы чаму яна мае большую органічную сувязь з беларускай літаратурай нашаніўскае пары, ніж пасьлякастрычніцкае, хаця ў пераважнай сваёй большасьці (2/3) напісана яна ў гэту апошнюю.

---

У 1925 г. паявілася ў друку другая поэма Я. Коласа „Сымон Музыка“ ў сваёй трэцяй рэдакцыі*. Ужо першы яе рэцэнзэнт** даў наступную характарыстыку гэтаму твору: „Сымон Музыка“—поэма не грамадзкага жыцьця, не об'ектыўных рэальнасьцяй; ня тужцеся праз маляўнічую прызму яе мастацкіх вобразаў пазнаць об'ектыўны сьвет, пазнаць лёгіку жыцьцёвай праўды; ня шукайце ў

---

* Аб гісторыі напісаньня і выданьня гэтае поэмы гл. прадмову да яе ў выданьні 1925 г.

** „Полымя“, 1925 г., № 6, стар. 207.

ёй тыповага для жыцьця; там гэтага няма, а калі і спатыкаецца дзе, то мае характар цалкам выпадковы, эпізодычны, нязначны. Усё гэта знайшло сабе клясычнае выяўленьне ў другой поэме Я. Коласа, у „Новай Зямлі“. „Сымон Музыка“—поэма *суб'ектыўных* рэальнасьцяй, *пераважна эмоцыянальных*, а часткай і інтэлектуальных. У лязуровых яе глыбінях пышным цьветам распусьцілася псыхіка поэта, убраная гірляндамі сакоўнай зелені мастацтва. І гэты пышны цьвет аўтарскага суб'ектывізму як-бы заглушыў сумернасьць тых рэальных суадносін, да якіх мы прывыклі ў жыцьці. Адгэтуль тая нібы штучнасьць у аснове самога сюжэту поэмы, калі з вуснаў яе героя, хлапчука Сымона, выліваюцца тырады мэтафізычных разважаньняў, якія цудадзейным спосабам становяцца актыўнымі мотывамі ў паступках і прыгодах героя; адгэтуль тая да бяскроўнасьці ідэалізаваная цнатлівасьць пачуцьця каханьня, малюнкі якога вытворна-мастацкімі фарбамі зарысованы ў поэме; адгэтуль брак часам і мастацкае сувязнасьці ў некаторых момантах композыцыі поэмы. Але адгэтуль і тая буйная расьлінасьць найбагацейшага лірызму, якая дзівосным орнамэнтам аздабляе старонкі „Сымона Музыкі“, адгэтуль тая асаблівая глыбіннасьць эмоцыянальнасьці, у бяздоньнях якой мігацяць вясёлкавыя бляскі літаратурнага мастацтва, адгэтуль тая асаблівая сонечная пяшчотнасьць, якой апраменена поэма. „Сымон Музыка“—гэта ня толькі пышны цьвет поэтыцкае індывідуальнасьці: гэта пышны цьвет беларускае поэзіі, як мастацтва. Гэтая мастацкасьць поэмы з нязвычайным размахам выяўлена ў лірычных прэлюдыях да паасобных яе песень. Романтычны характар поэмы наскрозь падкрэсьлен яе *музычнай* эмоцыянальнасьцю, у той час як у рэалістычнай поэме „Новая Зямля“ пераважвае *эмоцыянальнасьць плястычная*. І Я. Колас, непараўнаны поэт-плястык, у „Сымоне Музыку“ паказаў, што ён умее *дасканала ўладаць і мэлёдыкай вершу*“.

Падаў я тут гэту рэцэнзію цалкам, бо ў ёй сьцісла сформулёваны тыя асноўныя палажэньні, якія з часам былі разьвіты і грунтоўна распрацованы ў радзе артыкулаў, прысьвячоных данай поэме. Так, проф. Замоцін у артыкуле, прысьвячоным дваццацілетняму юбілею коласаўскай творчасьці, разглядае „Сымона Музыку“, як твор суб'ектыўных рэальнасьцяй. Аб гэтым сьведчыць ужо сама назва гэтага артыкулу: „Поэма Я. Коласа „Сымон Музыка“, як аўтахарактарыстыка“ *. Існасьць гэтага твору названы дасьледчык бачыць у наступным: ...„калі эпічна-спакойныя тыповыя зарысоўкі асоб, здарэньняў і малюнкаў прыроды і быту ў іншых творах Я. Коласа складаюць асноўную іх стыхію, то гэтага, мне здаецца, нельга сказаць пра поэму „Сымон Музыка“, дзе суб'ектыўная стыхія выступае на першы плян, а об'ектыўная, тыповая, служыць для яе толькі агульным фонам. Гэта суб'ектыўная стыхія ў даным творы і зводзіцца, галоўным чынам, да тых аўтарскіх паказаньняў аб прыродзе творчасьці наагул і свае паасобку,—паказаньняў, якія раскіданы па ўсёй поэме, асабліва ў тых яе мясцох, дзе даецца гісторыя прабуджэньня, росту і росквіту поэтычнае таленавітасьці Сымонкі“. У тым-жа кірунку разглядае пераважна поэму і А. Бабарэка **. „Сымон Музыка“, найлепшая поэма з творчасьці Якуба Коласа, каштоўна ня толькі як мастацкае выяўленьне вобразу песьняра— гэтага адраджэнцкага кругабегу ў гісторыі беларускае літаратуры. Каштоўна гэта поэма, як выражэньне ў мастацкай форме коласаўскага вопыту жыцьця, коласаўскага ўспрыяцьця сьвету і яго разуменьня“. З боку мастацкага стылю грунтоўны аналіз поэме даў Ю. Бярозка***, які ў рэзультаце гэтага аналізу прышоў да вываду,

---

* „Полымя“, № 8, 1926 г.

** „Поэма „Сымон Музыка“ Якуба Коласа“, Узвышша, № 1927 г.

*** „Сымон Музыка“ („морфолёгічны аналіз“). Зборнік „Літартворчасьць К. М. Міцкевіча“. Масква, 1927 г.

што „паводле сваіх апавядальных прыёмаў, паводле прыёмаў композыцыйнага зьнітаваньня асноўных будаўнічых мас „Сымона Музыкі“, паводле агульнага характару свайго морфолёгічнага цэлага, поэма Коласа павінна быць названа *романтычнай поэмай*“. Аб вялікіх мастацкіх дасягненьнях Я. Коласа ў гэтым творы гаворыць і А. Навіна *: „Аб велічы творчага пад'ёму красамоўна гаворыць мастацкая форма твору, нязвычайнае багацьце вобразаў, рознароднасьць рытмікі і будовы вершу ў залежнасьці ад зьменнасьці настрояў поэта. Цудоўныя лірычныя адступленьні, якімі перасыпана поэма, непараўнальныя па сваёй красе і глыбокім настроям апісаньні прыроды—гэта сапраўдныя пэрлы нашае поэзіі“.

---

„У палескай глушы“ і „У глыбі Палесься“—гэта пакуль дзьве часьці задуманай Я. Коласам трылёгіі. Калі ў 1923 г. вышла з друку першая частка яе („У палескай глушы“), то ў беларускай крытыцы былі спробы разглядаць яе, як самастойны закончаны твор, рабіліся спробы характарыстыкі галоўных герояў яе (Лабановіча), рабіліся спробы крытычнага аналізу яе асноўнае тэмы з боку соцыялёгічнага і мастацкага. Але адначасна з гэтым адчувалася, што ў гэтай першай часьці пісьменьнік больш толькі паставіў, намеціў, чымся разьвязаў асноўную тэму повесьці, што ён сваіх галоўных герояў (Лабановіча) яшчэ толькі-толькі пасьпеў вывесьці на сцэну, даць толькі папярэднюю характарыстыку. І хоць сваёй мастацкай композыцыяй „У палескай глушы“ прадстаўляе з сябе даволі закончаны сюжэтны цыкль, то, аднак, адчувалася, што гэта толькі першы акт тае жыцьцёвае драмы, галоўную ролю якой павінен разыграць Лабановіч у далейшых дзеях. Так яно і сталася. У 1926 г.

* „Сымон Музыка“. Збор. „Я. Колас у літар. крытыцы“, Менск, 1926 г.

пачалі паяўляцца ў друку адрыўкі другое часьці гэтае повесьці, зьвязанае з першай ня толькі еднасьцю галоўнага героя (Лабановіча), але і сваёй назвай („У палескай глушы“—„У глыбі Палесься“). А калі ў 1927 г. вышла ў сьвет гэта другая часьць повесьці цалкам, то стала зусім відавочным, што Я Колас працягне яе і далей, стала відавочным і тое, што тэрмін повесьць, як назваў гэты твор аўтар, завузкі, і што ў даным выпадку больш падходзіў-бы тэрмін роман, які к таму-ж пачаў даволі шырока ў апошнія часы ўжывацца ў беларускай літаратурнай практыцы. Таму я лічу, што суцэльны соцыялёгічны і мастацкі аналіз повесьці—справа будучыны. Тутжа лічу магчымым закрануць толькі некаторыя яе моманты.

Сваёй агульнай экспозыцыяй поэтычнага матэрыялу абедзьве часьці повесьці падобны да сябе: вясковая школа, як цэнтральная пляцоўка дзеяньня, навокал якой групуюцца ўсе іншыя сцэны і пэрсонажы—сельскія настаўнікі, вясковае духавенства, валасная бюрократыя (старшыня, пісар, стараста), сялянства (у розных праслойках); вандроўка і падарож, як композыцыйны мэтод паказваньня новых фігур і сытуацый; маладая дзяўчына, як пункт прыцягненьня галоўнага героя, Лабановіча (у I ч. повесьці ў большай меры; у II ч. повесьці ў меншай). У рэзультаце перад намі на канве даволі нескладанай і аднастайнай фабулы разгортваецца пісьменьнікам просты сюжэт: малады настаўнік (Лабановіч) распачынае сваю пэдагогічную кар'еру ў глухой палескай вясковай школе; уваходзіць у кола колегаў па працы, сельскіх настаўнікаў; знаёміцца з вясковай інтэлігенцыяй, у тым ліку з дачкой лясьнічага, Ядвісяй (тут завязка сюжэтнае інтрыгі); разьвінаньне парасткаў каханьня паміж імі; выезд Ядвісі і разлука яе з Лабановічам; выезд Лабановіча з школы на летнія канікулы;—вось сюжэтная ніць першае часьці повесьці. Прыезд Лабановіча з школы на летнія канікулы ў вёску; летні адпачынак у роднай хаце; новая

школа ў глыбі Палесься пад Пінскам і прыгоды, зьвязаныя з працай у ёй,—вось сюжэт другое часьці повесьці.

Як першая, так і другая часьць повесьці абмяжованы рамкамі невялікага адрыўку часу—меней аднаго году (у першай часьці—восень, зіма і вясна; у другой—лета, восень і зіма)—характарная рыса малафабульных твораў. Гэты сюжэт зьвязвае і організуе ў адно мастацкае цэлае асноўная задача твору, якую сам пісьменьнік частковa формуляваў наступным спосабам: „У палескай глушы“ ёсьць нязначны адбітак жыцьця вясковае інтэлігенцыі і галоўным чынам вясковага настаўніцтва. Жыцьцё гэта адносіцца к самаму пачатку XX веку, да часоў першае рэволюцыі 1905 году. Выхаваная пры чыста казармавых абставінах, узгадаваная па катэхізісу Філарэта і нашпігованая начынкаю ў духу „веры, царя и отечества“, гэта інтэлігенцыя, штучна адарваная ад жывых крыніц жыцьця, часткаю, ня бачачы прасьветліны, апускалася на дно і зацягалася балотам. Болей-жа дзейная і жывая частка яе імкнулася зьліцца з гэтымі крыніцамі і вобмацкам шукала дарог, каб пазнаць „корань рэчаў“. Прадстаўніком гэтае другое часьці інтэлігенцыі ў повесьці Я. Коласа і зьяўляецца Лабановіч.

Асноўную тэму твору і магчыма, мне здаецца, формуляваць, як дасьпяваньне грамадзкага самаўсьведамленьня гэтага галоўнага героя повесьці, Лабановіча. Першыя парасткі гэтага самаўсьведамленьня аўтар паказаў быў нам ужо ў „У палескай глушы“, але там яно мела ня гэтулькі грамадзкі зьмест, колькі было індывідуалізавана ў агульным разьвіцьці характару Лабановіча, у выяўленьні яго першых эмоцыянальных нюансаў, першых рысак фармаваньня індывідуальных валявых процэсаў. Ад захапленьня сваімі асабістымі перажываньнямі Лабановіч у II ч. аповесьці ўступае ў пэрыод аграмаджаньня, у пэрыод урастаньня ў грамаду ў якасьці актыўна-дзейнай адзінкі; з ярка індывідуалізованай асабістасьці, якая значна адрозьнівалася сваёй псыхо-ідэолё-

гіяй ад колектыву—сялян (рэзультат, паміж іншым, і сэмінарскага выхаваньня), Лабановіч тут вачавідкі формуецца ў бок зьбліжэньня з гэтым колектывам, зьбліжэньня, прадыктаванага грамадзкім, не скажу абавязкам (гэта мела месца ў I ч. повесьці, дзе перад Лабановічам часад-часу ўставала здань грамадзкага абавязку), а самаўсьведамленьнем, грамадзкім яго самавызначэньнем. Ад глыбока-суб'ектыўнае рэфлексіі і пасыўнае (пераважна пасыўнае) нездаволенасьці рэчаіснасьцю, якія панавалі над Лабановічам у „У палескай глушы", да актыўнага рэволюцыйнага чыну, прычым чыну не адасобненага, а зьлітага з грамадой, раствораага ў чыне грамады,— вось шлях псыхічнага фармаваньня галоўнага героя повесьці. І калі на пачатку гэтага шляху мы бачым Лабановіча, пераможанага індывідуальнай стыхіяй, здрузгатанага навалай асабістых перажываньняў-няўдач, абезнадзеенага (апошні акорд I ч., ліст да Ядвісі з вельмі яркай самахарактарыстыкай у ім: „Вас ужо няма тут. Вы паехалі, а разам з сабою забралі ад мяне усё, што зьвязвала мяне з гэтым месцам, з гэтым кутком Палесься. Цяпер ён ня жыве для мяне, бо ўсё тое, што прыдавала яму прыгоства і нейкую чароўнасьць, забралі Вы. Я тут адзін, усё тут стала ня міла для мяне, як-бы яно памерла і зьнікла, і толькі адзін няжывы труп застаўся ад усяго, што раней гарнула і вабіла мяне..."),—то ў канцы наступнага этапу гэтага шляху, у канцы II ч. повесьці, Лабановіч, арыштованы за рэволюцыйную дзейнасьць, праходзіць перад намі пад канвоем казакаў як пераможнік-герой, вынесены на поверх стыхіяй грамадзкага парадку. І ня гледзячы на моцны казацкі канвой, чытач адчувае, што Лабановіч, прайшоўшы пэрыод свайго грамадзкага фармаваньня, цяпер-то іменна і ўступае ў паласу самага яркага жыцьця-змаганьня, у якім разгорнуцца ва ўсю яго душэўныя сілы, як прадстаўніка сваёй соцыяльнай групы. Трэба спадзявацца, што гэта выявіць аўтар у наступнай III ч. повесьці.

На якім матэрыяле конкрэтызаваў Я. Колас асноўную тэму сваёй повесьці? Прырода-апісальная стыхія, так характэрная для вершаванага эпосу Якуба Коласа (поэмы „Новая Зямля“, „Сымон Музыка“), у разгляданай тут повесьці (як у І, так і ў ІІ ч.), зьяўляецца толькі агульным фонам, рамкамі. Тут апісаньні прыроды пазбаўлены тэй самамэтнасьці, таго самалюбаваньня, якое мы бачым у названых вышэй творах, дый па колькасьці ў агульнай композыцыі повесьці яны займаюць нязначнае месца (зачыны ІІІ і XXVIII разьдзелаў І ч. і зачыны І і XIII разьдзелаў, а таксама ўстаўка ў XIV разьдзел ІІ ч.). Але і тут яны захоўваюць ва ўсёй моцы глыбокую эмоцыянальнасьць і мастацкую выразьлівасьць, так характэрныя для гэтага коласаўскага жанру. У яго ня толькі паказваецца прырода, пэйзаж, але даецца і пераживаньне аўтарам (або героямі твору) гэтае прыроды, гэтага пэйзажу, часамі, быць можа, яшчэ неўсьвядомленае, але прасякнутае асаблівым араматам. У гэтай іменна непасрэднасьці, у гэтым зьліцьці суб'екта (аўтара-героя) з об'ектам (прыродай)—чароўнасьць і мастацкая перакананальнасьць коласаўскіх малюнкаў прыроды. Пяшчотныя, журботна-ласкавыя, лагодныя тоны, пераважаючы тут, характарызуюць, быць можа, ня гэтулькі беларускую прыроду, пэйзаж, колькі іменна іх суб'ектыўнае ўспрыйманьне аўтарам і выкарыстаны часта ў якасьці композыцыйнага паралелізму, проекцыі асабістых перажываньняў у прыроду.

Аднак, азначаная вышэй тэма разьвіваецца аўтарам ня толькі (дакладней кажучы—часамі толькі) на фоне прыроды. Значна большую ролю іграюць тут бытаапісальныя элемэнты. Палящуцкая вёска ў гэтым творы знайшла сваё яркае адлюстраваньне, асабліва ў І ч. повесьці. У другой-жа часьці бытавыя малюнкі вёскі як-бы адсунуты ў цень (калі ня лічыць апісаньня побыту Лабановіча ў родным сяле Мікуцічах) трэцяй стыхіяй—партрэтапіснай.

Якуб Колас, як пісьменьнік-портрэтысты (разумею тут ня толькі портрэт—надворны выгляд, але і портрэт—характар), карыстаецца ў беларускай літаратуры ўжо даўно заслужанай славай. Але мне здаецца, што на тую вышыню мастацкае дасканаласьці і віртуознасьці ў гэтым жанры, якую мы бачым пераважна ў II ч. повесьці, ён падымаецца ўпяршыню. Фактычна кажучы, портрэт, як мастацка, так і колькасна, беспадзельна пануе тут. „У глыбі Палесься“ зьяўляецца як-бы портрэтнай галерэяй, праз якую праводзіць аўтар зачараванага і захопленага чытача, паказваючы яму ўсё новыя тыпы-характары. Гэта портрэтапісная стыхія, бязумоўна, падпарадкавала сабе ўсе іншыя элемэнты повесьці, у значнай меры засланіла сабой і разьвіцьцё асноўнай тэмы повесьці.

Пэрсонажаў повесьці аўтар зарысоўвае ў радзе жывых, метка схопленых портрэтаў,—зарысоўвае часамі як-бы мімаходам, адным-другім штрыхом, але штрыхом так характэрным, што выяўляе самую існасьць характару данае асобы.

Даючы пераважна знадворны портрэт, Я. Колас умее дасканала праз гэтыя знадворныя штрыхі паказаць і ўнутраны сьвет дзейных асоб, іх характар, тэмпэрамэнт, умее падкрэсьліваць па маляваных ім портрэтах іменна тыя знадворныя рысы, якія выяўляюць псыхолёгічныя асаблівасьці яго герояў. Замест таго, каб апісваць унутраны характар свайго героя, яго псыхолёгічны стан, Я. Колас падмячае ў ім нейкі асаблівы жэст, рух, нейкую спэцыфічную рысу ў твары, фігуры, хадзе, вопратцы—і перад намі жывы портрэт. У гэтым сэнсе Я. Колас прыналежыць да тых об'ектыўных пісьменьннікаў, якія, як заўважыў недзе Мопасан, хаваюць псыхолёгію замест таго, каб выстаўляць яе, робяць з яе аснову, накшталт нябачанага шкілету чалавека (выключэньнем зьяўляецца галоўны герой повесьці, псыхолёгічныя станы якога дае аўтар і ў непасрэдным выяўленьні).

Бадай усе портрэты повесьці даны аўтарам так ярка і маляўніча, з такім майстэрствам і размахам, што, ня гледзячы на пэўную мэханічнасьць і композыцыйную неапраўданасьць сувязі паміж некаторымі пэрсонажамі повесьці, а таксама паміж імі і галоўным героем повесьці, настолькі захапляюць нас, што, не адрываючыся ад іх, прабягаеш гэту портрэтную галерэю, каб зноў вярнуцца ў яе і ўжо падоўгу стаяць перад паасобнымі яе экзэмплярамі.

Мова повесьці вызначаецца яснасьцю, стылістычнай зграбнасьцю пры багатай беларускай лексыцы, пры колёрытнасьці фразэолёгіі; характарызуючы дыялёг, які ў повесьці займае, бадай, пануючае месца, будуе Я. Колас віртуозна, паслугуючыся тут featнастайнымі, часта вельмі трапнымі і неспадзеўнымі аўтарскімі рэмаркамі.

---

Асноўная мастацкая манера Якуба Коласа ў значнай меры зьвязвае поэта ў сэнсе выбару жыцьцёвага матэрыялу для сваёй творчасьці. Псыхолёгічны, бытавы і пэйзажны малюнак можа стварыць пісьменьнік толькі на матэрыяле дасканала вывучаным, на матэрыяле, якім пранікнута мастацкая організацыя самога пісьменьніка. А такім матэрыялам для Коласа як перад Кастрычнікам, так, у значнай меры, і цяпер зьяўляецца беларускае сялянства ў сваім дарэволюцыйным быце і псыхолёгіі, побач з беларускай прыродай. На гэтым матэрыяле Якуб Колас стварыў, мне здаецца, недасяжныя літаратурныя ўзоры данага мастацкага жанру.

Але нельга лічыць Якуба Коласа акамянелым у сэнсе выбару об'екту для сваёй творчасьці. Гістарычныя падзеі сучаснай вялікай рэволюцыйнай эпохі грунтоўна пахіснулі падставы старога быту, налажылі нясьцёрты сьлед на псыхіку родных Якубу Коласу грамадзкіх пластоў. Пры сваёй старой, у асноўным, мастацкай тэн-

дэнцыі (псыхолёгізм, бытавізм, пэйзажызм) Якуб Колас лёгікай рэволюцыйных падзей пастаўлен перад новым жыцьцёвым і грамадзкім матэрыялам. І ён прымушан рабіць паварот: ад старога дарэволюцыйнага грамадзкага матэрыялу перайсьці да мастацкага адтварэньня сучасных форм яго.

Ці пад сілу такая ломка для поэта? Базумоўна, так. Якуб Колас знаходзіцца цяпер у стане найвялікшага творчага размаху, а яго мастацкая талентнасьць дапаможа яму справіцца з труднасьцямі тэматычнага павароту, які для пісьменьніка яго формацыі, бязумоўна, ня лёгкі. Спробу такога павароту мы бачым ужо ў апавяданьнях, зьмешчаных у зборніку „На рубяжы“. Яшчэ больш сьведчаць аб гэтым апошнія творы Якуба Коласа. Я тут асабліва маю на ўвазе повесьць „На прасторах жыцьця“, тэма якой— уплыў пролетарскае культуры на вёску і шляхі, па якіх пойдзе вёска (а часткай ужо ідзе) да будаўніцтва новага жыцьця; і з гэтай новай для поэта тэмай Якуб Колас, наогул кажучы, справіўся. Гэта дае пэўную нам надзею, што ў далейшым, усвойваючы новыя формы сучаснага грамадзкага жыцьця і органічна зрастаючыся з гэтымі формамі, Якуб Колас, як вялікі мастак, адаб'е ў сваіх будучых творах вялікую рэволюцыйную сучаснасьць.

*Ул. Дзяржынскі.*

* * *

Ня пытайце, не прасеце
Сьветлых песень у мяне,
Бо, як песьню засьпяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

Я-б сьмяяўся, жартаваў-бы,
Каб вас чуць разьвесяліць,
Ды на жыцьце як паглядзіш,
Сэрца болем зашчыміць.

Не шчасьліва наша доля:
Нам нічога не дала.
Ня шукайце кветак ў полі,
Бо вясна к нам ня прышла.

1904 г.

## МОЛАДАСЬЦЬ

Чым успомніць цябе, моладасьць,
Жыцьця сьветлага ты раніца?
Пралятае вясна мілая,
Ды вясна мая туманіцца.

Дзе вы, думкі мае чыстыя,
Майго сэрца дзеткі мілыя?
Як лёгка жылося з вамі мне
У дні шэрыя, пахілыя!

І ня раз мяне вы цешылі
У ночку цёмную, бяссонную,
Хоць на момант засланялі вы
Ад вачэй нуду бяздонную.

Дзе ты, краска, зорка ясная?
Між народу ты сьвяцілася,
У глухім кутку забытая,
Па жыцьцю ты ўсё смуцілася.

Ці цьвяцеш ты, ці засохла ты
У краі тым адзінокая?
Ці ёсьць іскра агню божага,
Мая ластаўка далёкая?

Чым-жа ўспомніць цябе, моладасьць,
Мая раніца ты хмурная?
Незаметна ты ўсё тлелася,
Як лучына тая курная.

1906 г.

## Вясна

Вясна прыдзе, сьнег пагіне,
Вышай сонца хадзіць стане,
Промень ясны ўсюды кіне,
Рунь падыме на паляне.

З гор пальлюцца пераналы,
Раскуюцца рэчкі з шумам.
Выйдзе з хаты стар і малы
Гаманліва-дружным тлумам.

Убярэцца лес бязьлісты
У гарнітар свой зялёны,
Шугне вырай галасісты,
Камары заб'юць у звоны.

Зашуміць трава густая,
Кветкі ў лузе засьмяюцца.
Вясна прыдзе маладая,
Ўсюды песьні панясуцца.

1907 г.

## МЕСЯЦ

Ціха месяц адзінокі
Ходзіць ў небе над зямлёю.
Неразгаданы, далёкі!
Што ты бачыш пад сабою?

Бачыш сьлёзы ты людзкія,
Як з расою тэй ліюцца,
А ў тумане думкі злыя
Горкім плачам аддаюцца,

Як бяз хлеба і бяз долі
Працавіты люд наш гнецца...
Кінь ты жальбу нашу ў неба—
Няхай неба ўскалыхнецца.

1907 г.

* * *

Ўюцца думкі, томяць грудзі—
Волі хочацца і ім,—
Хочуць песьняй стаць лагоднай,
Мілым дзіцяткам маім.

Цяжка з імі жыць замкнута,
У начной хаваць цішы,
Цесна думкам, цесна бедным,
Хочуць выліцца з душы.

Ўюцца думкі смутным роем,
Хочуць выбіцца на сьвет.
Дык ляцеце, сэрца дзеці,
На паперку кіньце сьлед!

1908 г.

## УСХОД СОНЦА

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.

Чуць-чуць дрогне, прыліецца
Чырвань на усходзе—
Гэта неба усьміхнецца
Людзям і прыродзе.

Сьмех адказны, сьмех шчасьлівы
Ходзіць на пагорках.
Час сьвітаньня—час жычлівы...
Гаснуць, нікнуць зоркі.

Шырай, шырай заранiца
Разьнімае крыльле,
Нібы пожар б'е крыніцай
Там на небасхіле.

Сноп праменьняў, пышна ўзьняты,
Сее блеск-чырвонцы—
Гэта неба сьцеле шаты
На дарогу сонцу.

Над палямі мрок прарваўся,
Па нізох расплыўся,
Лес туманам заснаваўся,
Луг расой абмыўся.

Агнявыя валаконцы
Ткуцца ў шоўк чырвоны—
Гэта хмаркі ладзяць сонцу
І дзяньку кароны.

Як прыемна пахне збожжа!
А вакол—спакойна!
Эх, як слаўна, як прыгожа,
Хораша, прыстойна!

І сабрала неба фарбы
Колераў дзівосных...
І дзе ёсьць такія скарбы
Гожства, сугалосься?

1908 г.

# ВЕЦЕР

Ой, ты, вецер неспакойны!
Дзьмеш ты бяз устанку,
Адну песьню нам сьпяваеш,
Адну баеш байку.

То заплачаш сіратою
Над убогай хатай,
То застогнеш, як над нівай
Селянін-араты,

То засьвішчаш за вугламі,
Жалем разальлешся,
То сярдзіта ў дзьверы стукнеш,
Злосна засьмяешся...

Ой, ты, вецер неспакойны,
Ты мой брат па долі!
Раскідаем сьмех і сьлёзы
Мы у чыстым полі.

1908 г.

## ДУМКІ

Ой, вы, думкі, думкі,
Сэрца майго рань!
Ці вы мае дзеці,
Ці вы кім насланы?

Што-ж вы завіліся
Віхрам нада мною,
І няма ніколі
Мне ад вас спакою?

Рад-бы я ня думаць
І ня знацца з вамі,
Ды без запытаньня
Плываце вы самі.

Плача маё сэрца,
Хоць бяз сьлёз, ды горка,
Як пачнецца ваша
Смутная гаворка.

І на маю душу
Леглі вы туманам,
Мітусьлівым роем,
Смутным караванам.

Ой, вы, мае думкі!
Ці вы кім зражоны,
Што так невясёлы,
Што так засмучоны?

Рад-бы я ня думаць
І ня знацца з вамі,
Толькі-ж проці волі
Плывяце вы самі.

1909 г.

* * *

Рана засмуцілісь
Думкі, сэрца дзеткі,
Рана вы завялі,
Веснавыя кветкі!

Ці мароз зьнячэўку
Вас прыбіў вясною,
Як на сьцежку жыцьця
З простаю душою

Стаў я, поўны веры,
Радасьці і сілы.
Што-ж на вас дыхнула
Холадам магілы?

Што-ж вы неспакойна
Кружыцесь, як пчолы?
Думкі, мае думкі!
Што вы невясёлы?

Ці краіны роднай
Балаты гнілыя
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладыя?

Ці вас песьня-жальба,
Думкі, ўзгадавала?
Ці людзкое гора
Ў лесе вас спаткала?

Ці маё так жыцьце
Склалася няўдала?
Ці мая дарога
Ў туманы папала?

Рана спахмурнелі,
Думкі маладыя,
Рана вы завялі,
Кветкі веснавыя!

1909 г.

## АСЕНЬНІ ДОЖДЖ

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
Ціха па стрэсе бубняць.
Смутак наводзіць шум іх жалобны,
Смутку таго ня суняць.

Хліпаньне, плюскат... Ночка глухая
Цягнецца доўга, як год,
Вецер заложны шуміць, ня сьціхае,
Жаласна сьвішча праз плот.

Кружацца думкі, сон разганяюць,
Мары наводзяць і сны,
Волю далёкую мне ўспамінаюць,
Дні маладыя вясны...

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
У сьцены, у вокны бубняць.
Смутна іх песьня, плачу падобна,
Смутку-ж ніяк ня суняць.

1909 г.

## ПЕСЬНІ ВЯСНЫ

Песьні ў полі, шум і гоман.
Ну-ж і выдаўся дзянёк!
Сьнег на дзірах, лёд надломан,
І сьпявае ручаёк:

„Гэй, сябры, гэй, ручаёчкі!
Дружна разам пабягом.
Гайда, гайда ў сьвет, браточкі,
К тым шырокім берагом!

Людзі-волаты! глядзеце,
Колькі гонім мы вады,
Бо яднаньне—сіла ў сьвеце,
Хто-ж дужэй ад грамады?

Мы дарогі ў полі знаем,
Не заблудзіць там вада—
Знаньне—сіла! мы гукаем.
Гэй, за намі, грамада!

Мы імчым, мы гонім воды,
Затапілі мы брады.
Дружнасьць—першы крок свабоды,
Згода—сіла грамады“.

1909 г.

## ЛЕС

Глуха шэпча лес зялёны,
І шуміць ён і шуміць,
Гоман доўгі, несканчоны
Цэлы дзень над ім стаіць.

Пераблутаны галіны
У адзін салаш жывы...
Лес! аб чым шумяць вяршыны?
Лес! што шэпчаш, векавы?

Толькі-ж лес гудзе-ракоча
Цёмнай шапкаю вяршын,
Толькі-ж лес сказаць ня хоча
То, што знае ён адзін.

1909 г.

## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

Белыя валокны
Сьцелюцца над долам.
Не сьпяваюць птушкі,
Сьціхнуў лесу шолам.

Сьцелюцца валокны,
Тчэцца павуціна—
Блізка, блізка восень,
Смутная часіна!

Зажурыцца неба,
Схованае ў хмары,
Ї агорнуць сэрца
Нейкі жаль і мары.

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.

Стомленасьць, зьнямеласьць...
Тояць думку боры...
Шш! што то за гукі
Чуюцца ў прасторы?

Жаласна-прыгожа
Льлюцца ў небе гукі,
Слухаюць лясы іх,
Луг, балота, лукі.

У бязьмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі на вырай
Мкнуцца над лясочкам.

Меншыцца шнурочак,
У падненб'і тае.
Вось ледзь-ледзь чарнее,
Міг—і прападае.

І стаіш ты, смутны,
Доўга пазіраеш,
Як-бы нешта страціў,
А што? сам ня знаеш.

Так у час расстаньня
З тым, хто сэрцу любы,
Адчуваеш смутак
Цяжкай страты-згубы.

І глядзіш маўкліва
На дарожку тую,
Што нясе ў далечу
Душу дарагую.

1909 г.

## РУЧЭЙ

Між алешын, кустоў,
Дзе пяе салавей,
І шуміць і грыміць
Срэбразвонны ручэй.

Як матулька, вярба
Хіліць голаў над ім.
І глядзяцца кусты
Пышным верхам сваім.

Абступаюць яго
Шаптуны-чараты,
І вяночкі яму
Выплятаюць кветы.

Часам зорка-дзяўча
Кіне вокам здалёк,
І хмурынка ня раз
Зазірне ў ручаёк.

І схіляе трава
Над ім пасмы-брыжы.
А ён, жэўжык-пястун,
Гучным сьмехам дрыжыць.

То заскочыць у гай,
То курган абаўе,
Дзе сярдзіта бубніць,
Дзе лагодна пяе.

Люба слухаць той сьпеў,
Так ён лашчыць твой слух,
І пад песьні яго
Адпачыне твой дух.

1909 г.

## НА ПОЛІ ВЯСНОЮ

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Ржаных каласоў

І вузкія стужкі
Сялянскіх палос,—
Люблю цябе, поле,
Люблю я твой плёс!

І грушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.

Люблю я дарогі,
Што леглі між гор,
Ў нізе пад гарою
Ручча разгавор.

Люблю я узгоркі
І насып-курган
І сіняй далечы
Празрысты туман...

Люблю пазіраць я
На поле вясной,
Як ветрык жартліва
Плыве збажынай.

Калышацца жыта,
Радамі бяжыць,
А хваля паветра
Дрыжыць і дрыжыць...

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Буйных каласоў.

1909 г.

## НОЧ

Між палёў шырокіх
Я адзін стаю.
Ахваціла ціша
Душу ўсю маю.

Ночанька мая ты,
Водблеск глыбіні!
Ты чаруеш душу
Сьпевам цішыні.

Многа ў гэтым сьпеве
Водгукаў жывых,
Іх ня зловіш вухам,
Чуеш сэрцам іх.

Ночанька мая ты,
Ціхі сон вясны!
Колькі зор на небе!
Як блішчаць яны!

Водблескам пажару
Неба край гарыць—
Там двурогі месяц
Выплыў з-загары.

Ночанька мая ты,
Ціхая дума!
Не ахваціш вокам
І тых слоў няма

Апісаць твой вобраз,
Хараство, спакой—
Толькі ў цябе ўнікнеш
Чуткаю душой.

1910 г.

## НЯЗБЫТНЫЯ НАДЗЕІ

Ціха калосьсе, схіліўшы галовы,
Шэпчуць у межах палёў.
Толькі-ж ня слухае неба іх мовы—
Скаргі ржаных каласоў.

Сіняе неба ўсё сонцам заліта.
Полудзень. Вар. Цішына,
Дожджыку просіць зялёнае жыта,
Прагне вады ярына.

* * *

Ша! Хмарка, хмарка дарагая
Паўзе па небе з-за лясоў!
Яна—надзея, радасьць гаю,
Жаданьне красак, каласоў,

Бо сонца-ж так пячэ бяз жалю,
Бо душна, горача ў палёх,
Смуга сухая крые далі,
Мальбы-ж расьлін ня чуе бог.

Нямее ўсё, маўчыць, чакае,
Надзеі тоіць усё вакол
І прагна вільгаць палыкае
Акамянелы, пылкі дол.

Глядзіць і лес і луг з мальбою,
Гадае, думае зямля,
Што хмарка дождыкам-сьлязою
Спадзе,—ажывіцца ральля,

І ў неба дойдзе плач з туманам,
Што сівым дымам нема зьвіс
Над цёмным лесам і курганам,
І ліне дождыкам на ніз.

Плыве хмурынка ў сінім полі,
Мінае лес, мінае гай—
Яна ня чуе крыку болі,
Бо вабіць хмарку іншы край.

1909 г.

## ЖУРБА ПАЛЁЎ

Уплывалі хмары-горы
Белымі клубкамі,
Нібы крыгі ледзяныя
З меднымі краямі.

Ападала іх заслона
Сумятлівай кучай,
Як-бы сам бог на іх дзьмухнуў
Сілаю палючай.

Увачавідкі, як сьняжынкі,
Раставалі хмары.
Так на ўсходзе прападаюць
Ночы страхі, чары.

Расьсьцілалася шырока
Неба сінь-лазура,
Ды прырода пазірала
Хмурна і панура.

Быццам думкай невясёлай,
Наміткай туману
Расьсьцілаўся луг і поле,
Лес, гаі, курганы.

І глядзелі засмучона,
Як зьнікалі хмары
І як з імі прападалі
Іх надзеі-мары.

Пазіралі, гаравалі
Нівы, сенажаці...
Так гаруе хіба сэрца
Па сваёй утраце.

1910 г.

## МЯЦЕЛІЦА

Нізка зьвісьлі над зямлёю
Хмары сьнегавыя,
Сьвішча вецер за сьцяною,
У коміне вые.

Лес гудзе, дрыжаць галіны,
Стогне бор хваёвы,
Злосна выюць верхавіны,
Гнуцца іх галовы.

Белым пылам даль закрыта,
Ходзяць віхры вірам,
Прасяваюць сьнег на сіта
У бясконцай шыры.

Як разьнімуць крыльле-раме
Ды як задураюць,
Сьледам гурбы курганамі
Стануць на сувеях.

Эх, гуляюць віхры ў полі,
Ветравыя дзеці!
Як зайздрошчу я іх долі—
Вольна песьні пеці!

Ой, ты, вецер, сын прастору!
Ты-ж аб чым галосіш?
Ці ня гэта маё гора
Ты ў палёх разносіш?

1910 г.

## ЗІМА

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.

Замялі дарогі
Ветрыкі сьнягамі.
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі,

Апусьціў галіны
І стаіць журботна.
Зрэдка верхавіны
Зашумяць маркотна,

Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна—
Ні канца, ні краю.

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.

Амяртвелі лозы,
Чуць гальлём хістаюць;
А ў палёх марозы
Ды вятры гуляюць.

1910 г.

## ВЯСНА

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыдзеш зноў,
Ты вернешся!

Вясёлы сьпеў,
Прыветлівы
Вады ў руч'ёх
Пачуецца.

Ачнецца гай
І з песьнямі
Ў зялёны ліст
Адзенецца.

Напоўніць лес
Птушыны сьвіст,
Травою луг
Адзенецца.

А з полудня
З маланкаю
Хмурыначка
Націсьнецца.

І першы гром,
Як музыка,
Таемна так
Пракоціцца.

Зямелька ўся
Ўскалышацца,
Дажджом яна
Абмыецца.

У прыродзе ўсё
Народзіцца,
І моладасьць
Ёй вернецца.

Ды толькі мне
Ня вернешся,
Ня вернешся
Ты, моладасьць!

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты вернешся,
Ты вернешся!

1910 г.

## МАЕЙ ВЯСЬНЕ

Каб я волю меў,
Я сказаў-бы: „Стой,
Дні вясны маёй,
Сьветлай, маладой!

Не ўцякайце вы
Ў тую даль вякоў,
Дзе пахована
Многа вас, дзянькоў,

І адкуль назад
Вам няма дарог!“
Я-б стрымаў вясну,
Каб я толькі мог.

Ды бягуць дзянькі,
І вясна мая.
Не вярну я іх,
Ня стрымаю я.

1910 г.

## МАРА

Шоў дарожны адзінока.
Поле голае шырока
Гладзьдзю роўнаю лягло.

Ні дзярэўцаў, ні кусточка,
Апроч жоўтага пясочка
Нічагутка ня было.

Сонца варам аблівала
І бяз жалю апаляла
Грудзі цьвёрдыя зямлі.

Уміраў бядак ад смагі,
А па твары поту рагі
За каўнер яму цяклі.

Пуста, ціха і макротна...
Кідаў вочы ён гаротна,
Ці ня блісьне дзе вада.

За далёкай сіняй граньню
Мільгатнула гожай зданьню
Пышных росьлін чарада.

Падарожны ажывіўся,
Бляск надзеі засьвяціўся
Ў яго стомленых вачах.

І цьвярдзей ступаюць ногі.
Цяжкасьць труднае дарогі,
Сьпёка, вар яму ня страх.

А дзяраўцы ўсё здалёка
Так і вабяць яго вока,
У цянёк яго завуць.

Падарожнаму здаецца,
Што крыніца там ліецца,
Хвалі ў радасьці пяюць.

Вось бліжэй, бліжэй расьліны.
Купы лозак і каліны
Акружаюць беражок.

А з зялёненькіх галінак,
З розных красак і травінак
Гожы сплецены вянок.

Скрозь лісточкі і галінкі
Ўлоньне ямы-азярынкі
Срэбрам зьзяе-аддае.

Падыходзіць падарожны
І на бераг, на мурожны!
Прагна воду дастае.

Ды адскочыў, небарака:
Там шыпяць, кішаць вужакі,
Твань прасьмердлая і бруд!

Усьміхнуўся горка-крыва,
Адышоўся, стаў маўкліва—
Чый-жа злы такі прысуд?

Галавой панік дарожны.
Жар паўднёвы, жар бязбожны
Горай стаў яго сьпякаць.

Тая-ж трудная дарога.
Між пяскоў ідзе убога
Тая-ж вымершая глодза!

1910 г.

* * *

Надрывайся і шумі,
Вецер злосны ў полі!
Як сярдзіта ты ні дзьмі,
Ні гуляй на волі;

Як дарог ні замятай
І глухіх трапінак;
Як ты злосна ні сьпявай
Мужык ў камінак,—

Усё-ж ты сьціхнеш і цяплом
Скора ты павееш
І з ракітавым кустом
Міла задурэеш.

1910 г.

## ДЗЕ ДЗЕНЕШСЯ?

Не такі чорт страшны,
Як яго малююць.
Хай усе хоць людзі
На цябе сярдуюць:

Ад сабак паганых
Ёсьць кій бараніцца,
„Ад шнуроў чырвоных“
Можна адкупіцца.

Ад мундзіраў сініх
Можна даць і драла,
І твая свабода
Ня зусім прапала.

І з людзьмі ліхімі
Можна меркавацца,
І ад крэдытораў
Спосаб ёсьць схавацца.

Покі служаць ногі,
Можна бегчы ўсюды,
Ад сябе-ж самога
Не ўцячэш нікуды.

1910 г.

## ПЕСЬНЯРУ

Засьпявай ты мне песьню такую,
Каб мне душу паліла яна,
Каб у ёй ты нядолю людзкую
І ўсё вычарпаў гора да дна.

Скажы, як ў няволі жывецца,
Як нам шыі здушыла ярмо,
Як душа наша томіцца, рвецца
Як жыцьцё прападае дармо.

А той мут, што жыцьцём называем,
Страсяні і да дна ўскалышы,
Няхай сэрца ў грудзях узыграе
І зазвоняць ўсе струны душы.

І каб кожны тваё пачуў слова,
І той нават, чый дух заскаруз,
Каб хіліліся з жалю галовы,
Каб затросься узбурана вус.

Засьпявай-жа ты песьню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людзкую,
Каб грымела, як гнеў перуна.

1910 г.

## ДУДКА

За гарою дудка грае,
Як-бы плача ў цішыне,
І на сэрца навявае
Ціхі жаль і смутак мне.

І гаворыць песьняй тою:
„Я—сьляза твае душы,
Што часінаю ліхою
Ўзгадавалася ў цішы

І упала адзінока,
Як ты долю праклінаў,
Я—той крык, што ты глыбока
Ў сваім сэрцы пахаваў.

Я—плач ветру на прасторы,
Я—пакутны горкі сьпеў,
Я—няведамае гора,
Я—нявыказаны гнеў...“

Грае дудка, вымаўляе,
Плача дробнаю сьлязой
І ціхутка заміраe
Дзесь у полі за гарой.

1910 г.

## ПЕРАД ВОСЕНЬНЮ

Засмуцілася,
Зажурылася
Даль шырокая,
Неаглядная.

Думкай горкаю,
Невясёлаю
Зьвіс туман сівы
Над балотамі.

А ў палёх даўно
Жыта зьвезена,
Коска, серп крывы
Працу скончылі.

Агаліўся луг,
Даўно скошаны,
Толькі вежамі
Стагі высяцца.

А зірнеш на лес—
Сэрца сьцісьнецца:
І маркотна ў ім
І ня весела!

Пажаўцеў убор,
Пышны ліст яго,
І ціхусенька
Асыпаецца.

Сьціхлі песенькі
Вольных пташачак...
Глуха лес маўчыць,
Думку думае.

Знаць, ён думае
І маркоціцца
Па вясьне-красе,
Залатой пары.

Эх, пануры лес!
Ня журыся, брат:
Для твае вясны
Сьцежка бітая—

Жыцьцё новае
К табе вернецца.
Зашуміш ты зноў
Гучна лісьцямі,

Засьпяваеш ты
Разам з пташкамі
І хвалу сьпяеш
Жыцьцю новаму.

А мая вясна,
Мая мілая,
Ўжо ня вернецца,
Ой, ня вернецца!..

Чаго-ж смуцішся
І маркоцішся,
Даль шырокая,
Даль зьнямелая?

1910 г.

## ТРОЙКА

Мчацца коні. Дзын-дзын-дзын!
Гучна звон нясецца
І далёка між раўнін
Ціхім жалем льлецца.

Ціхне, глухне гэты звон,
Ўскочыўшы ў гаёчак.
Замірае, моўкне ён,
Кволы галасочак.

Вось і тройкі ня відаць,
Праняслась стралою.
І званочка ня чуваць
Плачу пад дугою.

Толькі пыл трубой курыць
Над дарогай бітай.
Поле ціхае маўчыць
Сіратой забытай.

І пытае ціш яго
Поглядам, здаецца:
Хто праехаў і чаго
І куды нясецца?

І ня будзе знаць, стралой
  Куды тройка скача
І званочак пад дугой
  Чаго ціха плача.

1910 г.

## РАЗДУМ'Е

Зірну я на неба. Па сіняй раўніне
За хмаркаю хмарка плыве.
Тыя сальлюцца, другая загіне
І зьнікне ў пустой сіняве.

А тыя па небе, бясплодныя, ходзяць,
Глухія на плач збажыны.
І мысьлі тож часта бяз сьледу праходзяць,
Таксама зьнікаюць яны.

Зірну я на жыта, што ў полі красуе,
І пыл жыватворчы над ім
Так ціха снуецца, калосьсе цалуе
Любоўным дыханьнем сваім.

Ды ўздымецца вецер і злосна павее,
Пагоніць той пыл на лясы.
І ў жыцьці часьцютка ня мала гібее
Такой жыватворчай красы.

Сталетняе дрэва. Раскошна галіны
У зелень убрала вясна,
І горда гамоняць яго верхавіны,
І ў гомане радасьць чутна.

А восень надыдзе, і лісьце жалобна
　　На дол амяртвелы спадзе.
І моладасьць наша тым лісьцям падобна:
　　Як лісьце, яна адцьвяце.

Вось ціха сьняжынкі ў адлігу лятаюць,
　　Нібы матылёчкі ў маі.
Падуць і растануць, на век прападаюць,
　　Як роска вясною ў гаі.

І ты, чалавеча, як сьнег у адлігу:
　　Упаў і сканаў і няма.
З трывогай глядзіш ты ў адвечную кнігу,
　　І душу агортвае цьма.

1910 г.

## ВЕСНАВЫЯ ХМАРКІ

Сінім стэпам-даліною
Ходзяць хмаркі веснавыя,
Чарадою, грамадою,
Сакавітыя, густыя.

Ой, вы, хмаркі, неба дзеці!
Як вы сэрцу майму мілы!
Носіць вецер лёгкакрылы
Вас, любыя, па ўсім сьвеце.

Люба мне, як думкай божай
Ціха зьвісшы над палямі,
Вы гугукнеце часамі
Громам-грукатам прыгожым.

Як маланка узаўецца,
Блісьне стужкай агнявістай,
І як песьняй галасістай
Вам зямелька адгукнецца.

Ліне дожджык, даль завесіць
Белай сеткай срэбратканай,
Цёплы дожджык і жаданы
Гоман ўзьніме ў полі, ў лесе.

А зачуўшы голас грому
Селянін з сахой на ніве
Усьміхнецца вам шчасьліва,
Стаўшы важна, нярухома,

Бо ваш гром для вёскі сына—
Лепша музыка на сьвеце...
Ой, вы, хмаркі, сонца дзеці!
Не пакрыўдзьце селяніна!

1911 г.

* * *

Пагуляў на волі
Вецер лёгкакрылы,
Пагуляў і будзе:
Адпачынь, пахілы!

Паламаў ты лесу,
Стрэх сарваў ня мала,
З хмарамі і з громам
Спрэчку вёў, бывала.

Рваўся ты ў прасторы
Ў стэп шырокі, сіні,
Ды закалыхалі
Ветрыка пустыні...

Што-ж? уляжся, вецер,
Хоць ў чужой даліне,
Бо ці ня ўсё роўна
Дзе цябе ні кіне.

Доля бедачына,
Мачыха ліхая,
Бо ня маеш, браце,
Свайго роду, краю...

Пагуляў на волі
Вецер лёгкакрылы,
Пагуляў, улёгся
І заснуў пахілы.

1911 г.

## ДА ВЯСНЫ

Мароз, зіма,
Сьнягі вакол,
І сьпіць трава,
Пад сьнегам дол.

Мяцеліца,
Вятры гудуць,
Дубы ў лугох
Шумяць, равуць...

Ці скора-ж ты,
Жаданы час,
Вясны—красы,
Ідзеш да нас?

Ідзі, згані
Сьнягі з палёў
І выведзі
Ваду з акоў!

Акрый лугі,
Адзень лясы,
На жыта кінь
Крышталь расы!

Сагрэй ты нас,
Цяплом абвей...
Ідзі, вясна,
Ідзі скарэй!

1911 г.

## ЗАХОД СОНЦА

Дагараў дзень, і зьнікалі
Ціха яго блескі,
У зьмяркaньні прападалі
Гай і пералескі.

Над раўнінай сьнегавою
Чырваньню пажара,
Як-бы стужкай залатою,
Зьзяла ў блеску хмара.

І ўзьняліся, заігралі
Два слупы ад сонца,
Чуць прыметна ў іх дрыжалі
Хмарак валаконцы.

Блеск па небе разьліваўся
Хваляй агнявою.
Я стаяў і любаваўся
Дзіўнаю гульнёю.

І далёка скрозь па полі
Гладзь сьнягоў бялела.
Я глядзеў—душа-ж па волі
Плакала і млела.

І ўзьнімаўся дым клубкамі,
Зьлёгка пазлачоны,
І з апошнімі касамі
Зьнік і слуп чырвоны.

І я думаў, што ў ваконцы
Ты, як я, стаяла,
На апошні погляд сонца
Смутна пазірала.

1911 г.

## ЖНІЎНЫЯ ПЕСЬНІ

Жарыць сонца бяз літосьці,
Варам пыша ад палёў,
Трэцца жыта ў пыл на просьце,
Зерне сыплецца далоў.

Хоць-бы хмарка дзе на небе,
Хоць-бы рэдзенькі цянёк...
І бяз часу ў цьвёрдай глебе
Сьпее грэчка і лянок.

Душна ў полі і маркотна.
Постаць жоўтая хлябоў
Ціхім шолахам гаротна
Просіць жнеек і сярпоў.

Вось прышлі і жнейкі ў поле.
Заскакаў крывы сярпок,
І панёсься на прывольлі
Жнейчын звонкі галасок.

Сакавіты і пявучы,
Як вясенька малада,
А тон жаласны, цягучы,
Поўны жальбы і нуды.

І панёсься ён мяжою,
Вольны будзячы прастор,
Потым скаргаю-сьлязою
Ў неба вырваўся, замёр.

Колькі смутку ў песьні жніва!
Хто той смутак парадзіў?
Ці жыцьця лёс нешчасьлівы,
Ці ты, журба нашых ніў?

Ці ты, поле, грунт няплодны,
Горам песьню абвілі,
Каб аб краю нашым родным
Мы забыцца не маглі?

1912 г.

## ЗАКЛІКАНЬНЕ ВЯСНЫ

Ты прыдзі, вясна жаданая,
Прыдзі!
Гукам жыцьця, песьняй працы
Загудзі.

На узгоркі, на нізіначкі
Зірні,
Сон трывожны, сон цяжкі наш
Разгані!

Ты нясі нам радасьць, сілачку
Нясі,
Нашу ленасьць і нядбаласьць
Атрасі.

Ты ляці на крыльлях выраю
Скарэй,
Абласкай цяплом пахілых,
Абагрэй.

Наша жыцьце, нашу долечку
Пабач,
Над жытамі цёплым дождыкам
Заплач.

Пракаціся громам-грукам
Угары,
Ты ідзі, нясі цудоўныя
Дары.

Узбагаць ты добрым засевам
Наш край,
Ты прыдзі і з намі дружна
Засьпявай!

Ўскалыхні ты струны сэрданька
Жывей,
Каб было нам жыць на сьвеце
Весялей.

Дык ідзі да нас, жаданая,
Ідзі,
Раскатурхай нашу дрэму,
Абудзі!

1912 г.

## СУШ

Выйдзі ў поле, глянь, паслухай:
Ці-ж ня ўгледзіш сум жывы?
Ці ня ўловіш скаргу нівак,
Тугу красак і травы?

Ці ня ўловіш сэрцам чуткім
Сьпеў гаротны ручаёў?
Ці ня ўчуеш шум сірочы
Ярыны, грачок, жытоў?

Толькі-ж неба зло-няўмольна—
Што яму да той зямлі,
Дзе над сіняю смугою
Далі немыя зьляглі?

Нікнуць хмары, як сьняжынкі,
Разганяюць іх вятры,
І тужліва пазіраюць
На палі гаспадары.

1913 г.

## НА ПРАСТОР!

Гэй, на волю, на разлогі
Смужных даляў і палёў,
Дзе ва ўсе канцы сьвятоў
Леглі вольныя дарогі!

Дзе бяз хітрыкаў, праўдзіва
Колас гутарку вядзе
І дзе дуб стары гудзе
Ня лісьліва і фальшыва,

А сваёй старой гудою,
Як і век ён гаварыў,
І дзе ўсю красу раскрыў
Луг шырокі над ракою.

Гэй, туды, дзе неба з долам
Абняліся, як браты,—
Хоць на міг забудзеш ты
Гэтай фальшы нудны шолам!

1914 г.

## МУХА

Ноч. У хаце ўсе паснулі.
Ціха зорачкі мігнулі,
Ў вокны месячык глядзіць.

А пад стольлю ў павуціне
Б'еццa муха-сіраціна
І так жаласна зьвініць.

Гэты жаль на душу сходзіць
І аб леце думкі родзіць—
Шкода лета і цяпла!..

Ночка цьмяна і маркотна,
Ей уторыць штось гаротна
Звон мушынага крыла.

1916 г.

# ГУСІ

Гусі, гусі, вырай вольны!
  Сумен крык ваш, гусі:
Ляціце вы ў сьвет раздольны
  З нашай Белай Русі.

Засмуткуюць зноў балоты
  Бяз вас, госьці лета.
Занудзяцца, як сіроты,
  Лозы там да сьвету.

Бабыль-вецер на сьвітаньні
  Пойдзе ў сьвет шырокі,
Пойдзе ў злосьці, буркатаньні
  Аглядаць валокі.

А вы, гусі, пад аблокі
  Крыльлямі ўзмахнеце,
Каб ня бачыць, як асокі
  Гне і ломіць вецер.

Што-ж? ляцеце—для свабоды
Вам і крыльлі служаць...
Толькі-ж шкода чагось, шкода—
Па вас далі тужаць.

І гаруе сіратлівы
Ў чырвань лес адзеты...
Ой, вы, гусі! панясьлі вы
За сабою лета!

1916 г.

## ПЕСЬНІ ЗІМЫ

Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палёх,
І сьнегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясох.

Люблю я ветру сьпеў гаротны
Ў сялянскіх комінах пустых,
На полі белыя палотны—
Абрусы хмарак сьнегавых,

Што засьцілаюць лугавіны
І далі ціхія палёў.
Мне любы елкі і хваіны
Пад белай посьцілкай сьнягоў.

У гэтых зьявішчах свабодных,
У тых малюнках халадоў,
Так многа песень, сэрцу родных
Адбіткаў мілых мне гадоў.

1916 г.

* * *

Тая-ж самая даль, той-жа самы разлог—
Неаглядны прастор небясоў,
Дзе хмурынкі плывуць па дарозе, што бог
Ім адзначыў з пачаткаў вякоў.

Усё гамоніць вакол, і шуміць, як даўней,
Гэты лес векавы, гэты бор.
А чаго-ж цяжка нам? Які злы сухавей
Закружыўся, узьняўся з-за гор?

Як у восень туман аблягае лугі
І палёў задуменную даль,
Так на сэрца зьляглі плямы чорнай тугі,
А мінулых дзянёчкаў так жаль.

Эх, ня вернеш ты іх, гэтых сьветлых дзянькоў,
Толькі цені іх ў сэрцы жывуць.
А як міл гэты сьвет і прасторы стэпоў,
Дзе прыгожыя хмаркі плывуць!

1916 г.

* * *

Дай зірну ў сваё аконца—
Сьнег і сьнег вакол. Зіма.
І нейк цесна, бы ў палонцы,
Ўсё цяжэй зьвісае цьма.

Там, за ярам, лес дубовы
Чуць сінеецца скрозь бель.
Ня чутно ніякай мовы,
Ўсюды белая пасьцель.

І стаяць маўкліва хаты,
Ў яр уперліся двары.
Ўсё маўчыць, бы сон зацяты
Навялі тут ведзьмары.

Толькі зрэдка між крыжамі
Разгалосіцца ўдава
Ды ў яру дзесь вечарамі
Сьвішча жудасна сава.

1919 г.

## ПЕСЬНЯ АБ ВЯСЬНЕ

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках—булі-гулі!—
Песьні чуюцца вясьне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык ручаёк.
На яго, бы тая матка,
Сонца кідае свой зрок.

А ён, гучны і сьмяшлівы,
Так і ходзіць, аж дрыжыць,
І другі сябрук шчасьлівы
Насустрэч яму бяжыць.

Ты паслухай, дзед сярдзіты,
Што там чуецца ўгары?
Што за сьпеў за самавіты
У небе правяць песьняры?

А зіма аж пачарнела—
Годзі ёй тут кросны ткаць!..
Гэй, маленства, жыва, сьмела
Выйдзем весну прывітаць!

А як слаўна каля хаткі
Нам пабегаць, пагуляць!
Ну, зіма: зьбірай манаткі,
Годзі нас табе ўшчуваць!

Маладая вясна,
Залатая пара!
Будзь красна і ясна,
Не шкадуй нам дабра!
Вокам маткі зірні,
Бледнасьць з твару згані!
Дай уздужаць малым
Пад павевам тваім.
Мы вяночак сплящём,
Табе песьню сьпяём.

1922 г.

## НОЧ

Што за ноч! што за ціш!
Змоўклі травы, краскі.
Усплыў месячык на ўзвыш
Баяць сьвету казкі.

Неба слухае той сказ,
Хмаркі ні схіснуцца,
Толькі зоркі раз-па-раз
Ціха усьміхнуцца,

Каб сказальніка свайго
Пахваліць, як трэба,
Нават зьнічкі ў чэсьць яго
Асьвятляюць неба.

А ён, смутны вартаўнік
Цёмных шатаў ночы,
Засароміўся, і зьнік
Бляск яго сірочы,

Зьнік у рунях і ў шаўкох
Хмарачак маўклівых,
І гусьцей на землю зьлёг
Гэты змрок страхлівы.

1922 г.

## НАШ РОДНЫ КРАЙ

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балота ды пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

А туманы, як пялёнка!
Засьцілаюць лес і гай.
Ой, ты, бедная старонка!
Ой, забыты богам край!

Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі, жыве ён, ходзіць,
А працуе—льлецца пот.

Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш—сэрца забаліць.
На дварэ—паленьне, цёскі,
Куча сьметніку ляжыць.

Крыж збуцьвелы пры дарозе,
Кучка топаляў сухіх...
Сьцішна, нудна, бы ў вастрозе
Ці на могілках якіх.

А як песьня панясецца—
Колькі ў песьні той нуды!
Уцякаў-бы, бег, здаецца,
Сам ня ведаеш, куды.

Край наш родны, бедна поле!
Ты глядзіш, як сірата,
Сумны ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната!

1906 г.

# ДАРОГА

Між палёў шырокіх,
Як зьмяя якая,
Цягнецца дарога,
Вузкая, крывая.

Наабапал грушы
Разрасьліся ў полі.
Нізенькі яловец
Чэзьне, бы ў няволі.

Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на перасеках
Аб пакуце кажа.

Коціцца цялежка,
Б'ецца аб каменьне,
Гаратай на поле
Глядзіць ў задуменьні...

Ой, дарога-сьцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыцьцё наша,
Ты, доля, такая!

1907 г.

# МОГІЛКІ

Круглае поле. Узгоркі, каменьне.
Лес па краёх, як сьцяна.
Ціха навокал. Нудна на сэрцы.
Птушка ня крыкне нідзе ні адна.

Могілкі ў полі адны-адзінюткі.
Праслы гнілыя на дол палеглі.
Крыж пахіліўся гаротна-журботна.
Многа іх, многа ляжыць на зямлі!

Дзе-ні-дзе дрэўцы, бярозка, хваінка.
Дождждык магілкі размыў спаласкаў.
Вось дзе ад гора мужык адпачыне,
Вось дзе ён думкі-згрызоты схаваў.

1908 г.

## ЖЫТНІ КОЛАС

На саломцы тонкай
У траве густой
Сьпее адзінокі
Колас сіратой.

Ці то птушка божа
Кінула зярно,
Ці то заняслося
Бураю яно,

Ці з дзіравай торбы
Конік чый згубіў,
На чужую скібу
Зерне пасадзіў,—

Неба яго знае,
Як сюды папаў,
Хто ад роднай нівы
Зерне адарваў...

Сушыць яго сонца,
Хіліць вецярок.
Ные сірацінка,
Плача каласок.

Плача, што няма з кім
Думку падзяліць,
Смутную галоўку
Ціха прытуліць

Да другой галоўкі,
Да другіх грудзей
І шаптаць аб шчасьці
У цішы начэй.

Апусьціўшы нізка
Тонкі паясок,
Ные сірацінка,
Плача каласок.

Плача, што дарэмна
Тут расьце ў глушы,
Што нідзе ня згледзіш
Роднае душы,

Што яго зярняткі
Птушкі падзяўбуць,
Белую саломку
Ветрыкі паб'юць.

І, падняўшы ўгору
Стромкі валасок,
Ные сірацінка,
Плача каласок.

1908 г.

## ЧЫГУНКА

Ў два рады, між палёў
Роўна рэйкі ляглі,
Рэжуць нетры лясоў,
Точаць грудзі зямлі.

Дзе стралою ляцяць,
А дзе дужкай бягуць,
Цераз горы і гладзь,
Сьмела рэчкі сякуць.

Эх, і быстры-ж той гон!
Толькі пыхкае дым.
За вагонам вагон
Мчыцца зьмеем ліхім.

Мчыцца ў ночку і ў дзень,
Толькі поле дрыжыць.
Так ні конь, ні ален,
Ні арол не ляціць.

1908 г.

## НАША СЯЛО

Між узгоркаў над ракою
Выглядае сіратою
Наша беднае сяло.
Убраў стрэхі мох калматы
На бок скрыўленыя хаты,
Як-бы ў дол яно ўвайшло.

І зьліліся ў плех будынкі,
Ў шыбы ўсаджаны лучынкі,
Ці анучак цэлы жмут.
Спарахнела наша школа,
Згніў паркан увесь наўкола—
Школка горбіцца, як склют.

Збоку вербачкі крывыя,
Бы кабецінкі старыя,
Нуднай кучкаю стаяць.
Нёман ногі ім змывае,
Вецер голькі іх люляе,
Лісьці жаласна шумяць.

На прыгорку ў аддаленьні
Насып, крушнямі каменьне,
Смутна крыжыкі стаяць.
А ўнізе пад іх нагамі,
Спаласканыя сьлязамі,
Косьці родныя ляжаць.

Плачуць ветры над магілай,
З песьняй нуднай і пастылай
Пралятаючы у даль.
Як успомніш кут свой родны,
Кут закінуты, галодны,
Сьцісьне сэрца горкі жаль.

1908 г.

## ВЁСКА

Цесна зьбіты нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар,—
Для агню тут корм багаты,
Як укінецца пажар.

Хлеўчык, пограб і гуменцы
Пад адзін зьліліся плех,
Трэскі ўсаджаны ў вакенцы,
Замест шкла—радняны мех.

Загародка пад ваконьнем,
Блісьне кветка дзе-ні-дзе.
Зельлем глушыцца, драсёньнем
Мак, цыбулька на градзе.

Зелянеюць два-тры клёны,
Гляне ліпа дзе з-за хат.
Дзе-ні-дзе садок зялёны
Нізкіх вішань чэзлы рад.

Граблі, сані пад страхою,
Колы, сошка, барана,
Кол з хваёваю мятлою,
Ўбіты ў дол каля вакна.

Многа тут гразі ў нягоду,
Многа пылу ў летні жар.
Тут дабра ня бачыць зроду,
Тут марнее гаспадар.

Тут нуда жыве людзкая,
Прыпынілась гора тут,
Сьмерць дзяцей, хвароба злая
Тут знайшлі прытульны кут.

1908 г.

## РОДНЫЯ АБРАЗЫ

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасьць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы?

Толькі я лягу і вочы закрыю,
Бачу я вас прад сабой.
Ціха праходзіце вы, як жывыя,
Зьзяючы мілай красой.

Чуецца гоман мне сьпелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага шум-гуд шчасьлівы,
Песьня магутных дубоў...

Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд!
Песьні цягучыя, песьні пакутныя...
Бачу і чую вас тут.

1908 г.

## ХМАРКІ

Сьветлыя хмаркі—дзеткі прастору—
Ціха па небе плывуць.
Ім незнаёмы сьлёзы і гора,
Смутак і жаль іх ня рвуць.

Ціха і згодна ідуць, небажаткі,
Усюды ім сьцежкі ляжаць.
Ясныя зоркі, быццам дзяўчаткі,
Скрозь іх валокны глядзяць.

Золатам сонца іх аблівае,
Месяц ім срэбра дарыць,
Грозную песьню ім гром прасьпявае,
Вецер на крыльлях імчыць.

Сьветлыя хмаркі, рунь залатая,
Дум небясоў чарада!
Вам незнаёма нядоля людзкая,
Клопат, згрызоты, нуда.

Стэп неаглядны, шыр нялюдзіма,
Вольнае царства вятроў,—
Там вашы сьцежкі, там і радзіма,
Дзеткі блакітных стэпоў!

Станьце-ж вы, хмаркі, над рубяжамі
Нашых палеткаў, шнуроў,
Ў сэрца людзкое закіньце з дажджамі
Думкі іх верных сыноў.

1908 г.

* * *

Многа слаўненькіх куточкаў
Ёсьць у нашым краю,
Дзе пад гоман ручаёчкаў,
Пад шум дрэў у гаю

Рой журботных дум пакінеш;
Дзе няма трывогі,
Дзе душою адпачынеш,
Змучаны з дарогі;

Дзе прыемны ветрык млее,
Збажыну калыша,
Дзе пакоем-згодай вее,
Дзе ўсё шчасьцем дыша.

1909 г.

## Родныя песьні

Вісьне скарга уздоўж Нёмна,
Беларусі сына.
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна!

Зьбіты ў кучу тваe вёскі,
Стрэхі ў дол уходзяць.
Смутнай песьні адгалоскі
Лес, курганы родзяць.

Крыж збуцьвелы, знак пакуты,
Тут і там чарнее.
Даль паўнютка ціхай смуты—
Жаль на душу вее!

Усё ў табе, мой родны краю,
Апавіта горам:
І той вецер, што дзьме з гаю,
Што шуміць над борам;

Тыя песьні, што на полі
Жнеі засьпяваюць,
Тыя думкі, што да болю
Сэрца калыхаюць.

Ва мне-ж смутак, гора гэта
Водгульле знаходзіць.
Сэрца-ж, жалем абагрэта,
Песьні смутку родзіць.

Няхай плачам у тэй далі
Песьня разальлецца,
Каб усе на сьвеце знаті,
Як нам тут жывецца.

1909 г.

## ДАРОГА

Між сьпелага жыта
Сінее валошка,
Бяжыць паміж нівак
Крывая дарожка.

Скажы мне, дарога,
Хто езьдзіць табою?
Куды ты крывенькай
Бяжыш паласою?

Па ўзгорках высокіх,
Багатых пяскамі,
Даўно пралягла ты
Двама паяскамі.

Скажы мне, дарожка,
Чаму ты крывая
І вузка і цесна,
Як доля людзкая?

Бяжыш ты часамі
Праз горы, курганы...
Чыею рукою
Крыжы пастаўляны?

Знаць, гора-нядоля
Тут сьлед пакідае...
Маўчыць, не гаворыць
Дарога крывая.

І бедныя людзі
Тут езьдзяць і ходзяць,
А шчасьця і долі
Ніяк не знаходзяць.

1909 г.

## РОДНЫЯ АБРАЗЫ

Я ня знаю сам, браточкі,
Чаму мне так мілы
Буры плач асеньняй ночкі,
Сьпеў яе пастылы,

Лесу гоман, гуд нястройны,
Шум лазы ў балоце,
Баязьлівы, неспакойны
Шолах у чароце.

Я ня знаю, чым мне дораг
Від палёў благенькіх,
Нудны клік у родных горах,
Вербак рад крывенькіх.

Маё сэрца, маё вока
Цягне хвоя тая,
Што у лузе адзінока
Сохне-уміраe;

Жаралісты дуб высокі,
Колісь поўны сілы,
І той крыжык адзінокі,
Вартаўнік магілы;

Дзе так сумна ветры веюць,
Точаць дол пяшчаны,
Дзе чыесь-та косьці тлеюць,
Чыйся прах схаваны...

Я ня знаю, я ня знаю,
Чым я так прыкуты
Да тваіх, мой родны краю,
Абразоў пакуты!

1909 г.

## НЕБА

Дружа! кінь на неба вока.
Колькі зорак, колькі зор!
Як прывольна, як далёка
Зьзяе, сьвеціцца прастор!

Як спакойненька ў разлогах
Ходзіць хмарак харавод,
І няма ім у дарогах
Ні бяды, ні перашкод.

Палюбуйся, паглядзі ты,
Як прыгожанька ўгары,
Як усюды бляск разьліты,
Быццам неба ў пажары!

А цяпер зірні на землю:
Як тут цёмна, дарагі,
Як тужліва яна дрэмле
І як сон яе даўгі!

1909 г.

# РОЛЬНІК

Цёплы вечар. Ціха ўсюды.
На заходзе сонца.
Хмаркі захад чуць заслалі
Тонкім валаконцам.

Зьзяюць хмаркі ў пазалоце,
Пожарам палаюць.
За гарою ціха-ціха
Песьні заміраюць.

Вышаў рольнік з хаты ў поле
Ды па межах ходзіць,
Каб пабачыць сваім вокам,
Як бог жыта родзіць.

Твар сур'ёзны ў селяніна,
Важны, задуменны,
Ходзіць, рукі залажыўшы
За той пас раменны.

Леглі гожымі радамі
Вузкія загоны,
Апранула зямля-матка
Кажушок зялёны.

Густа жыта маладое
Поле ўсё акрыла,
Лапушное, сакаўное—
Проста глянуць міла.

Сям-там колас раскрывае
Свой пучок зялёны,
Дзе-ні-дзе ўжо яго вусік
Блісьне на загонах.

Селянін глядзіць з уцехай,
Ходзячы ў тым дару...
Так ні поп, ні ксёндз ня ходзяць
Пры сваім аўтару.

## ЖЫТА

Неспакойна зашумела
Маладое жыта
І штось боязна шапоча
Ды няўцямна-скрыта.

І калосьсе многазначна
Клоніць, гне галовы.
Нібы іх чым устрывожыў
Душны дзень ліпнёвы.

І гамоняць ды гамоняць
З срэбранай саломкай.
І шумяць, шумяць загоны
Сьцішанай гамонкай.

Што варожыш ты нам, жыта,
Гнешся траўкай ніцай?
Ці бяду ты прачуваеш,
Подых навальніцы?

Неба з захаду цямнее,
Крые даль смугою.
Шэпча жыта, нібы стогне
Здушанай тугою.

„Што-то будзе? Што-то будзе?“
Шэпча ў полі жыта.
Цісьне хмара, хмара-цемра,
Гром гудзе сярдзіта.

Ідзі ў чыстае ты поле,
Градавая хмара!
І вьлітуйся над жытамі—
Над сялянскім дарам!

1909 г.

## ЖНІВО

(Сялянскім жанчынам)

Рэдкае збожжа, травы палавіна,
Колас ня гнецца зярном да зямлі.
Знаць, нешчасьліва была та часіна,
Як кідалі зерні сяўцы па ральлі.

Вышлі на поле, вось, жнеі з сярпамі,
У лапцях лазовых, а хто без лапцей,
Ніва пустымі шуміць каласамі,
Ніва ня цешыць жаночых вачэй.

Цяжка ўздыхнуўшы, збанкі пастаўлялі,
Клункі на межы паклалі жанкі.
Бабы старыя свой твар пажагналі,
Моўчкі за працу ўзяліся дзяўкі.

Горача ў полі. Эх, жар дакучае.
Праца марудна, бясконца цяжка!
Сьпіну і плечы ім боль адбірае,
Аж дзервянее у жнеек рука.

Збарсана жыта, чапляецца колас.
Жменя нажата, разгнецца жняя,
Жыта паложыць на скручаны пояс...
Цяжкая, жнейка, работа твая!

Ціха на полі у поўдзень гарачы!
Хоць-бы дзе кусьціка рэдзенькі цень.
Толькі ў калысцы плач чуеш дзіцячы,
Толькі над вухам зьвініць авадзень...

## НА ПОЛІ

Шэпчуць згодна каласінкі,
Гойдаюцца нівы.
Ходзіць гоман між збажынкі,
Мілы і шчасьлівы.

Колькі шуму ў нашым збожжы,
Сьпеву і гаворкі!
Як вы мілы, як прыгожы,
Родныя пагоркі!

Як старанна заараны,
Поле, твае скаты!
Межы кветкамі убраны
Пышна і багата.

Над жытамі песьні льлюцца,
Толькі сонца ўстане.
Люба глянуць, азірнуцца,
Стаўшы на кургане.

Па краёх палёў шырокіх
Цёмны лес сінее.
Колькі ў полі адзінокіх
Грушак зелянее!

Там, пад наміткай туманаў,
Відзен гай сасновы,
Што прабег паўзьверх курганаў,
Як дзявочы бровы...

Шэпчуць нівы ў полі згодна,
Гнуцца каласамі.
Ой, ты, поле! гай ты родны!
Толькі-ж я ня з вамі.

Толькі ў думках я вас бачу,
Шум здалёку чую.
Я бяз вас тут годы трачу
І па вас гарую.

1910 г.

## КРАСКА

Краска мілая мая,
Госьця веснавая!
Як ты хораша цьвяцеш
У глушы, любая!

З ціхім усьмехам з табой
Вецярок жартуе,
І цябе ў вясёлы дзень
Сонейка цалуе.

Што-ж на тварыку тваім
Легла задумленьне?
Што нявесела глядзіш,
Мілае стварэньне?

І ня радуе цябе
Дзень вясёлы мая,
Голас радасны вясны,
Песьня маладая?

Я хацеў-бы адгадаць
Дум тваіх гаворку,
Я-б хацеў разьвесяліць
Краску, маю зорку.

Ці гаруеш ты аб тым,
Што і ты бяз волі,
Што краса ўся адцьвяце
Без пары і долі?

Ці па тым, што вецярок
Разлучыў з лугамі,
Дзе-б ты гутарыць магла
З пчолкамі, з чмялямі?

Я любуюся табой,
І мне смутна стане,
Што ў вастрозе хараство
Ўсё тваё завяне,

Што адна ты адцьвяцеш
Век свой сіратою,—
А багата-ж адарыў,
Май цябе красою!

Краска, красачка мая,
Мілае стварэньне!
Што-ж на тварыку тваім
Легла задуменьне?

1910 г.

## ДУБ

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго.

А ўнізе пад ім
Нёман коціцца,
Срэбрам-стужкаю
Павіваецца.

У нагах трава
Нізка сьцелецца,
А вакол ляжыць
Травяністы луг.

Ўглыб зямлі вайшлі
Карані яго.
Крэпка дуб стаіць,
Не варушыцца!

Так размашыста
Параскіданы
Ва ўсе стораны
Лапы крэпкія.

Комель—слуп-скала,
Дыша сілаю,
А ўгару зірнеш—
Шапка валіцца.

Дуж ты, дуб стары,
Сын вякоў сівых!
Многа бур ты зьнёс
На вяку сваім!

Налятаў віхор
З навальніцаю,
Ды ня гнуўся ты
Перад бураю!..

Гэй ты, дуб стары,
Вартаўнік лугоў!
Аддае твой шум
Сьпевам-музыкай.

А пра што шуміш
І аб чым пяеш,
Пра то ведаюць
Ветры вольныя,

Што з табой вядуць
Мову сталую
У летні добры час
Або восеньню.

Я падслухаю
Гэты шум лістоў,
А з іх гутаркі
Песьня зложыцца.

1910 г.

## ПЕРШЫ ГРОМ

Галасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары,

Гай страсянуўся, дрыгнула поле,
Долы той гук панясьлі.
Ў гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасьць зямлі.

Ў грукаце гэтым многа ёсьць сілы,
Чуецца моц і прастор...
Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш сьмех паміж гор.

Міл майму сэрцу гоман далёкі,
Водгук вясёлы і шум.
Гром ты магутны, гром адзінокі!
Колькі ўскатурхаў ты дум!

Моцна мяне ты клічаш на волю—
Цяжка бяз волі мне тут.
Кланяйся, громе, роднаму полю,
Родны вітай ты мой кут!

1910 г.

## НОЧ ПРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Стаў чырван месяц круглаліцы,
І зоркі боязна дрыжаць,
А там крыжуюцца зарніцы,
Бы косяць неба-сенажаць.

Бурліць крыніца агнявая,
Бы нейкі грозны віхар-вір,
І бляскі-іскры разьлівае,
Як залаты агністы жвір.

Замоўк дзянны клапотны голас,
Усюды сон, спакой ляжыць.
На ніве чутка дрэмле колас,
І ліст на дрэве ня дрыжыць.

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны—
Далёкіх хмар магутны гром.

Калі працягла заракоча,
Гугухне голас угары,
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.

А хмара грозна націскае,
Маланка неба баразьніць.
А ночка сьпіць, а ноч ня знае,
Што зараз бура зашуміць.

1910 г.

## НА ЛУЗЕ

Добра ў лузе ў час палудны!
Лёгка там дыхнуць!
Хмаркі белыя марудна
За лясы плывуць.

Ветрык краскі чуць калыша,
Травы шалясьцяць.
Луг зялёны жыцьцём дыша—
Конікі трашчаць.

Ў лозах шчэбет ня сьціхае,
Шум стаіць і сьвіст,
Ў яркім бляску спачывае
На ракіце ліст.

Сьпевам-гоманам і звонам
Поўніцца ўвесь луг,
І дрыжыць над ім, зялёным,
Жыватворчы дух.

1910 г.

## ВЯРБА

Пытаў ручаёчак
Сірату-вярбіну,
Што над ім стаяла,
Зьнізіўшы галіны,

Да вады галоўку
Зьвесіўшы самотна,
Ды з паўднёвым ветрам
Зюкала журботна:

„Адкажы мне, вербачка,
Адкажы мне, мілая,
Чаго ты ўсё смуцішся,
Журышся, пахілая?
Без пары, бяз восені
З галавы-каронанькі
Ты раняеш лісьцейка,
Свой убор зялёнанькі?
І аб чым так жаласна
З ветрыкам шапочаш ты,
Бы стаміцца-згрызьціся
Хочаш ты знарочыста?

Кудры твае пышныя
Жоўкнуць, высякаюцца,
А лісточкі кволыя
Па зямлі качаюцца.
Адкажы мне, вербачка,
Адкажы мне, мілая,
Чаго зажурылася,
Смутная, зьнясілая?“

Зашумела ціха,
Жаласна вярбіна:
„Горка мне, мой любы,
Горка, сіраціне!

Цяжка маім ножкам—
Цісьне іх каменьне,
А твая вадзіца
Зрэзала карэньне.
Грунт мой пад нагамі
Зрыла-раскапала,
Сокі майго сэрца
Усе яна забрала.

Моладасьць сваю я
Марна загубіла...
Ой, нашто-ж так шчыра
Я цябе любіла?“

1910 г.

## АПОШНІ ЛІСТОК

У сьпусьцелым садку
Глуха вецер шуміць,
На галінцы лісток
Баязьліва дрыжыць.

Усе лісточкі даўно
Вецер-сівер разьнёс,
Толькі гэты лісток
Моцна к дрэву прырос.

Трэпле бура яго,
Палівае дажджом.
Разлучацца-ж яму
Шкода з родным гняздом,

З тэй галінкай, дзе ён
Жыцьця радасьць пазнаў,
Дзе вясной вецярок
З ім любоўна шаптаў.

І блішчала на ім
Летнім ранкам раса,
Цалавала яго
Залатая каса...

Эх, аджыў ты свой век,
Жоўты ліст-бедачок,
А на весну цябе
Скіне новы лісток.

1910 г.

## СТАРЫЯ ДУБЫ

Зноў я бачу, зноў вітаю,
Як паноў вяльможных,
Па-над Нёманам у гаю
Гурт дубоў разложных.

Сам ня ведаю, чым мілы,
Чым вы сэрцу любы,
Выхаванцы веку, сілы,
Магутныя дубы.

Чымся мілым, чымся родным
Ад вас павявае,
Аж мне сэрца ў сьпеў лагодны
Штосьці ахінае.

Узварухнуцца думкі-песьні,
Як вашы лісьцінкі,
І зноў станеш напрадвесьні
Жыцьцёвай пуцінкі.

Цешуся я, пазіраю
На вас, вежы-дрэвы,
Цьмяна сэрцам прачуваю
Вашы думкі-сьпевы.

Але шум я ня той чую—
    І вы парадзелі,
І вы ня ўсе буру злую
    Зьнесьлі і здалелі.

Ой, асілкі ў ціхім гаю,
    Дубы векавыя!
Я вітаю вас, вітаю,
    Волаты любыя!

1912 г.

## БУДЗЕ НАВАЛЬНІЦА

Ноч надыходзіць, і хмары ўстаюць,
Лозы размову трывожна вядуць,
Боязна шэпча трава, чараты,
У хмарах зьнік месяца рог залаты,

На небасхіле зарніцы мігцяць,
Громам узрушана грозная раць.
Мрок насядае глыбей і цяжэй...
Грымні-ж ты, бура, ды грымні дужэй!

1912 г.

## НАША ГУМЕНЦА

Я люблю сваё гуменца,
Крытае саломай,
З гэтай стрэшкай пасівелай,
Так даўно знаёмай,

З гэтай сошкай, дзе гнязьдзечка
Ластавачка лепіць...
Добра там ёй: дождж ніколі
Дзетак не зачэпіць!

Дзе пад шчытам павуцінку
Ветрык хіліць-песьціць
Ды такія байкі бае—
Галава ня зьмесьціць!

Дзе саломка з каласінкай,
Выбіўшыся з стрэшкі,
Згайдануцца, засьмяюцца
Радаснай усьмешкай.

А як слаўна адпачыці
Тут на мяккім сене!
Сонца ўзыдзе і рассыпле
Золатам праменьні

Па ўсяму гумне скрозь шчылін,
Праз страху, з-пад шчыта,
Бы разьвесіць тая ткаха
Залатыя ніты.

Зашчабеча над гнязьдзечкам
Ластаўка жычліва.
За гуменцам, ціха шэпча
Каласамі ніва,

Як-бы кліча яна жнеек
Або просіць косак.
Ўсё мне кажа тут пра жыцьце
Родных сёл і вёсак.

Добра мне тут, мне тут міла,
Родна ўсё і блізка.
Тут хлябок мой, мая хата
Ї мая калыска.

1913 г.

## ГЛУХАЯ ДАРОГА

Наракаюць і смуткуюць
Дзьве сястрыцы, дзьве пуцінкі,
Што ў палёх адны пустуюць,
Што іх глухнуць каляінкі:

„Конік возу тут ня цягне,
І ня ходзяць больш тут людзі,
Ці то леглі мы на багне?
Хто-ж нам сон-спакой абудзіць?
Нам тут сьцішна і журботна:
Мы адны тут, бы ў пустыні.
Зельле сьцеле нам палотны,
Забіваюць нас палыны.
Дык нашто-ж, нашто было нам
Тут лажыцца, вывівацца
Ды імклівым бегам-гонам
З белым сьветам спазнавацца?
Хто-ж нас кінуў тут на полі?
Чаму-ж нам закрыты далі?
Каб мы знаді, мы-б ніколі
Тут сьлядоў сваіх ня клалі!“

Так гаруюць, так смуткуюць
Дзьве сястрыцы, дзьве пуцінкі,
Што ў палёх адны пустуюць,
Што іх глухнуць каляінкі.
І пачуў іх жальбу вецер,
Што праходзіў тут па полі,
І гаворыць ім—„маўчаце:
Вы—сьлед цьмяны чужой волі“.

1913 г.

## ВЕРАБ'ІНАЯ НОЧ

Ноч павісла над зямлёю,
Усё абнята цішынёю,
Поўнай страху, поўнай чар.

Быў гарачы дзень бясконца,
Не сьвяціла—жэгла сонца,
Парнасьць страшная і вар.

І вось неба ня ўтрывала,
Усё ў агнёх запалыхала,
Мрок хістаецца, дрыжыць.

Там гарацъ, як у пажары,
На паўдні, на ўсходзе хмары,
Дзе зьліліся рубяжы.

І ня ўловіш слухам грому,
Што тварыцца—невядома
Ў нутрах гнеўных аблакоў.

Як-бы хто жывы, палючы
Погляд кідае бліскучы,
Пыша сілаю віхроў,

Ускіне вочы агнявыя,
Ўскіне грозна і закрые,
Цьму сярдзіта ўскалыхне

Ды як сыпне ў неба жарам!
Страшны шлях асьвеціць хмарам,
Ніжай мрок к зямлі прыгне.

А зямля маўчыць трывожна.
Лес пакорна і набожна
Сьціх, чакае—ні гу-гу!

Неба-ж грозна пыша, зьзяе,
Бляск агністы разьлівае,
Паліць мрочную смугу.

1913 г.

## ВЫСОКІ БЕРАГ

Высокі Бераг, родны, мілы!
Люблю я твой пяшчаны скат
І хвоек нізкіх гурт пахілы,
Капцоў гранічных цэлы рад.

Люблю той лес, што над табою
Высока ўзьняў свае камлі,
Яго-ж карэньні над вадою
Нібы вянок табе сплялі...

Струменіць Нёман срэбраводны
Ў тваіх прыўдалых берагох,
А ў лозах ветрык вее згодны,
І ходзіць шум па чаратох.

Высокі Бераг, кут мой мілы!
Люблю я жоўць тваіх пяскоў,
Разложных хвоек гурт пахілы
І ціхі гоман лазьнякоў.

1915 г.

## ДАРОГА

Ад кургана да кургана,
Ад гаю да гаю
У пяць нітак легла цьмяна
Дарога крывая.

То лясок, то луг, то поле,
То лужок зялёны...
Эх, прастор! эх, воля, воля
І балот разгоны!

І куды бяжыш, дарога,
Тканка ног і кола?
Ды маўчыць пуцінка строга,
Не гавораць долы.

Ну, што-ж? далей, гайда далей
За узгоркі тыя!
Ня стрымацца нам: мы—хвалі
Ціхія рачныя.

1916 г.

## ГАЙ

Люба ўспомніць гай зялёны,
Сосан пышныя кароны,
Гурт прыўдалых іх камлёў,

Дзе так ціха, так прывольна,
Дзе і сам жывеш супольна
З жыцьцем хвояў і дубоў,

Што стаяць тут з даўніх часаў
І на хвоі зораць ласа,
Бы на красачак-дзяўчат.

Я хадзіў адзін, маўклівы,
Ды вясёлы, ды шчасьлівы,
Думкі думаліся ў лад.

Эх, ты, гай! Ня раз, бывала,
Тут душа адпачывала,
Сэрца цешылася... чым?

Толькі-ж хто пра гэта знае?
Ты да я, да маладая...
Хто?—пра тое памаўчым!

1916 г.

## ВОСЕНЬ У ГАЮ

Гай заціх, бы зачарован,
Шум і сьпеў яго пахован,
Гай смуткуе і маўчыць,

Бы душа ў часы зьмярканьня;
Толькі песьняй пахаваньня
Вецер нудна прашуміць,

А лісьцё паміж камлямі
Пажаўцелымі раямі
Заснуецца, задрыжыць

І на дол на памяртвелы
Так пакорна, так нясьмела
З ціхім шолахам ляціць...

Сумна ў гаю і маркотна,
Толькі лісьцечка гаротна
Штось журботнае гудзе.

З гэтай мовайападаньня
Песьню хмурага зьмярканьня
Думка чуткая вядзе.

1916 г.

* * *

Прайшлі незваротна дзянькі веснавыя,
Адсьпеваны песьні яе маладыя,
І краскі пажоўклі, павялі.

І толькі ўспаміны, як зоркі ў тумане,
Мігнуцца, засьвецяць... і сумна так стане—
Дзе моладасьць? мары?—прапалі!

1916 г.

## ПАЛЕСЬСЕ

Край лясоў, край балот!
І туманаў гнілых!
Хоць і бедна ў табе,
Хоць у лозах тваіх
Вецер жудасна ўвосень шуміць,
А ўсё міл ты мне—чым?
Я ня ведаю сам,
А твой вобраз маім
Прыглядзеўся вачам,
Да цябе маё сэрца ляжыць.
Я люблю твой прастор,
Гмах шырокі балот,
Дзе бубняць бугаі,
Дзе красуе чарот
І дзе травы, як мора, ляглі.
Калі лес там, дык лес:
Можна тыдзень дыбаць;
А прастор, дык прастор—
І канца ня відаць,
Не ахопіш, ня зьмерыш зямлі.
Я люблю твой спакой,
Яснасьць ціхіх дзянькоў,

Залаценькі убор,
Тую чырвань лясоў,
Што на сонцы увосень гарыць.
Я далёка цяпер
Ад палескіх раўнін,
А люблю-ж я той край,
Бы яго родны сын,
І па ім маё сэрца баліць.

1916 г.

## ДУБЫ

На пацеху, на зьдзіўленьне
Тут дубы стаялі,
І глыбока іх карэньні
Цьвёрды грунт аралі.

І гулі іх верхавіны
Гутаркаю сталай
Пра даўнейшыя часіны
Долі заняпалай,

Пра мінулыя прыгоды
Гіблых часаў, слаўных.
Тут стаялі з году ў годы
Сьведкі дзеяў даўных,

Гожым летам ці вясною
Раніцой на ўсходзе
Штось шапталі між сабою
Ў добрым ладзе-згодзе,—

Можа казкі жыцьця-долі
У цішы стваралі
Або песьні вольнай волі
У лістох складалі,

А мо' сонейка віталі,
    Дзень хвалілі новы,—
Не, ня ўніклі, ня ўчыталі
    Іх паважнай мовы.

Эх, дубы, дубы! вякамі
    Вы зьбіралі сілы,
Не звалодаў віхар з вамі,
    Вас здалелі пілы.

Ашальмованы вам чолы,
    Сьсечаны кароны,
І, пасеўшы на верх голы,
    Там крычаць вароны.

1921 г.

## У ПАЛЁХ БЕЛАРУСІ

Дзень добры вам, лясы і далі,
Прасторы вольныя зямлі!
Я зноў між вас, пагоркі-хвалі,
Палоскі цьмянае ральлі!

Вітаю вас, як блізкіх, родных,
Старыя хвоі на палёх,
І вас, красёнцы сьцежак згодных,
Сьляды нялічаных дарог!

І гэты жоўценькі пясочак,
Дзе хвойкі зелена растуць,
Бярозы тыя, што ў шнурочак
За рубяжы зямлі бягуць.

Над рэчкай гэты луг мурожны,
Дубоў разьвіслых цэлы рад,
І буслаў дом, стары, заможны,
Як той пасэсарскі пасад.

То тут, то там лясок сінее,
Ў лагчынах рэчачкі блішчаць,
Куды ні глянь—пакоем вее,
На ўсім адна ляжыць пячаць:

Развагі мудрай, задуменьня
І нейкай смутнае красы,
І чуеш ў гэтым лятуценьні
Адвечнай песьні галасы.

А хмарка ў небе, ў ясным полі
Плыве шчасьліва, як дзіця,
І забываеш мімаволі
Ўвесь клопат буднага жыцьця.

Куды ні гляне маё вока,—
Ўсё поўна згоды, дабраты,—
Ты маеш выгляды прарока,
Наш край пакуты, край сьвяты!

1921 г.

# III

# Сялянскае жыццё

## НА ПРАДВЕСЬНІ

Эх, наперла ліха-гора!
Ні сяніны, ні зярна.
А тут сьнег яшчэ ня скора
Згоніць цёплая вясна.

У кішэні ні грашынкі,
Хата поўная дзятвы!
Ні паленца, ні лучынкі—
Хоць у землю лезь жывы.

Папалілі, пераелі,—
Нічагутка, ані ў зуб!
Хлеба толькі да нядзелі,
На два разы ўсяго круп!

А даўгоў ты нахватаўся!
Таму дзесяць, таму пяць...
Ось дзе, Грышка, ты папаўся:
Чым ты будзеш аддаваць?

Эх, наперла ліха Грышку—
Рук няма за што заццаць!
Хіба вып'ем па кілішку—
Лягчэй будзе гараваць.

1907 г.

## МУЖЫЧАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Божа, божа, твая воля!
(Хоць і можа гэта грэх):
Што за жыцьце, што за доля,—
Проста плач бярэ і сьмех!

Ў хаце чорна, няпрыбрана,
Парасяты пад палком,
Павуцінаю заткана
Столь і кут над абразом.

Дзеці ўстануць пасьля ночы—
Крык, хоць вушы затыкай.
Дым з камінку лезе ў вочы,
Дзед сярдуе—ая-яй!

А як часам дзе зьбярэцца
Ў хаце з пару ‘шчэ жанок,
Сварка тая не зьвядзецца—
Дзень грызуцца за гаршчок.

А ўмяшаюцца мужчыны,
Ну, і пойдзе латата!
Паўплятаюцца ў чупрыны,
Рэдка стане барада.

Так ўвесь век ператаўчэшся,
І няма тэго дабра.
Покі жыць ты прыбярэшся—
Уміраць ужо пара.

1907 г.

## ПЛЫТНІКІ

Клунак за плячамі,
Згорбленыя сьпіны,—
Валіць чарадамі
Люд на сплаў, віціны.

Босыя іх ногі,
Твар іх загарэлы,
Вопратка убога,
Чуць прыкрыты целы.

Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла.
Нокае, гукае
На яе Кірыла...

Жарыць-скварыць сонца,
Ліст не скалыхнецца,
Горача бясконца,
Рагамі пот льлецца.

Срэбрам адлівае,
Як люстэрка Нёман.
З ранку ня сьціхае
Над вадою гоман.

Ад крыку-лаянкі
Аж дрыжыць паветра.
„На „барбару“, Янка!
„Гартоль“ бяры, Пётра!

„Закідай шырыгу!
„Прысам папхні ў ліва!
„Варушыся! мігам!
„Ня сьпі ў шапку! жыва!“

А заднік бяз толку
Бусаком махае.
Галаўнік Міколка
Бэсьціць яго, лае.

Гнецца плыт дугою
Прэ яго да гаку,
Быстраю вадою
Ломіць, як вужаку.

На мель узагнала.
Крык, сярдзіты голас.
Порткі паскідалі,
Ўсе ў вадзе па пояс.

Бомы ўсе пабралі,
„Разам, хлопцы! разам!
„Ну, яшчэ! што сталі?
„Ну, яшчэ наляжам!“

Вецер загуляе—
Хвойнік, лозы гнуцца.
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.

Плытнік гнецца ў полі,
Мерзьне ён у холад.
Ведае нядолю,
Ведае і голад.

Што-ж? бядота гоніць,
Толькі сілы траціш,
Толькі косьці ломіць,
Як хваробу схваціш.

* * *

Эх, ты, доля, доля!
Голад ты, галота!
Не свая тут воля,
Не свая ахвота.

1907 г.

## КАХАНЬНЕ

Ці помніш ты, Ганна,
Шчасьлівы мамэнт,
Як граў раз на дудцы
Нябожчык Вінцэнт?

А Нёман спакойна,
Спакойна дрыжаў,
І месячык ясны
На нас пазіраў.

Драў горла у лозах
За рэчкаю драч,
І грукаў у сьцену
Рагамі маркач.

На жэрдзе мы селі
У мроку маўчком
І я прытуліўся
К табе плячуком.

Язык мне адняўся,
Я сьліну глытаў,
А потым нясьмела
Цябе запытаў:

„Скажы мне, Ганулька,
Ці любіш мяне?“
„Люблю“, ты сказала:
„Аж сэрца мне схне!“

І лапці з-за сьпіны
Мае ты зьняла,
Анучы у Нёман
Ты мыць панясла.

Ганулька, Ганулька!
Павер, зразумей—
Я ў сьвеце ня бачыў
Каханьня шчырэй!

На вуліцы Мурза
Яхімаў брахаў,
І стражнік пасьвістваў,
Нагайкай махаў.

Я-ж быў шчасьлівейшы
На сьвеце батрак,
Ішоў, не баяўся
„Шнуроў“ і сабак.

Ці помніш ты, Ганна,
Той сьветлы мамэнт,
Як граў раз на дудцы
Нябожчык Вінцэнт?

1907 г.

## НАША ДОЛЯ

Наша доля нас ня знае.
Жыцьце наша—ноч і цьма.
Ўлетку жар нас данімае,
Цісьне холадам зіма.

Не красуе наша ніва,
Луг ня цешыць нам вачэй.
Гне к зямлі нас праца жыва,
Гоніць ў могілкі дзяцей.

Наша жыцьце невясёла...
Ноч і цьма на нас ляглі.
Нашы хаты, вёскі, сёлы
Сівым мохам абрасьлі.

Нашы сьлёзы няшчысьлёны,
З нас крывавы льлецца пот...
Люд забіты, люд крышчоны.
Абяздолены народ!..

* * *

— Што, брат Грышка: папраўляйся—
Чутка ёсьць—зямлі дадуць.
Не хварэй, брат, падымайся
Ды ачуньвай як-нібудзь.
— Эх, Мікола: што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, ня будзе нам жыцьця,
Як паноў не перавешаць.

1907 г.

## МУЖЫК

Я—мужычы сынок.
Ні двара, ні кала!
Поле—жоўты пясок,
Хата ў землю ўвайшла.

Ня жыву, а гнію,
Прападаю, як мыш,—
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжкі мой крыж!

Я балоты сушу,
Надрываю жывот,
Я за бесцэн кашу,
Рыю землю, як крот.

Ўсе вуглы і куты
Сваім целам я зьмёў,
Сьсек і лес і кусты
І дарогі правёў.

Ды ня ежджу па іх,
А хаджу пехатой
Ў рваных ботах старых,
Часьцей босай нагой.

Збудаваў я палац,
Многа фабрык, мастоў.
Сам-жа голы, як бац—
Пары дзьве рызманоў.

Пад ваконьнем ня раз
Я з мяшэчкам хадзіў,
Міласьціны у вас
Хрыстом богам прасіў.

Мяне мочыць раса,
Мяне сонца пячэ,
А у песьнях маіх
Сьляза ціха цячэ.

Я па сьвеце хадзіў,
Косьці ўсюды занёс,
Я на землю праліў
Многа сьлёз, многа сьлёз.

То ня дуб у бары
Заскрыпеў, застагнаў—
Гэта я без пары
Богу душу аддаў.

Нудна звоняць званы,
То мацней, то замруць.
Адзін дзяк ля труны—
Гэта гроб мой нясуць.

На магілцы маёй
Крыж трухлявы стаіць,
А над прахам касьцей
Вольны вецер шуміць.

Я—мужычы сынок,
Я ня маю дарог.
Мая школка—шынок,
Маё жыцьце—астрог.

1908 г.

## ПАХАВАНЬНЕ

Чую звон я нудны,
Рэдкі, невясёлы.
Дзень сягоньня будны,
Не сьвяткуюць сёлы.

Чую прычытаньне,
Чую плач я нечы,
Скончыўся зараньне
Век твой, чалавеча.

Вось труну я бачу,
Кучка йдзе народу.
Колькі жалю, плачу!
Жонцы мужа шкода,

Мужа маладога,
Добрага Рыгора,
І сабе у бога
Просіць сьмерці з гора.

Сёстры плачуць горка
Буйнымі сьлязамі:
„Ой, Рыгор, Рыгорка!
Што зрабіў ты з намі?“

Двое дзетак з краю—
Бедныя сіроткі!
Цяжка будзе, знаю,
Вам, мае блазноткі!

Ззаду дзед сагнуўся,—
Нудна, жаль старому.
Падышоў, вярнуўся
Скора поп да дому.

О, мой братка родны!
Ой, мужык ты бедны!
Ўсё жыцьцё галодны,
Худы, чорны, бледны.

Хто табе уважыць?
Хто паспагадае?
Сушыць доля, пражыць,
Гне, не аглядае.

Біўся ты, як рыба,
Часу ты ня ўседзіш..
У зямельцы хіба
Шчасьце ты угледзіш.

А памёр—ні знаку,
Звон адзін пазвоніць.
Ў яму небараку
Кінуць, пахароняць...

Смутна і ціхутка...
Могілкі з крыжамі.
Круцяцца блізютка
Галкі над палямі.

Жаль скаваў мне грудзі,
І нуда напала...
Каб вы знали, людзі,
Як мне цяжка стала!

1908 г.

## НАША ВОЗЬМЕ

Мы ходзім, спатыкаемся,
Бадзяемся, як п‘яныя,
Мы з голадам зрадніліся,
Худыя, абарваныя.

Асьмеяны, аблаяны,
Гразёю мы замазаны,
Багатымі мы скрыўджаны,
Няволяю мы зьвязаны.

Ў балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны,
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены.

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё-ж такі хоць некалі,
А праўды дапытаемся.

1908 г.

## УДОВІНА ХАТА

З краю вёскі сірацінкай
Заняпала хата.
Тут ня ладзяць вечарынак,
Не прадуць дзяўчата.

Спарахнелі броўны ў сьценах,
Вырас мох на стрэсе.
Сыра ў хаце, пуста ў сенях,
Глуха, як у лесе.

Прытуліўся хлеўчык з боку,
Як дзіця да маткі.
Смутна сэрцу, нудна воку,
Як зірнеш на хатку.

Шыбы ў вокнах перабіты,
Як-бы ў пераплёце,
Каля ганку дол парыты,
Збан, гаршчок на плоце.

Доля гэты кут мінае,
Гора тут пануе,
Тут кабета маладая
З дзеткамі гаруе.

Рве бяз жалю вецер стрэху,—
Цяжка бяз мужчыны!
Ня чутно тут сьпеву, сьмеху—
Тут удоўка гіне...

1908 г.

## ВОБРАЗ ПАКУТЫ

Па зямлі і ўдзень і ўночы
Ходзіць асьцярожна
Чорным ценем, злою зданьню
Страшны падарожны.

Балахон яго на латах,
Бледны твар аплёван,
Акрываўлена ўсё цела,
Ланцугамі скован.

Ходзіць ён па бедных вёсках,
Па глухіх закутках,
Пакідае за сабою
Гора, сьлёзы, смутак.

І снуецца цень пакуты
І снавацца будзе,
Покі вочы не разьвяжуць,
Не расчыняць людзі.

1908 г.

## ПАНАС ГУЛЯЕ

Што мне жонка! што мне дзеці?!
Эх, Панас, ва ўсю гуляй!
Ёсьць там мерка жыта ў клеці,—
Хаім! піва падавай!

Напляваць мне на падатак!
Што мне земскі, старшыня?
Хаім! люльку на ў задатак—
Дай мне царскага віна!

Ды дай булак на паўзлоты,
Ды прыпраў мне селядца!
Усё прап'ю: халат і боты...
Пачынай, Панас, з канца!

Вось ідзе Панас, сьпявае,
Страшыць жонку і дзяцей,
Кулаком усім махае,
Пабудзіў усіх людзей.

Дома ён разбушаваўся.
Дзед вяроўку ўжо прыпас...
Пад сталом ноч пракачаўся
П'яны, зьвязаны Панас.

1909 г.

## ПЕСЬНЯ НАД КАЛЫСКАЙ

Аа-аа, мой сынок!
Аа-аа, мілы!
Ня крычы, ня плач: дарэмна
Ты патраціш сілы,

А бяз сілы, мой сынок,
Жыць на сьвеце трудна...
Ой, ты, вецер, ня шумі,
Не сьпявай так нудна!

Спаць Міхаську не даеш...
Сьпі, мой сын маленькі!
Я цябе пакалышу—
Ай, люлі-люленькі!

Што цябе чакае, сын?
Што твая за доля?
Можа й ты пот будзеш ліць
У чужое поле?..

Будзеш ўлетку ты хадзіць
На плыты, на згоны,
З Коўны матцы прынясеш
Хоць гарсэт чырвоны...

А мо' ў школку пойдзеш ты,
Будзеш чалавекам—
Без навукі цяжка жыць
Гэтым трудным векам.

Кінеш матку, па чужых
Ты па людзях пойдзеш,
І на шчасьце нападзеш,
Долю сваю знойдзеш.

Ўспомніш матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе я ў ноч ня раз
Песенькі сьпявала.

І гасьцінца мне прышлеш,
Не забудзеш маткі.
Вось усьцешуся тады,
Аж запляшчу ў ладкі!..

Аа-аа, мой сынок!
Люлі, люлі, мілы!
Ой, ня плач ты, ня крычы,
Набірайся сілы!

1909 г.

## ЗА ПАДАТКІ

Колькі ўжо раз за падаткі
 Стараста пужае!
Ох, няхай іх! горка з імі,
 Хто таго ня знае!

Аж тут пісар прыяжджае
 Разам з старшынёю...
Ой, нічога-ж не парадзіш
 З горкаю бядою!

— Пачакайце, калі ласка!—
 І—бух ім у ногі!
А назаўтра я Красульку
 Пацягну ва рогі.

Зарыкала так жалобна
 Бедная жывёла,
І мне сэрца гэтым рыкам,
 Як нажом парола.

Жонка плача, лементуе...
 Гэтак па дзіцяці,
За труною йдучы, плача
 Хіба толькі маці...

Я йшоў збоку, і здушылі
Горла мне залозы.
Ў поле вышаў—паліліся
З вачэй самі сьлёзы.

1909 г.

## ДОЛЯ БАТРАЧКІ

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну,
Выпраўляючы, хавае
Горкую сьлязіну.

— Будзь паслушная, дачушка,—
Навучае матка:
— Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпі, дзіцятка!

Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць сьлязою.
Твая доля цямней ночкі—
Цяжка быць слугою!

Бо ня ўважыць чужаніца
Ручак тваіх белых,
Поту выльлецца крыніца
З шчочак загарэлых.

Ўстанеш летам раней зоркі,
Пойдзеш перша ў поле...
Ох, дачушка, хлеб твой горкі,
Горка твая доля!

Маці дочку разважае,
Сябе цешыць стара,
Жаль да сэрца падступае,
Як чорная хмара.

Вось дзяўчына ўжо гатова,
Пакідае хатку.
— Ну, матулька, будзь здарова!—
І цалуе матку.

— Ну, бывай!..— І ня ўтрывала
Бедная матуля.
Жаль сьлязамі ёй прарвала,
Твар да дочкі туліць.

Вышла маці ўсьлед за ёю,
Стала ля парогу
І, падпершы твар рукою,
Зорыць на дарогу.

На дарогу-пуцявіну—
Там яе Ганулял—
Ды за сьлёзкаю сьлязіну
Роніць-лье матуля.

Доўга матка так глядзела,
Дочку праваджала,
Покі хустка яе бела
З вочак не прапала.

1909 г.

## У ШКОЛКУ

Ярка на камінку
Смольны корч палае.
Бацька на калодцы
Лапці выплятае.

Латае халацік
На ўслоне матка:
Ў школку заўтра пойдзе
Іх сынок Ігнатка!

Сын васьмігадовы
Корчык падкладае,
З бацькавай работы
Вочак ня спускае.

Сьветлая галоўка
Мысьлямі занята,
Многа ўсякіх думак
У вачох Ігната!

— Ну, Ігнат, глядзі, брат,
Ня дурэй, вучыся.
Годзі жыць бяз дзела—
За буквар вазьміся!

Будзь старанным, сынку,—
Станеш чалавекам,
Будзеш ты чытаць нам,
Цемнікам, няўмекам,

Што у кнігах пішуць,
Што мы ў сьвеце значым,
Бо мы самі цёмны,
Сьвету мы ня бачым.

Слухай, што настаўнік
Гаварыць там будзе
Пра навуку, кнігі
І аб цёмным людзе.

А старанны будзеш,
Да навукі здатны,—
Я прадам кароўку
І кажух астатні,—

Далей йдзі ў навуку,
Толькі, брат, вучыся.
Дык глядзі-ж, сыночак,
Шчыранька вазьміся!

На гульню пустую
Плюнь, махні рукою,
Каб і я і маці
Цешылісь табою.—

На казаньне бацькі
Адказаў Ігнатка:
„Буду я вучыцца,
Як ты кажаш, татка!“

А як спаць улёгся,
Думкі мімаволі
Гаманілі ў сьненьні
Хлопчыку аб школе.

1909 г.

# СЯЛЯНСКАЯ РАДА

Кончан дзень. За стол паселі—
    Дужая сямейка!
Незайздросная патрава:
    Бульба ды куцейка.

Павячэраўшы, мужчыны
    Люлькі закурылі
І аб справах аб сялянскіх
    Ўсе загаварылі.

Даў вясну бог, а з вясною
    Праца надыходзіць:
Гэта праца іх галовам
    Думак шмат наводзіць.

Поля мала ды і тое
    Хоць-бы ў адным месьце,
А то—дзе яно? за сьветам,
    Гною не падвезьці,

Ні ўзараць у сваю пору,—
    Так і прападае,
А пасееш—няма толку,
    Што-ж, зямля пустая!

— Я казаў-бы,—пачынае
Дзед, абросшы мохам:—
Картаплянішча ад лесу
Высеяць гарохам.

— Ну але, і я так думаў,
І там больш зацішку,—
Падтрымаў старога дзеда
Сын жанаты, Грышка.

— А Асінкі ад дарогі
Трэба заскародзіць:
Пад пагоду, як патрапіш,
Можа грэчка ўродзіць.

— Ну, якая ўжо там грэчка!—
Брат малодшы кажа:—
Ветрам выдзьме! Не пасьпеўшы,
Ўся на пні паляжа.

— Хоць мякіна сьвіньням будзе,
Подсьціл, корм каровам.—
На хвілінку гоман сьціхнуў,
Думаюць галовы.

— А для льну пакінуць можа,—
Голас гаспадыні:—
Два загончыкі ў Навозах,
Або пры лагчыне.

— Для льну месца там падобна,
Толькі трэба гною.
— Ну, а з пусткаю што будзе?
Сеяць ярыною?

Ці ў папар на лета пусьцім,—
Грышкаў брат пытае.
— Пэўна-ж так. Хай у папары
Лета пагуляе...—

Зацягнулася далёка
Гэта іх гаворка,
І як розум ні павернеш,
Ўсюды выдзе спорка:

Там пясок і камяніца—
Кепска для ячменя:
На адну кальвінку збожжа
Зельля больш, як жменя.

Там занізка, дождж размые,
І зямля сцаглее,
Там высока, сонца спаліць,
Без пары сасьпее.

А дзе-б можна што пасеяць
На якім загоне,
Дык там куры падрасуюць,
Паталочаць коні.—

Эх, вясенька галадненька!
Каб ты толькі знала,
Колькі думак селяніну
Нанясла, нагнала!

1909 г.

## МУЖЫК

Я—мужык, бядак пахілы.
Ўсе ўшчуваюць мужыка.
Цягнуць кроў з яго і жылы,
Надрываюць яго сілы,
Ў мазалёх яго рука.

Я—мужык, я—сын пакуты,
На мякіне вырас я,
Гічанамі пуза ўздута,
Ногі ў лапцікі абуты,
Бедна вопратка мая.

Я—мужык, я—сын бядоты,
Не даем і не дасплю,
Гнусь пад цяжарам работы,
Дзень працую за два злоты,
Зьдзекі ўсякія цярплю.

Я—мужык, ня чую звону,
Толькі-ж есць мяне чарвяк:
Ці ня брэша поп з амбону
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусібыць, ня так!

Я—мужык, а гонар маю.
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!“

1909 г.

## ГОРКАЯ ДОЛЯ

З нашым шчасьцем-доляй
Выйсьці ў людзі брыдка...
А бадай ты спрахла,
Гэтакая жытка!

Засадзілі ў клетку,
Волю адабралі,
Вобраз чалавечы
Ў гразь яны ўтапталі.

Лічыш дні і тыдні—
Горка ты, няволя!
А каб ты прапала,
Гэтакая доля!

І марнееш сам ты,
Траціш марна годы,
Хочацца прастору,
Хочацца свабоды.

Эх, жыцьцё, жыцьцё ты!
Ночка ты, нянасьце!
А каб ты-ж згарэла,
Гэтакае шчасьце!

Але пачакайце,
Помніце, псякосьці!
Эх, прыпомнім крыўды
Мы вам, ягамосьці!

1909 г.

## НА АДЗІНОЦЕ

Між глыбокіх сьнягоў,
Дзе лес глуха шуміць,
Ціхі дом лясьнікоў
Адзінока стаіць.

Воўчым вокам акно
Ў цемры ночы блішчыць.
Дзеці леглі даўно,
Толькі маці ня сьпіць,

Смыча нітку яна,
Усё кудзельку прадзе.
Глухата, цішыня,
Толькі вецер гудзе,

Завывае, бы зьвер.
Стогне вяз над страхой.
Страшна ў лесе цяпер,
Сьцішна ў хаце адной.

Ды прывыкла яна
Да паўночы сядзець
І скрозь шыбы акна
Ночцы ў вочы глядзець.

А ў тым коміне зноў
Вецер песьню пачаў,
Вось ён глуха завёў,
Застагнаў, забурчаў...

— Мама! страшна мне тут,
Я баюся адзін:
Унь варушыцца жмут
На ашэстку аўчын.

Сын малы, Васілёк,
Кліча матку к сабе.
— Бог з табою, сынок:
То здалося табе!

Ня пужайся, дурны:
То аўчынкі вісяць.
Няжывыя яны
І ня могуць чапаць.

— Мама! сядзь ідзі тут...
Што так страшна гудзе?—
Ставіць прасьніцу ў кут,
К сыну матка ідзе.

— Мама! чуеш—во-во!
Хтось па даху пабег!
Гэта злодзей ці хто?
— Не, сынок:—гэта сьнег!

— А што трэба яму?
Чаго ўзьлез ён на дах?
Ці ён грозіць каму,
Ці спужаў яго страх?

— Ой, блазнота мая,
Ну-ж з цябе і сьмяляк!
Чаго думка твая
Устрывожана так?

Гэта-ж вецер, сынок.
— Ён жывы, ці які?
— Ды не, мой галубок!
Гэта—подых такі.

— А што робіць ён?—Хто?
— Ну, той подых! скажы!
— Нямаведама што
Ты гаворыш!.. Ляжы!

Васілёк замаўчаў,
Нярухліва ляжыць,
Мусіць думаць пачаў,
Чаго вецер шуміць.

А ён, нібы той зьвер,
Плача, вые, гудзе.
— А дзе тата цяпер?
Чаму доўга ня йдзе?

Не баіцца адзін
Ён па ночы хадзіць!
— Тата дужы, мой сын!
За плячыма вісіць

Стрэльба, нож пры баку,
Дык баяцца чаго?
Кепска будзе ваўку,
Калі чэпіць яго!..

— Мама! праўда ці лгуць,
Што маленькіх дзяток
Жабраком аддаюць
Замест хлеба ў мяшок?

— Не, няпраўда, сынок!
Гэта байку сплялі,
Проста страшаць дзяток,
Каб паслушны былі.

Зноў заціх Васілёк
І пытаць перастаў,
Зноў яго разумок
Варушыцца пачаў.

Ціха ў хатцы малой,
Смутна лямпа гарыць.
Бор стары за сьцяной
Ўсё шуміць ды шуміць.

1909 г.

# ЦЕМРА

Бедны мы і цёмны,
Ходзім сьлепакамі,
Судзімся і б'емся
З роднымі братамі,

І адзін другога
Часта акрадаем,
І куды йдзе праца,
Самі мы ня знаем.

Пуста, бедна ў хатах,
Чад і гразь і сырасьць...
Хто нас ў кут аціснуў?
Чыя гэта міласьць?

На каго мы робім?
Што за гэта маем?
На каго ўсе сокі,
Сілы вынішчаем?

Пад ярмом адвечным
Шлі мы без дарогі,
Натрудзіўшы плечы,
Зьверадзіўшы ногі.

Папіхалі намі,
Гналі, як жывёлу,
Змардаваных, босых,
Неакрытых, голых.

А ўсе дармаеды
Нас бяз жалю лаюць,
Мужыком, хамулам
Злосна папікаюць.

Эх, вы дармаеды,
Моль вы, вош людзкая!
А хто-ж вас, праклятых,
На плячах трымае?

1909 г.

## У НОЧЫ

Над калыскай матка
Ночку каратае,
Хворага сыночка
Цешыць, забаўляе.

На цьвічку павешан
Начнічок убогі.
Зазірае ў вокны
Месячык двурогі.

Карагоды зорак
Угары мігаюць,
Ня зямлі сьняжынкі
Сінім блескам зьзяюць.

Так спакойна ўсюды,
І такая ціша!
Хворае дзіцятка
Так няроўна дыша!

Забівае кашаль,
Не дае спакою.
Сьпі, маё дзіцятка!
Сьпі, мае любое.

Ня пужайся, мілы!
 Бог сьвяты з табою...
Вон пайшоў ты з хаты,
 Сівы дзед з кульбою!

Унь пайшоў дзед сівы,
 Крывіцца і плача...
Уцякай адгэтуль,
 Уцякай, бядача!

Ось які дзед гэты—
 Думаў напалохаць!
Будзе-ж усю ночку
 На марозе вохаць!

А не хадзі ў хату,
 А ня лезь сьляпіцай!..
Плач цяпер і мерзьні
 Ды ня будзь дурніцай...

О, Пятрусь мой цаца!
 Любім мы Пятруся:
Любіць яго тата,
 Любіць і матуся.

Купіць тата Пётру
 Боцікі на ножкі,
Пойдзе мой сыночак
 Пракладаць дарожкі!

Новую кашульку
Я табе пашыю,
У вадзіцы цёплай
Чысьценька памыю.

Будзеш ты харошы!
Цётка не пазнае
„А чый гэта хлопчык?“
Дзядзька запытае.

Ўсе дзівіцца стануць
І хваліць Пятруся.
— Гэта—я,—ты скажаш:—
Я—сынок Габрусяў...

Поўнач пракрычалі
Пеўні з хаты ў хату,
Ўсё курыць газьніцы
Блеск падсьлепаваты.

Змучана кабета
Мацярынскім горам,
Галаву схіліла
Над сыночкам хворым.

І калыша сына,
Страхі адганяе,
А самой ёй сэрца
Нешта есьць-сьціскае.

1910 г.

## МАЦЕРЫНА ГОРА

За сялом у полі,
Ў жоўценькім пясочку,
Пахавала маці
Маладую дочку.

Зьнікла яе радасьць—
Старасьці апора,
І няма уцехі
Ў мацярынскім горы.

Ёй ніхто ня верне
Дарагой дачушкі.
Плачуць па дзяўчыне
Сваякі і дружкі.

Плача па ёй мілы,
Жаль яго вялікі,
Гора-ж яго сьціхне,
Змоўкнуць сэрца крыкі.

Ганначку забудуць
Сваякі і дружкі,
Не забудзе маці
Роднае дачушкі.

Не загояць часы
Сэрца яе раны,
Сама ляжа маці
З імі ў гроб драўляны.

1910 г.

## СЯЛЯНСКАЯ ДОЛЯ

Ты памрэш, цябе ня будзе,
Пахаваюць труп на грудзе,
Ураніўшы колькі сьлёз.

Над гарбом зямлі пастылай,
Над прасьцецкаю магілай
Пара вырасьце бяроз.

Пры дарозе на кургане
Толькі крыжам болей стане,
Лішнім прыкладам ў нагах.

Цяжкі камень сьцісьне грудзі,
І забудуць скора людзі,
Чый пакоіцца тут прах.

1910 г.

## ЗАБЫТАЯ МАГІЛА

Адно захована названьне
Магілы ў полі на гары.
На тым закінутым кургане,
Дзе веюць вольныя вятры.

Нічога часы не схавалі:
Згнілі, зваліліся крыжы,
З пліты каменнай спаласкалі
І напіс летнія дажджы.

А тут пачыла жыцьцё нейча,
І ў ім пахован цэлы сьвет...
Як дым, жыцьцё ты чалавеча:
Дыхнуў віхор—і згінуў сьлед.

1910 г.

## ГРУШЫ-САПЯЖАНКІ

Слухай, Костусь, што скажу я:
Папасі авечкі—
Можа дзядзьку абману я,
Скрадуся з-за грэчкі,

Ў сад залезу, сапяжанак
Пазухі нарву я,
Сакаўных такіх, братанак!
А ну-ж пашанцуе!

Як на грушу ды ўзьбяруся,—
Вось мы забалюем!
Ашукаем і Пятруся
І груш пакаштуем!—

Глянуў Алесь брату ў вочы,
Хітра засьмяяўся.
Костусь быў да груш ахвочы.
— Ну, йдзі, ды ня бауся.—

Хлопцы стадка пільнавалі
Блізка каля дому
І спакою не давалі
Дзядзьку іх старому.

Вышлі з хаты ўсе на поле,—
Час жніва, рабочы,
А ў гумне Пятрусь паволі
Жыта акалочваў.

Абмалоціць сноп і стане,
Як бацян, на ганку,
Праз вароты хітра гляне
І на сапяжанку,

Ня спускае грушы з вока,
Ох, вартуе пільна!
Пападзіся жэўжык-дока,
Дык задасьць цапільна!

Але й хлопцы розум маюць—
Хітрыя, зладзюжкі!
Строяць пляны, развжаюць,
Як дайці да грушкі.

І ня так ужо баліць ім
Гэтых груш натрэсьці,
Як Пятруся абурыці
Або ў злосьць увесьці.

Улучыў Алесь часіну,
Торбу ўзяў з сабою,
Прытаіўся, сагнуў сьпіну
І папоўз мяжою.

Падпаўзе і адпачыне
Ды наставіць вушы,
На гуменца вока кіне
І зірне на грушы.

Костусь проста заміpae,
Млее ў хваляваньні
І да бога пасылае
Палкае літаньне:

„Божа мілы, літасьцівы!
Памажы нам, памажы!
Каб запоўз Алесь шчасьліва
І ў садок папаў з мяжы!

Каб натрос там сапяжанак.
Навядзі яго на троп!
Каб Пятрусь ня стаў на ганак
І на нейкі час асьлёп!“

А Алесь паўзе. Часамі
Скокне, разагнецца.
Костусь есьць яго вачамі
І, як ліст, трасецца.

А Алесь і не шманае—
Цэп учуў і рушыў!
Вось і плот, даў бог, мінае,
Вось палез на грушу!

„Ну, яшчэ-б мінут з дзесятак!..
Божа, памажы нам!..“
Зірк—Алесь з усіх лапатак
Чэша, як пружына!

Глянуў Костусь—дзядзька ззаду
З цэпам прэ бяз духу!
— Галаву скручу я, гаду!
Я цябе, псяюху!—

Гоніць дзядзька хлопца, лае
Жорсткімі славамі,
Алесь пазухі трымае,
Драбязіць нагамі,—

Сыпле дробна—што маломў?
Дзядзька стаў хістацца.
Ды і дзе з малым старому
Ў беганцы зраўняцца?

Шмыгануў Алесь у хвойнік,
Даўшы два-тры кругі.
— Я-ж табе, нябось, разбойнік!
Я-ж вам дам, зладзюгі!—

І пачаў сваё літаньне
З цэпам сярод поля:
— Каб вам шчасьця ані званьня,
Ліха вашай долі!

Як за вамі не пасьпелі
Ні гарох, ні грушы...
А каб вы папруцянелі,
Каінавы душы!—

Хлопцы сталі на палянку
І крычаць здалёка:
— Дзядзька! глянь—во сапяжанкі!—
І пашлі у скокі.

Алесь грушы вытрасае
Праз прарэх кашулі
І на дзядзьку ён гукае:
— Дзядзька! а во дулі!

Дзядзька бегчы быў памкнуўся,
Ды балелі косьці.
Плюнуў дзядзька і вярнуўся,
Поўны страшнай злосьці.

1910 г.

## ПАСТУШОК

Блеск гарачы сьлепіць вочы,
Душна ў лесе і ў палёх.
За гавядай аж да ночы
Зранку прышчыцца Цімох.

Эх, ня лёгка за скацінкай!
Годам сьцягнецца дзянёк.
Нецярпліва жджэ хлапчынка,
Ды ня скора вечарок.

Торба з хлебам за плячыма,
Высах—випетрыў хлябок.
Мерыць цень ня раз вачыма,
Лічыць крокі пастушок.

А на полі нікагутка,
Толькі ён адзін, як пень,
Толькі больш наводзіць смутку
Звонам крыльляў авадзень.

1910 г.

## НА РЭЧЦЫ ЗІМОЮ

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...

Хочацца Алесю
Выйсьці на двор з хаты,
Ўзяць з сабой сякерку
Ды ў той лес кашлаты,

Стукнуць па дзярвяках
З-за пляча абухам
І глядзець, як сыпне
Сьнег халодным пухам;

Як стаяць над рэчкай
Хвоі і яліны,
Як ім сьнег халодны
Нахіліў галіны.

— Мамачка-галубка!—
Просіць ён так міла:—
Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусьціла?

Я ня буду доўга,
Зараз-жа вярнуся:
Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся.

— Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся
Ды глядзі, ў палонку,
Сынку, не ўваліся.—

Радасьць і раздольле
Хлопчыку малому,
І не пазайздросьціць
Ён цяпер нікому!

На плячо—сякерку,
Саначкі—у руку,
Хлеба ўзяў кусочак.
— Цюцік! - сьвіснуў Жуку.

Пад скарынкай лёду
Тут-жа каля хаты
Працякала рэчка
Скрозь лясныя шаты.

Побач тэй рачулкі
Кучы буралому,
І застыла рэчка
Мёртва, нярухома.

Моцна яе грудзі
Маразамі скуты,
І аковы лёду
Сярод рэчкі ўздуты.

Цісьнецца вадзіца,
Не знаходзіць ходу
І ня мае сілы
Скінуць глызы лёду.

На рачулцы ў лесе
Меў Алесь забаву.
Ну-ж, і пацяшаўся
Хлопчык тут на славу!

Эх, ты, лёд-гвалтоўнік!
Што ты вытвараеш?
Ты на што вадзіцу
Крыўдзіш і ўсчуваеш?

Бедненькай, ёй цёмна,
Цесна пад табою.
Хай-жа пагамоніць
Мілая са мною!

Дам ёй ход, галубцы,
Каб на сьвет зірнула!—
І яго сякерка
Спрытна секанула.

Зьвякае тапорык,
Глуха стук нясецца.
Раптам клуб вадзіцы
З-пада дна ўзаўецца.

Коціць поўзьверх лёду,
Іней падымае
Ды такую-ж казку,
Байку хлопцу бае!

Слухае хлапчынка
Гэты сказ нязнаны,
Сьпеў, нікім ад веку
Ў лесе нячуваны.

То яму здаецца
Дудак хор далёкі,
То птушыны ў небе
Голас адзінокі.

На душы так ціха,
Ціха і нейк млосна,
І сьпявае ў сэрцы
Сьпеў той сугалосна.

Гэты сьпеў дзівосны
Чары навявае
І такія казкі
Слаўныя складае!

І ад гэтай песьні
Вее дабратою,
Радасьцю і шчасьцем,
Мілаю вясною.

Ад тэй песьні-казкі
Трудна адарвацца,
І ёй струны сэрца
Хочуць адклікацца.

1910 г.

## Агляд зямлі

Сьціхла, мяркоўна жыў Янка Жыгала
 І грошы патрошкі зьбіраў.
Даўно яму думка у сэрца запала,
 І думцы ён гэтай даўно патураў.
Выедзе ў поле ён з конікам сівым,
 Ці пойдзе з касою касіць,—
Любая думачка зданьнем шчасьлівым
 І сонейкам ясным блішчыць.
Дома таксама. Бывала у сьвята
 Аб думцы тэй мову зачне.
Жыгалу у руку гаворыць Агата,
 І ў вочы лагодна зірне.
А думаў Жыгала аб тым, каб зямелькі
 Ну, хоць дзе шматочак купіць.
Бо дома бядота, і сьціск паўстаў велькі,
 І не з чаго стала тут жыць.
І жыў, прыслухоўваўся Янка Жыгала,
 Як, дзе прадаецца зямля,
І купля якія выгоды казала,
 Як там ураджайна ральля.
Былі у Жыгалы сябры—гаспадары.
 Адны у іх думкі былі,

І ў сэрцы насілі аднакія мары—
Дабіцца, разжыцца зямлі.
Зьбяруцца, бывала, і люлькі закураць
І так углыбяцца ў размовы яны,
Што лбы свае зморшчаць і бровы нахмураць,
Калі ў чым запынкі відны.
І вось раз вясною, пад Яна, здаецца,
Гаворыць Жыгала сябром:
— Чуў я, мужчыны,—зямля прадаецца,
А разам з зямлёю і дом.
А ёсьць там і паша, і рэчка блізютка,
І лесу кавалак ёсьць там.
От-бы абладзіць, ня ведалі-б смутку,
Была-б і выгода і хлеб быў-бы нам.
— То дзіва, што быў-бы!—ўздыхае Гаўрыла,
Аб кіпець тэй люлькай б‘ючы:—
Абсталявацца-б і жыў-бы, што міла,
Ня гэтак, як тут жывучы.
І доўга пра землю яны гаварылі,
Гарэлі іх вочы агнём.
Здавалася ўжо ім, што землю купілі,
І новы пастроілі дом.
І кожны з іх садзік ужо быццам мае,
І гумны іх хлеба паўны.
— Што-ж? сходзім, пабачым, хай бог памагае—
Да згоды прыходзяць яны.

*
* *

Ходзяць па полі ў раздум‘і мужчыны,
Паперадзе з стрэльбай лясьнік.

Іх твары сур'ёзны, і важны іх міны,
Ды вырвецца часам тут крык:
— Ото, брат, раўніна! і вокам ня скінеш,
А глеба глядзі—як тварог!
Што за зямелька, брат! купіш, ня згінеш,
Асесца-б тут госпад памог.—
І кіем Жыгала зямлю калупае,
Да долу прыгнуўшыся ўвесь.
А чорную грудку ў руках расьцірае
І нюхае землю Алесь.
А трэці, Гаўрыла, мужык барадаты
Абводзіць вачыма ўсю даль.
Так радуе сэрца ім грунт той багаты—
Растацца з зямлёю ім жаль.
Лясьнік-жа паказвае ўсе ім граніцы
І з жарам гаворыць такім:
— О, лес тут прыўдалы! грыбоў і суніцы
І ягады ўсякай у ім.
І рэчка пад бокам, і процьма ў ёй рыбы,
Тут рай, ягамосьці, ды ўсё!
Вось гляньце, мужчыны, якія сядзібы!..
О, добрае будзе жыцьцё!
Мужчыны ў палоне, і сэрца ў іх млее,
Здаецца-б, дадому, ня йшоў,
Бо шчасьцем, багацьцем куток гэты вее,
Як люба між гэтых дубоў!
Абходзяць, любуюць зямельку мужчыны,
І сэрца ў іх б'ецца, гарыць...
Вось так на каханку, красуню-дзяўчыну
Хіба толькі хлопец глядзіць.

1910 г.

## ПЕРШЫ ЗАРАБОТАК

### ДОМА

— Ну, Алесь брат,—за абедам
Кажа бацька сыну:—
Годзі бегаць дармаедам,
Красьці садавіну,
Таптаць сьцежкі ў агароды,
Рэзацца па хаце.
Ты ўжо ўходзіш, брат, у годы—
Колькі яму, маці?—
Роднай матцы сэрца ў грудзях
Зьлёгка затраслося.
„Ці ня хоча аддаць ў людзі?“
Ў думках праняслося.
Сам Алесь сямігадовы,
Як ліст, скалануўся,
Бо ў тэй бацькавай прамове
Страх яму пачуўся.
Апусьціў ён нізка вочкі,
Глыбей ў кут падаўся.
— Ну, што сьціхнуў, як у прочкі
Ты ад нас сабраўся?—
— Дай хоць зьесьці, адчапіся!
Вось прыстаў к дзіцяці!

Еж, Алеська, ня журыся!—
Не ўцярпела мацi:
Пойме гутарку якую,
Чуць за хлеб узяўся.
— Няхай есьць, цi-ж я шкадую?—
Бацька адазваўся:—
Еж, Алесь, чаго надзьмуўся
Ты, як мыш на крупы?
Цi ад ночы не ачнуўся!
Расплюшч свае лупы!
Глянь у вочы мне! сьмялее!
Во, так! малайчына!
Еж, бо крупнiк адубее,—
Кажа ён да сына.
Паабедалi з бядою,
Спаражнiлi мiсы.
Абцёр бацька вус рукою,
Твар i лоб свой лысы.
— Ну, дык вось што—чуеш, хлопча?—
Годзi так бадзяцца—
Няхай качка цябе стопча—
Трэба чым заняцца.
Згодзен пасьвiць ты ўсё лета
Ў Курганох каровы?
Шэсьць рублёў даюць за гэта
Ды халацiк новы.—
— Ой, няхай-бы пабыў дома!—
Зноў гаворыць матка:—
Ну, куды ён, мал, вядома,
Рана пасьвiць стадка,

Толькі высахне у лыка,
Нябось, пасьвіць—мука!
— Ат! патрапіць—не вяліка
Гэтая навука!
Будзеш пасьвіць?—Тут у сына
Бацька запытаўся.
— Ото дзіва!—Малайчына:
Я не ашукаўся.
Ты ў мяне хлапец рахманы,
Вось люблю за гэта!
Працаваць вучыся з рана,
У маладыя леты.

ПЕРАД ВЫПРАЎКАЙ

У Алеся думак многа,
Ды ўсе думкі новы.
Твар сур'ёзны, бы ў старога,
Нахмураны бровы.
Кінуў ён гульню з сябрамі—
Трэба дбаць на хату,
Памагаць ён будзе маме,
Бацьку, сёстрам, брату.
Цяпер бацька адзін б'ецца
З ранку аж да ночы,
Так працуе, што пот льецца,
Лезуць на лоб вочы.
Гэтак сама адна маці,
Праўда, дасьціпная—
Адна ў полі, адна ў хаце.
Корміць, абмывае.

Мала з дзевак дапамогі—
Драбяза ўсё, дзеці!
Сам ён толькі, дзякуй богу,
Жыць здужае ў сьвеце.
Без падмогі, сам сабою:
Ён—дзяцюк, хлапчына—
Носіць ён вядро з вадою,
Як стары мужчына!

Потым думкі няпрыметна
Далей залятаюць—
Чужаніцы няпрыветна
З Курганоў мігаюць.
Матка страхаў наказала
Пра жыцьцё з чужымі,
Як Алеся навучала,
Каб ужыцца з імі.

— Трэба змоўчыць, хоць часамі
Скрыўдзяць, або ўсчуюць,
Хоць нядобрымі славамі
Злосна пажартуюць.
Будзь паслушны і цярплівы,
Ня лазь у гароды,
Не марнуй ты людзям нівы,
Не рабі ім шкоды...—

Адным словам, страх нагнала
На Алеся матка,
І так міла яму стала
Родная іх хатка!
Ды нічога не парадзіш,
Калі служба трэба,

Калі беднасьць, як паглядзіш,
Сама просіць хлеба.
Дый Курганы не за морам—
Восем вёрст ад дому,
Над ракою за тым борам,—
Месцы ўсе знаёмы.
Так хлапчынка разважае,
З думкамі гамоніць,
Дух надзеяю ўздымае
І трывогу гоніць.
У вузельчык вось увязан
Скарб яго убогі,
Станік тонкі падпяразан—
Жджэ Алесь дарогі.
Моцна-ж сэрца забалела,
Як ён вышаў з хаты,
Але плакаць не пасьмела,
Бо йшоў з боку тата.

### У ЧУЖЫХ

— Добры дзень вам, ягамосьці!
— Добры дзень!.. сядайце.
— Ну, вось я прывёў і госьця.
Мал ён,—выбачайце.
— Э, нічога, акрыяе,
Дый ён хлопец слушны.
Гадкоў з восем, мусіць, мае?
— Сем у „дзень задушны“*).—

*) „Задушны дзень“ 1-га лістапада, калі даўней паміналіся душы продкаў.

У куточку прыхіліўся
Ціха каля лавы
І на ўсё Алесь дзівіўся,
Пазіраў, цікавы.
Глянуў ён у кут украдкам
На таго сьвятога,
Што напісан быў з ягняткам
І глядзеў так строга.
Ён зірнуў на Мікалая
І на Юр'я з зьмеем,
На сьвятых, што і ня знае
І назваць ня ўмее.
За сталом былі мужчыны
І стары між імі,
У каторага маршчыны
Зьлеглі пад вачыма.
Лоб высокі, безвалосы,
Голы, як калена,
Вусы быццам-бы шлі з носа,
Белыя, як пена.
Пазіралі дзеці скрыва
З печы і з прымурка
На Алеся, як на дзіва,
Ці якога турка.
А тым часам стол убралі
Пляшка і дзьве чаркі,
Ў печы весела пішчалі,
Гаманілі скваркі.
Селі піць барыш мужчыны.
Дзед, падняўшы чарку,

Кажа: „Дай бог толк з хлапчыны
Нам у гаспадарку!..
Ходзь, Алеська, сюды, брацік!..
Бліжай, бліжай, браце!
Распраніся, скінь халацік,
Будзь як свой у хаце“.
Падышла і гаспадыня,
Жвавая кабетка.
— Павесь шапачку, мой сыне!
Зьеш—от скварку, дзеткі!
Будзеш дужшы, небажатка,
Пасілкуйся крышку!—
І падносіць хлапчанятку
Гарэлкі ў кілішку.
Круціць хлопчык галавою—
Піць, моў, не бярэцца.
Скварку згробшы пяцёрнёю,
Есьць, аж нос той гнецца...
— Ну, сынок, служы здаровы,
Даглядай скацінку.
Будзеш дома на пакровы...
Ня нудзіся-ж, сынку.—
Разьвітаўся бацька з імі
І пашоў дадому.
Ой, маркотна між чужымі
Хлопчыку малому!

## НЯ ВЫТРЫМАЎ

Моцна хлопец занудзіўся
Па сям'і, па маме,

Як-бы сьвет тут зачыніўся
Ў гэтай нуднай яме.
Ўсё тут дзіка, ня цікава,
Бы ў яловым лесе,
Кожны вугал неласкава
Глянуў на Алеся.
Ўсё ня гэтак, як там, дома:
Лавы, печ старая,
Кожна рэч тут незнаёма,
І яму чужая.
Ўсё—качэргі і аконцы
На нуду наводзяць,
І тут нават ня так сонца,
Як там, дома, ўсходзіць,
Ды і людзі не такія,
Накшая гаворка,
І алешнікі ня тыя,
Ня той луг, узгоркі.
    Вышаў з хаты, прытуліўся
Пад грушаю ў полі
І так моцна засмуціўся,
Бы ў якой няволі.
На дарогу пазірае,
Што вядзе дахаты,
Што, як стужка, агібае
Цёмны лес кашлаты.
І так мілы хлопцу сталі
Родныя палеткі,
Лес, што нікнуў ў сіняй далі,
Узгоркі, межы, кветкі,

Хаты, гумны, варывенькі,
Цэрква на грудочку...
Эх, як міла, весяленька
У сваім куточку!
А тут хата, як адрына,
Як хлеў,—сьвету мала.
І надумаўся хлапчына
Даць адгэтуль драла.
Многа думаў так і гэтак,—
Не бярэ нічога!
А з палетка на палетак
Скача, йдзе дарога...
Ён на заўтра ўстаў ранютка,
Аж да ўсходу сонца,
Чуць што глянуў дзень ціхутка
Ў хату праз ваконца.
Наш Алесь перахрысьціўся,
Глянуў на палаці,
А там дзед той разваліўся,
Але ціха ў хаце.
Згроб свой клуначак пад паху—
Загадзя сабраўся—
Асьцярожна, поўны страху,
Да дзьвярэй падкраўся
І ціхутка—стук у дзьверы,
Шугануў у сені!
Сэрца білася бяз меры,
Трэсьліся калені.
Ён кулём, як ліс у норы,
За хлявы, ў задворкі...

Уплыў месячык за горы,
Чуць мігалі зоркі.
Вось Алесь прычхаў дадому,
Стаў на прыгуменьні.
Страшна ў хату йсьці малому—
Гора-утрапеньне!
Што рабіць тут, не згадае.
Мо' назад вярнуцца?..
Плача хлопчык, аж рыдае,
Сьлёзы так і льюцца.
Вышла матка, плач пачула,
Бачыць—іх служака!
Матку жаласьць агарнула—
Шкода небараку!
— Што-ж ты плачаш? ідзі ў хату...
Ня плач, супакойся.
— Ой, баюся, мама, таты!
— Ня зьесьць ён, ня бойся!—
Бацька ўстаў і абуваўся.
Зірк—Алесь у хаце!
Бацька толькі засьмяяўся.
— Ты ўжо дома, браце?
Той калоціцца ўсім целам,
Як-бы грэшнік страшны,
Думаў ён, што ў сьвеце цэлым
Ён—самы няшчасны.
Апусьціў сваю галоўку,
Клуначак трымае,
Кулачком у ціхамоўку
Сьлёзкі выцірае.

— Ну, што гэта за работа?
Адурэў ты, Грышка!
Ён—зусім дзіця, блазнота,
Зелен, як пурышка...
Дзе служыць яму, дзіцяці?
Ну куды-ж?—націна!—
Стала бацьку чысьціць маці
І крычаць за сына.
— Мне-б тут трэба раскрычацца,
Розум твой жаночы!
Брыдка будзе паказацца
Тым людзям у вочы!..
Ах, лайдак, пястун пракляты!
Лезь на ручкі к мамі!—
Плюнуў бацька, вышаў з хаты,
Стукнуўшы дзьвярамі.

1910 г.

## У СУДЗЕ

Янку прыгавар чытае
Член акружнага суда:

„Суд праўдзівым палагае
За праступак, што Дуда
Учыніў па добрай волі,
У цьвёрдай памяці, вуме —
За пакражу жыта ў полі
Пратрымаць год у турме!..
— А турму ты як адбудзеш —
Кажа член, каб горш кальнуць —
Дык правоў ты мець ня будзеш,
Нават соцкім не зьбяруць!“

Пакланіўся, асьцярожна
Янка члена стаў пытаць:
„Мой, паночку! ці ня можна
Тых правоў і з сына зьняць?“

1910 г.

## З ПЕСЕНЬ АДЗІНОКАГА

### 1

Я—адзін, жыву бяз дому,
Сам сабе я першы пан,
Галавы ня гну нікому,
Ня схіляю гібкі стан.

Я—адзін, нічым ня скован,
Волен я, бы дух палёў,
Ад разбойнікаў захован,
Ад усякіх зладзяёў.

Я—адзін, нічым ня зьвязан,
Мне няма над чым карпець,
Сьвет нідзе мне не заказан,
Волен ўсюды я ляцець.

Скарб мой—рукі, мой конь—ногі,
Як пайду—сам чорт ня брат.
Кій у рукі і з дарогі
Бяз нуды зірну назад.

Даражэй за ўсё—свабода,
Дык што плакацца дарма?
Воля, воля! толькі шкода,
Што цябе нідзе няма.

1910 г.

2

Эх, нашто ўздыхаць па волі,
Калі я ня маю долі,

Калі марна годы трачу,
Калі сэрца ў смутку плача?

Знаць, няшчасным урадзіўся,
Што сьвет белы зачыніўся,

Зачыніўся, зьбегся клінам...
Горка быць мужычым сынам.

Богач зьяе ў пазалоце,
Мужык бедны мрэ ў бядоце.

У мядалях „зубр“ багаты,
А ты носіш адны латы,

Бо мужычы сын пахілы
Роўнасьць мае... у магіле.

1908 г.

3

Я ня маю сваёй хаткі,
Я ня помню роднай маткі.

Рос я круглым сіратою,
Як той дуб, што над вадою.

Мяне матка ня люляла,
Казак, песень не сьпявала.

Чуў я толькі песьні бору,
Гадавала мяне гора.

Хоць нядоля мяне гнала,
Усё-ж мне сілы не зламала:

Ці-ж я ростам ня высокі?
Ці-ж у грудзях ня шырокі?

Валасы да плеч густыя,
Мае рукі, як стальныя.

Спрытна рэжу дол сахою,
Здатны ў лузе за касою!..

Толькі-ж дол чужы капаю,
Толькі долі я ня маю!

Ой, пайду, пайду я ў поле,
Загукаю: „Дзе ты, доля?

Дзе ты, шчасьце? адгукніся,
Ка мне тварам павярніся!“

Толькі-ж ціха-ціха ў полі,
Толькі вецер дзьме паволі:

„Дарма жыцьце тваё гіне,
Няма долі бедачыне!“

1909 г.

4

Што тужыць, гаравацьʔ
Маю сілу ў руках —
Хлеб змагу даставаць,
Хіба праца мне страхʔ
Я—адзін, я—здароў,
Месца ўсюды мне шмат.
Захацеў і пашоў,
Пыл узьняўшы з-пад пят.

Гаспадарку сваю
Ўсю з сабою вазьму.
Песьню я запяю —
Раскатурхаю цьму.
Што мне гнуцца ў дугуʔ
Каму шапку зьнімацьʔ
Няўжо-ж я не змагу
Сам сябе падтрымацьʔ

Волен сьвет мне кругом,
Дзе прайду, будзе знак,
Дзе прылёг, там і дом,
Кожны бедны—сваяк.

1909 г.

## МАТЧЫНА ПРЫЧЫТАНЬНЕ

Верхам крыжастым узьняўшысь высока,
Хмурыя ёлкі панура шумяць.
Дзе-ні-дзе вынікне дуб адзінока,
Дзе-ні-дзе вязы, як вежы стаяць.

Дзікае месца! лясы і балота,
Купін мільёны, кусты лазьняка.
Боязна шэпчуць аеры, чароты,
Глуха, трывожна шуміць асака.

Лозы і травы штось цёмнае баюць,
Што? невядома для нашых вушэй.
Нутры лясныя спрадвеку хаваюць
Нейкую тайнасьць ад вока людзей.

Чорная грэбля лягла праз балота.
Хворaст, бярвеньне, як рэбры, тырчаць.
Грэбля паганая—гразь і плюхота.
Слава нядобрая ходзіць пра гаць!

Каля грэблі за балотам
Людзі начавалі
Аж з-пад Пінску шлі пяхотам,
Таварыну гналі.

Сутунела. Ў цёмным лесе
Галасілі совы.
Нікла ў мроку ўсё Палесьсе,
Бор драмаў хваёвы.

На балоце з чаратамі
Лазьнякі шапталі,
Дзесь у пушчы, за дубамі,
Пугачы крычалі.

Месяц бледны срэбрам ліўся
У нетры ночы шэрай.
Люд гудзеў і варушыўся,
Заняты вячэрай.

А касьцёрчык так прыветна
Мігацеў-сьвяціўся,
А над лесам чуць прыметна
Слаўся дым і віўся.

Залатымі матылькамі
Іскаркі ўзьляталі
І высока над лістамі
Гасьлі, прападалі.

Зоркі ціха мігацелі,
Разубраўшы неба.
Гаманілі людзі, елі,
Ды ня стала хлеба.

— Слухай, Пётрык: зьбегай к маме,
Возьмеш хлеба, сала
(А за грэбляй між лясамі
Вёска іх стаяла)!—

Так дзед кажа да Пятруся,
Хлопчыка малога.
— Калі-ж, дзедка, я баюся,
Злыдзеня ліхога!

— Сьмейся, хлопча: мы-ж тут блізка,
А там зараз хаты.
Яшчэ-ж рана, месяц нізка.
Чуй—пяюць дзяўчата!

* * *

Час ідзе, бягуць хвіліны.
Дзед чакае ўнука.
І няма, няма хлапчыны,
Аж бярэ дакука.

Месяц вышай усплывае,
Поўнач недалёка,
Вось і сітца чуць мігае,
Ледзьве зловіш вокам.

Позны час, але ня сьпіцца
Базылю старому:
Што магло-б там палучыцца
Пятрусю малому?

Што-ж да гэтуль ня прыходзіць?
Час вярнуцца з дому...
Думка думку ў дзеда родзіць,
Неспакой старому.

І нарэшце ня ў трываньне.
Нейкі страх вярзецца,
Не бярэ сон ані званьня,
Дзед дамоў пляцецца.

Глуха, пуста. Сном глыбокім
Сьпяць па хатах людзі.
Цісьне землю ночка мрокам,
Ноч сыйсьці марудзіць.

— Дома Пётра?—дзед спытаўся.
— Не, няма! - Дзівота!..
І трывога, рух падняўся,
Клопат, страх, згрызота...

* * *

Сярод грэблі, між бярвеньня,
Ўвесь гразёй заліты,—
Божа мілы! вось здарэньне!
Як-бы кім забіты,

Трупік Пётры знайшлі людзі,
Што ганялі стадка.
Прышла маці ды рве грудзі.
„Ой, дзіця, дзіцятка!

Мой сыночак залаценькі!
Ачніся, зірні ты!“
А ён бедны, няжывенькі,
Вочачкі закрыты.

Плача маці, лемантуе,—
Разьдзірае душу!
Ды сыночка не ўратуе,
Сьмерці сну ня зрушыць.

* * *

З таго часу, чалавеча,
Толькі ночка гляне,
На тэй грэблі голас нейчы
Прычытоўваць стане,—

На тым месьце, дзе маленькі
Быў Пятрусь забіты,—
„Мой сыночак залаценькі!
Ачніся, зірні ты!“

1910 г.

## ПАСТУШКА

Будзіць матка сваю дочку:
„Ўстань, дачушка залатая!
Унь і сонейка з лясочку
На пасьцельку заглядае.

Ўстань, паслухай, як у лесе
Сьвішчуць пташкі і гамоняць.
Вераб'і крычаць на стрэсе
І сьмяюцца з цябе, соні...

А як цёпла, каб ты знала.
Мёду пах ідзе ад грэчкі...
Ўстань!.. а ўчора-ж ты казала—
Буду пасьвіць я авечкі!

Ну, дачушка, не лянуйся!
Выжань іх на прорасьць нашу...
Ўстань, умыйся ды абуйся—
Трэба-ж выгнаць іх на пашу".

Ўстала дзяўчынка малая.
Плача, сеўшы на пасьцелі,
І авечкі праклінае:
„А, каб іх ваўкі паелі!"

— Вось дурная,—кажа матка:—
Ці-ж то можна гэтак клесьці?
Як зьядуць ваўкі ўсё стадка,
Што-ж сама ты будзеш есьці?

Сама-ж любіш, нябось, мяска
І аладкі мазаць тукам?
Дык і пасьвіць трэба, краска!
Пры авечках стаяць крукам.

А хвалілася: „ого, я!..“
Ну, ня плач!.. Ох, ты блазнота!.. —
Плача горш дзіця малое.
Ох, як пасьвіць не ахвота!

Самой матцы Нінкі шкода,
Дый куды ёй пасьвіць стадка?
Які розум яе? годы?.. —
Чуць сама ня плача матка.

1911 г.

## СЯЛЯНСКІЯ ДУМКІ

Невясёлая, галодная,
Халадэчамі багатая,
Эх, вясна, вясна халодная,
Чым пацешыш ты аратая?

Не растуць хлябы,—марнуюцца,
Сохне праца ўся вялікая.
Драсяны ў жытох красуюцца,
Ў ярыне—сьвірэпка дзікая.

На лугі зірнеш мурожныя—
Жоўкнуць травы і старэюцца
Ды грудочкі прыдарожныя,
Як барадаўкі, жаўцеюцца.

Ветры з поўначы халоднае
Веюць злоснымі парывамі.
Ходзяць хмары, ды бясплодныя,
Не раняюць сьлёз над нівамі.

Мусіць, ведаюць, што нашымі
Сьлязьмі—потам бедачынымі
Шчыра зьліты нівы з пашамі,
Луг шырокі з азярынамі.

Суш, бяздождзіца, бязросіца...
Ох, знаць, будзе год галодненькі!
Не адзін тут разгалосіцца
З тваіх дзетак, край наш родненькі!

1911 г.

## ПЯТРУСЬ-КАСЕЦ

Шоў Пятрусь дадому з лугу,
Дзе ўвесь дзень касой вярнуў.
Па дарозе даў ён кругу,
Манапольку абагнуў.

Узяў кручок ён і рухава
Выбіў корак, губы ўцёр,
На кручок зірнуў ласкава,
Галаву задраў, замёр.

Пацякла гарэлка ў жылах,
Як-бы спраўнік там прашоў,
І Пятрусь пачуўся ў сілах,
Закіпела яго кроў.

Сэрца ў грудзях так і б'ецца,
Лёгка—долу ня чуваць,
Так і рынуўся-б, здаецца,
Ён лявоніху скакаць.

Вось Пятрусь прышоў дадому.
Хмель яго узбунтаваў
І так весела старому—
Як-бы зноў ён хлопцам стаў.

Паглядзеў—няма нікога
Пад палок, пад печ зірнуў.
Чорт залез ці што ў старога—
Ступу к грудзям прыгарнуў

І пашоў па хаце з ёю,
Тупнуў раз ён і другі,
Адбівае тахт нагою
І выпісвае кругі.

Круціць ступу, абнімае
Ды сам сабе выцінае:

„Бадай таго каваля
Мяцеліца замяла,
Як ён мяне маладу
Замарозіў на ляду!“

1911 г.

## НА НІВЕ

— Гэй, мой конік! гэй, мой сівы!
Ну, яшчэ, маленькі!
Варушыся, гэй, ня бойся,
Конік мой сівенькі!—

Зранку ў полі за сахою
Аратай ґукае,
Сіўку, друга ў цяжкай працы,
Просіць-панукае.

Сам бяз шапкі, босы ногі,
Грудзіна раскрыта.
Б'юць каменьні аб нарогі,
Скрыгацяць сярдзіта,

І шуршаць пяскі буйныя,
Як жарства рачная,
Ходзіць подскакам, нязроўна
Сошачка крывая.

Аратай ідзе спавагу,
Мерна, крок за крокам,
Вузка доўгая палоска,
Не акінеш вокам.

Пройдзе баразну аратай,
Сошку падтрасае,
Сам назад увесь падасца—
Конік службу знае:

Сам заходзіць без панукі,
Без каманды спраўна,
Аж нейк глянуць на сівога
Люба і забаўна.

Нібы знае сівы конік
Думкі аратая,
І яго панукі-крыку
Сіўка не чакае.

Завярнуўшыся, аратай
Спыніць друга-сіўку,
Слова добрае прамовіць
І паправіць грыўку.

Гладзіць коніка па шыі,
Мух дакучных гоніць,
Як-бы з самым лепшым другам,
З сіваком гамоніць.

— Змардаваўся, адпачынь, брат,
Пастаім, пакурым.
Вератнік мы гэты скончым,
Спачываць патурым.—

Конік трэцца галавою
Аб яго кашулю,
Адпачыўшы, зноў ён цягне
Сошачку-крывулю.

А аратай, задуменны,
Зноў ідзе ступою...
Моцна, моцна іх злучыла
Праца за сахою!

— Гэй, мой конік! но, мой мілы!—
Носіцца па полі.
Конік, сошка і аратай
Сунуцца паволі.

Эх, ты, поле! Колькі сілы
Тут затраціць трэба!
Цяжка, цяжка дастаешся
Ты, кавалак хлеба!

1911 г.

## ПАХМЕЛЬЛЕ

— Годзі, жонка! Ну, ня лайся:
Больш гарэлкі ані ў зуб!
Калі вып'ю, ну, хоць кроплю,
Бі мяне, цягай за чуб!

Сам, нябож, я добра знаю,
Што з гарэлкі сьвет гарыць...
Тфу, паскудзтва! тфу, брыдота!
Хоць зарэж,—ня буду піць!—

Так прад жонкай спавядаўся
Посьле выпіўкі Тарас:
— Ну, на гэты раз павер мне —
Каб я жыў—апошні раз!

— Ой, ня раз я гэта чую!
Заракалася сьвіньня
За вугол хадзіць, Тарасе,—
І табе ня веру я!

— Ты ня верыш? Эх, Марылька!
Хочаш? я іду ў заклад?
Залажэмся на цікавасьць:
Ты праграеш, як бог сьвят!..

Тфу! пад грудзі падпірае!
Кішкі зблутаны ў камяк,
Ну, а ў роце, каб знала—
Фэ, які нядобры смак!

Галава-ж, як малатарня
Або хто завёў там млын...
А ўсё Грышка, недаверак,
Каб ён спух, сабачы сын!—

Як прусак, што зьеў бураксы,
Ходзіць, плёвае, бядак,
І да жонкі падыходзіць.
— Сьсе вантробы мне чарвяк.

Слухай, золатка-галубка—
Стаў пакорненькі Тарас:—
Прынясі апахмяліцца—
Каб я жыў—астатні раз!—

1911 г.

## ПЕСЬНЯ П'ЯНАГА

Выпіў, Янка, чарку ты,
Ну, мо' й трохі болей,
Бо-ж ты, Янка, не сьвяты,
Не сьвяты, саколе!

П'юць на сьвеце, п'юць усе,
І ты, браце, выпіў.
Іду босы па расе,
Шапку аддаў ліпе.

Скача божы сьвет вакол,
Мусіць, ён упіўся.
А ты, месяц, мой сакол,
Чаго ўтарапіўся?

Ці ты бачыш першы раз
П'янага Яноля?
Янка выпіў, ды ня ўграз —
Піць ня будзе болей!

Ой, падыме жонка крык —
Сьцеражыся, Янка!
Эх, каб бабам не язык
Ды ня іх лаянка!

Ня крычы ты, ня крычы,
На мяне, Ганулья,
І мянушак ня лічы,
Языка ня муляй!

Каб ты, Ганна, ведала,
Як цябе кахаю,
Як, залёгшы ў седала,
Па табе ўздыхаю!

Ды ня бойся, не шманай—
Што каму за дзела?
Там-там-там-там! та-ра-рай!
Ідзі, Янка, сьмела!

Бо ты толькі й бачыш рай,
Як гарэлкі хваціш.
Скачы, Янка, выцінай,
Покі сіл ня страціш!

Скача божы сьвет вакруг,
У вачч траіцца,
Лезе з плеч стары кажух,
Хоча закруціцца.

А ты, Янка, не зважай
На кажух падраны!
Прэч з дарогі! уцякай,
Бо йдзе Янка п'яны!

1912 г.

## „РЫНУ“

Было, ды зьвялося—сьвет іншы паўстаў.
А вось што мне дзед мой нябожчык казаў.

„Была ў сяле хата на дзьве палавіны,
Прасторны абедзьве, як тыя адрыны.

Але пуставала адна палавіна:
У ночы, як пойдзе пад поўнач часіна,

Прыходзіць ціхутка туды Невядомы,
Прыходзіць нявідны, стаіць нярухомы

І толькі гаворыць: „Ой, рыну-ж я, рыну!“
І кожны, пачуўшы такую навіну,

Барджджэй бег наўцёкі, бег вон з тае хаты...
І што ты парадзіш? Той дом быў закляты!

Чаго ні рабілі—вадой акраплялі,
Папоў і ксяндзоў там маліцца склікалі,—

Сваё вядзе „Рыну“, і хата пустуе.
Але раз пад вечар салдацік вандруе.

Прыходзіць служывы. „Эй, добрыя людзі!
Прыпынак салдату на ноч ці ня будзе?“

— І рады-б, саколік, ды ліха такое:
Ня будзеш мець, родны, ўсю ноч ты спакою.

Ёсьць у нас хата, але заклятая:
Там „Рыну“ прыходзіць і сон адганяе.

— Нічога ня зробіць ваш „Рыну“ салдату.—
Заходзіць служывы ў заклятую хату.

Паслалі салдату, як добраму пану.
— Пабудзіце, братцы, як сам я ня ўстану.—

Салдат разваліўся і выцягнуў ногі,
Салодка зяхнуў так, вядома, з дарогі,—

Як пласт паваліўся на мяккае сена
(На ўсякі выпадак узяў ён палена).

Даўно не ляжаў наш салдацік так пышна.
Ляжыць сабе гэта, крыху такі сьцішна,

Але сваё права і сон забірае
І вочы салдату драмком засьцілае.

Вось поўнач падходзіць—магільная ціша,
Замерла ўсё вокал, здаецца, ня дыша.

Салдат здрыгануўся, прыслухаўся—Рыну!
Пабеглі мурашкі ў салдата па сьпіне.

А страх неадступна: „Ой, рыну я, рыну!“
Ды так няпрыемна, ды так надаедна.

Ня вытрываць, чуе, салдацік наш бедны.
Давай абувацца, забыў і палена,

І верціць анучы, прыгнуўшы калена.
А тут, як на ліха, і бот загубіўся,

А „Рыну“ над вухам, як шэршань убіўся
І дудзіць і дудзіць: „Ой, рыну я, рыну!“

— Не, брат, дарма ты, а бот я ня кіну:
Казённыя рэчы важней твайго „рыну“.

Салдат аж пацее, хапаецца, рые—
Няма таго бота, а „Рыну“ аж вые,

Няма з ім ратунку у проклятай хаце!
„Рынь! рынь-жа, брадзяга! рынь, згінь твая маці!

Цярпеньня ня стала, салдат узлаваўся.
І што-ж? гэты „Рыну“ у момант распаўся!

І поўніцца хата ў міг срэбраным звонам,
Бо сыпнулі грошы дажджом нязьлічоным.

1916 г.

# ЗЬМЕСТ

## I. ДУМКІ

Стар.



## II. Родныя абразы

Стар.



## III. СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Стар.

